*Мікола Капыловіч*

# ЧУЖЫ СВАЯК

АПОВЕСЦІ
І АПАВЯДАННІ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

## БЫЛІ Б РУКІ...

### 1

Вёска Селішча была малая, на трыццаць хат, і пагалоска, што да Цімоха Корзуна прыехаў з горада сын Ігар, хутка абляцела двары. І прыехаў не адзін, прывёз з сабою маладую жонку. Паглядзець, зірнуць на яе хоць адным вокам карцела кожнаму, і хутка ў хаце назбіралася багата людзей, найбольш суседзяў. Прыходзілі ў двор, яшчэ з-за парога дабрыдзенькваліся, знаходзілі прычыну, каб зайсці ў хату, сядалі на табурэты і пільна прыглядаліся да маладой прыгожай гараджанкі. Абмацвалі Нону позіркамі з ног да галавы, прызіраліся да яе падхарошанага, падмаляванага твару, да моднай вопраткі і не маглі адвесці ад яе вачэй. Нона не знаходзіла сабе месца ад цікаўных іхніх позіркаў, ніякавела, круцілася на табурэце, падабраўшы пад доўгую сукенку свае прыгожыя, нібы вытачаныя, ногі і глядзела некуды ў акно. І, урэшце, не вытрымала, паднялася і падыбала на тонкіх шпільках, патупацела ў спальню, каб схавацца ад гэтых цікаўных вачэй. Калі яна зачыніла за сабою дзверы, суседзі пасмялелі і далі волю сваім языкам:

— Ну і адхапіў кралю! Лялька, самая сапраўдная лялька!

— Век пражыла, а такой прыгажуні не бачыла! Такіх па тэлевізары паказваюць ды ў кіно здымаюць!

— Дзе ты, Ігар, знайшоў такую паву, дзе выгледзеў?

— Вучымся разам. У аспірантуры,— адказаў госць.

— Напрыдумлялі ўсялякіх навук на чалавека... Інстытуты, спірактуры...

— Гэта для тых, у каго галава варыць.

— Ты, Ігар, можа, на якога міністра вучышся?

— На вучонага.

— Гм, на вучонага...— Яны перазірнуліся, ніяк не маглі зразумець Ігаравых слоў.— Дык ты ж і так вучоны. Куды ж далей?

— Навуцы няма канца...

— А надоўга прыехаў?

— На ўсё лета...

— У добрую пару трапіў... І ягады, і грыбы, і садавіна... Адпачняце, здароўя наберацеся... Тут лепш, чым на курорце... І бацьку помач будзе...

— Так жа і цалялі, каб улетку прыехаць,— адказаў Ігар.

Калі суседзі насядзеліся, нагаманіліся і разышліся, у хаце засталіся адны родзічы: цёткі Грыпіна і Мальвіна, старэнькія бабулі, бацькавы сёстры, што жылі ў канцы вуліцы, дзядзька Харытон, брат і блізкі сусед, вясёлы гаварун з чорнымі гарэзлівымі вачыма, маўклівы дзед Лявон, бацька, маці і малодшая Ігарава сястра Марылька.

Хутка маці заслала стол свежай белай настольніцай і пачала ставіць талеркі, міскі. Потым адкрыла ў печы засланку, выцягнула на прыпечак чорны ад сажы чыгун. Па хаце пайшоў, заказытаў у носе смачны дух ад высмажанага ў печы гусака.

— Марылька, прынясі і пакладзі лыжкі і відэльцы на стол! — прыспешвала маці дачку і сама спорна тупала, кружылася па хаце.— І хлеба нарэж. Не лянуйся, донька, госці ж з дарогі. Галодныя, нічога не елі... Пара ж абедаць.

— Прыйшлі вестачкі, што хочацца естачкі,— заварушыўся, азваўся з лавы дзед.

Ён сагнута сядзеў каля стала, падпершы кавенькаю грудзі. Твар яго, ссохлы і зморшчаны, як сушаная груша, хаваўся ў густых сівых космах, адно толькі з іх тырчаў востры дзюбаты нос ды з-пад сіўцовых броў, выліnялых за доўгія гады, пазірквалі хітраватыя вочы. Здавалася, што дзед Лявон не аброс касмылямі, а ўвесь яго твар і галаву, як старое балотнае дрэва, зацягнула шызым густым мохам.

Дзед жыў тут, у сына і нявесткі, бо сваёй хаты ў яго не было. Некалі, праўда, цераз вуліцу стаяла хаціна, старая і крывабокая, але калі памерла бабка Прося, хату разабралі, перасыпалі на хлеў, і стары перабраўся дажываць свой век у сынаву хату. І яму тут добра. І ўежна і ўлежна. Зімою на печы грэе свае старыя косці, а ўлетку грэецца разам з катом на прызбе або сядзіць у садзе. Хадзіць нікуды не ходзіць, бо нягожы, не носяць ужо ногі, хіба толькі па двары тупае, курэй пасе, каб у чужыя агароды не лезлі, ды каля вулляў сядзіць, сцеражэ раі.

Марылька кінулася дапамагаць маці. Хутка яна ўжо стаяла з перакінутым цераз плячо ручнікам каля стала, выцірала відэльцы, лыжкі, міскі і клала іх па чарзе на стол. Не сядзеў склаўшы рукі і бацька. Ён выйшаў за дзверы, доўга нечым грукацеў, перастаўляў нешта ў каморы і неўзабаве вярнуўся адтуль, апошні раз акінуў вачыма стол, пераканаўся, што ўсё на ім ёсць, усяго хапае, і пачаў запрашаць гасцей:

— Ну, просіма!

І сам сеў на кут, на сваё гаспадарскае месца.

Усе адзін за адным палезлі за стол. Гасцей, Ігара і Нону, пасадзілі паміж бацькам і дзедам, насупраць іх селі цёткі Грыпіна і Мальвіна, а дзядзька Харытон прыладкаваўся на самым краі — рагу стала.

— Калі будуць біць, зручней будзе ўцякаць! —

выскаліўся на ўсе зубы, весела зірнуў на бутлі і робленa, прытворна пахітаў галавою.— Але, мабыць, з-за стала не буду ўцякаць, а выпаўзаць ракам.

— Гасцей бы хоць пасаромеўся... Плявузгаеш абы-што! — сярдзіта зірнуў на яго Цімох.

— Я яшчэ нічога не сказаў...

Не села толькі маці — трэба было старацца каля стала, каб на ім усё было пакладзена, пастаўлена, прынесена і аднесена, каб усяго хапала. Гэта заўважыла нявестка, здзіўлена зірнула на свякруху.

— А вы чаму стаіце?

— Мне ж па гаспадарцы трэба.

— Не, так нядобра,— паднялася з месца Нона.— Госці сядзяць, а гаспадыня стаіць.

Нявестку падтрымаў дзед:

— Госцям гадзі, але і сябе не галадзі!

Нона пасунулася, дала свякрусе месца, і гаспадыня села каля яе.

Гаварылі больш маці і бацька.

— Можа, мы хутка ўнукаў дачакаемся? — асцярожна спытала маці і зірнула на маладых.— Нам даўно з бацькам хочацца быць дзедам і бабай.

Ігар перастаў уплятаць гусака, падняў з калень ручнік, паднёс яго да рота і выцер тлустыя губы.

— А дзе яго гадаваць? Самі на вераб'іных правах жывём у інтэрнаце. Разам са студэнтамі. Ужо камендант намякаў, каб шукалі кватэру... А хіба яе лёгка знайсці ў горадзе? Ого! Ды і вялікія грошы трэба плаціць. Палову, лічы, стыпендыі.

— А дзяржава? Хіба яна не думае пра вучоных?

— Думае, чаму не думае... Але хіба мы адны ў дзяржавы?

— Дабівацца кватэру трэба! На чаргу стаць.

Нона не вытрымала, махнула рукою:

— Калі тая чарга прыйдзе... Можна кватэру кааператывам пабудаваць, але грошы трэба... І немалыя.

А дзе іх узяць? Збіраліся былі на лета паехаць з будаўнічым атрадам на Поўнач і зарабіць трохі на кватэру, але Ігар перадумаў і адгаварыў мяне... Кажа, паедзем да маіх...

— І правільна зрабіў, што адгаварыў. Што на той Поўначы? Адзін мох. А ў нас і грыбы, і ягады ў лесе, сад горбіцца ад яблык і груш... Аж голле раздзіраецца. Рэчка пад бокам. Загарай сабе, купайся. Можна і рыбы палавіць. Адным словам — курорт... І работы ў нас хапае. Нават больш, чым на той Поўначы. Рабі — не пераробіш... Хоць гвалт крычы. Я з таго месяца на пенсію пайшоў... Надумаўся цяпер толкам узяцца за гаспадарку. Да гэтага не было калі і як... Падмогі не было. Ігара чакаў. Цяпер мы з ім усё паставім тут з галавы на ногі. Навядзём парадак. І Ноне знойдзем да чаго зачапіць рукі, каб не свярбелі без работы.

— Дай хоць з дарогі гасцям адпачыць,— нездаволена буркнула маці, скоса зірнуўшы на гаспадара.— Не паспелі яшчэ агледзецца, а ён ужо пра работу загаварыў.

— Хоча стаць аднаасобнікам,— падтрымаў яе дзядзька Харытон і пахітаў галавою. Уздыхнуў і спачувальна паглядзеў на Ігара.— Не дасць ён цяпер табе, нябож, спакою... І тваёй маладзіцы... Запражэ ў ярмо, як чорнага вала...

— Што ты там швэркаеш абы-што? — бліснуў вачыма Цімох.— Заліў мазгаўню, дык маўчы.

— Хіба я кажу няпраўду?

— Не зліняюць, калі і памогуць бацькам.

Цімох паглядзеў на гасцей, чакаючы ў іх падтрымкі і згоды.

— А мы і не прыехалі сюды адлежвацца...— падвёў канец спрэчцы Ігар.

— Праўду кажаш, сынок.

## 2

Пасля абеду бацька павёў сына і нявестку паказваць сваю гаспадарку. Яны зайшлі ў сад.

Галлё на яблынях аж ламалася ад садавіны і, падпёртае коллем, звісала, як пляцёнкі цыбулі, да самай зямлі; дыхне вецер — закрэкчуць ад цяжару яблыні, натужна заскрыпіць галлё і аб зямлю глуха і часта загупацяць яблыкі.

— Столькі дабра прападае! — прыслухаўся да саду і ўздыхнуў Цімох.

— Вам бы на кірмаш гэтыя яблыкі,— параіла Нона.— Грошай багата выручылі б...

— Каб жа так было, як ты гаворыш. Горад далёка. Ды і дзе возьмеш транспарт? На плячах жа яблыкі гэтыя і грушы не панясеш.

— Дык жа можна дзяржаве здаць,— зірнуў Ігар на бацьку.— На вінзавод... Там возьмуць.

— Не бяруць. Ад калгасаў і саўгасаў прымаюць, а ад тых, хто мае свае сады,— не.

— Рабіну, каліну прымаюць жа... Нават у газетах запрашаюць здаваць яе.

— А яблыкі, бач, падаюць і гніюць. І не ў мяне аднаго... Ва ўсіх дварах так. А колькі такіх двароў, колькі вёсак па краіне? Тысячы.— Цімох памаўчаў, пачухаў патыліцу.— Не, тут, няйначай, нейкі недагляд, непарадак. Столькі дабра прападае дарма.

Пад яблынямі і грушамі ляткамі на поўдзень стаялі рамачныя вуллі. Каля іх паветра аж кіпела ад пчол, звінела тонкім звонам.

— Ці багата мёду яны наношваюць за лета? — пацікавіўся Ігар.

— Як у якое лета... Летась хвароба нейкая ў вуллі ўлезла, і пчолам не да ўзятку было... Саміх трэба было цукрам карміць. Каб не стары, усе вывеліся б, перадохлі б. Выхадзіў, вырataваў неяк... Зёлкамі.

А цяпер мёд будзе... Бачыце, як ґуста ў полё ляцяць. Так і сыплюцца з вулляў і ў вуллі.

— А вы не баіцеся іх? — спытала Нона.— Пчолы ж кусаюцца.

— А я да іх і не падыходжу,— адказаў Цімох.— Гэта дзедава справа. Ён, бачыце, спецыяльна і аброс барадою, каб пчолы заблытваліся ў ёй.

І раскацiста зарагатаў — Цімоху самому спадабалася свая выдумка.

Потым пайшлі на соткі.

Хораша цвіла на загонах бульба! Белыя і ружовыя кветкі стаялі на тонкіх сцяблінках над густым і кусцістым, як лаза, бульбянікам. Загоны бульбы спаўзалі, спускаліся за хлявом у лагчыну. Там, на нізкім месцы, былі агароды. На градах лапушыліся буракі, завязваліся, нібы сціскаліся ў кулакі, яшчэ кволыя качаны капусты, выпусціла з зямлі гічанне морква. І ўсе грады былі дагледжаны, прыкапаны і прысыпаны, праполатыя, як не абгладжаныя рукамі, толькі ў самым канцы сотак кідаўся ў вочы густа зарослы зеллем загон. Яго зацягнула лебядою.

— Агуркі,— перахапіў позірк гасцей і растлумачыў гаспадар.— Зеллем іх заглушыла зусім... Хацелі былі сёння прапалоць, але не паспелі — вы прыехалі.

— Я сама прапалю,— азвалася Нона.— Выберу ўсё зелле.

— Вось і помач маці будзе,— узрадаваўся Цімох.— Я ж казаў, што былі б рукі, а работа знойдзецца.

Да самых сотак падступала балоціна. На ёй расла купчастая лаза. Яна з кожным годам усё больш шырэла, расплывалася на балоціне, у якой, колькі сябе ведае Ігар, заўсёды вяліся вужы. Здабычы ім тут хапала — ад ранняй вясны да позняга лета ў балотнай твані стомлена, разамлела кракталі жабы. Сям-там з жабурыння тырчэлі чорныя пні.

— Павырываем, павыдзіраем іх з карэннем, як гнілыя зубы з дзёснаў,— гаварыў Цімох.— Выпішу ў калгасе бульдозер, і ён рассуне, раструшчыць гэтае гніллё. І сажалку тут выкапае. Карасёў завядзём, карпаў... Свая рыба будзе зімою і летам. Вось так! — Ён яшчэ раз зірнуў на балоціну, потым паглядзеў на Ігара.— Толькі лазу трэба выцерабіць. Гэта ўжо наша, сыне, работа. Правядзём сваю дамашнюю меліярацыю...

Вярнуліся назад у двор, і гаспадар павёў гасцей у хлеў. Расчыніў насцеж вароты і першы ступіў на зляжалы гной, засланы чыстай, свежай саломай.

— Гною за лета нарасло,— патаптаў ён нагою падсцёл,— хутка ў хлеў не ўлезеш. Трэба выкінуць яго на двор, пад сцяну.

Ігар не азваўся на бацькавы словы, быццам і не чуў.

Тры пярэстыя каровы, круглабокія, напашчаныя, стаялі ў хляве перад шырокім карытам, жавалі зелле і адмахваліся ад аваднёў хвастамі. Яны павярнулі на скрып варот галовы і, пазнаўшы гаспадара, перасталі жаваць, падышлі да Цімоха, абступілі яго — хацелі, каб ён пагладзіў.

— Красуні мае, харошыя, рахманыя мае, ласкавыя...— пачаў прыгаворваць гаспадар.

Нона стаяла ў варотах, баялася падыходзіць, толькі здалёк дзівілася на кароў.

І спытала:

— А многа яны малака даюць?

— Пяцьдзесят літраў за дзень,— адказаў Цімох.

— Ого! — падняла яна ад здзіўлення падведзеныя бровы.— І дзе вы яго дзеяце? Столькі ж не вып'еш...

— Дзяржаве здаём! — ганарліва азваўся свёкар.— Горад трэба ж паіць малаком. І Харчовую праграму выконваць...

— За грошы, вядома?

— За што ж яшчэ... Дарэмна і варона не лятае. І дзяржава нам памагае... Камбікормам, сенам.

— А хто іх пасе?

— Самі... Па чарзе на пашу выганяем. Сёння адна хата, заўтра другая... Колькі ў двары кароў — столькі і дзён трэба пасвіць. За карову — адзін дзень.

— А хіба пастуха нельга на лета наняць? Усёй вёскай... Хай бы і пасвіў...

Цімох паглядзеў на нявестку здзіўленым і насмешлівым позіркам.

— Вялікія грошы трэба плаціць, каб наняць... Трыста рублёў у месяц яму трэба даць, каб пасвіў. За карову — дзесятка. За меншыя грошы ніхто не пойдзе ў пастухі...

— Ого! — здзівілася Нона.— У нас кандыдат навук менш атрымлівае. А тут ніякай дысертацыі не трэба.

— Кароў пасвіць трэба ўмець,— адказаў Цімох.— Не кожны гэта ўмее... Тут таксама навука трэба. І немалая...

Ігар слухаў размову жонкі з бацькам і весела пасміхаўся. І не вытрымаў, умяшаўся, спытаў у бацькі:

— А хутка чарга да нас падыдзе?

— Хутка. На тым тыдні.— І Цімох зірнуў на нявестку і сына.— Так што рыхтуйцеся... Пагоніце пасвіць кароў... Тры дні трэба адхадзіць у лесе.

— У лесе? — здзівілася Нона.— Там жа ваўкі ходзяць... Чаму ж не на полі?

— Выганаў у нас тут няма... Вось і пасуць у лесе... Нават калгасны статак туды гоняць,— растлумачыў ёй Цімох.

Настрой у Ігара адразу прапаў. Ён ведаў, што гэта такое — пасвіць у лесе кароў... Гнаць іх трэба праз непралазную гушчэчу, ганяцца за шкадлівымі каровамі па хвойніках, у якіх растуць казлякі, любімы іх

ласунак, заварочваць рагуль у чаргу, крычаць, пакуль не ахрыпне горла.

— Няёмка мне з Нонай гнаць чаргу,— уздыхнуў Ён.— Што скажуць людзі? Вучоныя — і пастухі... Сорамна.

Цімох не чакаў такога ад сына, здзіўлена пагля-дзеў на яго.

— Бач, вучоны знайшоўся. Сорамна яму кароў пасвіць... А малако піць не сорамна?

Бацька не на жарт разышоўся, бліжэй падступіў да сына, бо словы Ігара моцна зачапілі, данялі Цімоха, замахаў рукамі:

— Ды ў нас усё начальства гоніць на пашу кароў, калі прыйдзе чарга. І дырэктар школы, і старшыня сельсавета... Бяруць пугі і ідуць пасвіць. А ты —сорамна... Распусціўся ты, бачу, у горадзе, разленаваўся...

— Можа, наняць каго, каб папасвіў,— параіў бацьку Ігар.

— Каго наняць?! — Цімох аж падскочыў, як уджалены.— Свае пастухі ў хаце, а я буду бегаць па хатах, шапку здымаць, прасіць, каб кароў папасвілі? Засмяюць людзі! Вось дзе сораму не абярэшся! Ды і ўлетку ўсе заняты... Хто пойдзе?.. Свабоднага чалавека днём з агнём не знойдзеш ва ўсёй вёсцы...— Ён на хвіліну змоўк, зноў загаварыў, пахітаў галавою:— Гм... Наняць... Ці доўга ты думаў, каб сказаць такое? Каб наняць пастухоў, трэба ім грошы даць... І не адзін рубель... А рублі гэтыя, скажу табе, на дарозе не валяюцца... Зарабіць іх трэба... Вось гэтымі рукамі,— і Цімох расчапіў кулакі, працягнуў сыну шырокія цвёрдыя далоні.— Мазалямі трэба іх зарабіць...

Ігар не рады быў цяпер, што патрывожыў, узлаваў бацьку, і, каб супакоіць яго, сказаў:

— Не крычы! Пагонім, калі так.

Цімох аціх і зноў спакойным, роўным голасам загаварыў з Ігарам, быццам і не было з ім спрэчкі. Ігар ведаў бацькаў характар, гарачы і адходлівы, уважліва слухаў яго, калі Цімох зноў пачаў хваліцца сваёй гаспадаркай.

Цімох не ўцярпеў, вывеў Нону і Ігара на двор і па-змоўніцку, каб здзівіць сына і нявестку, падвёў іх да свінушніка і адчыніў варотцы. З іх на двор вывалілася цэлае свіное сямейства. Кароткія ногі не трымалі распухлых ад тлушчу кормнікаў, падгіналіся ад цяжару, і кабаны толькі дапаўзлі да плота, упалі, уляглiся ў цяньку.

— Як сланы! — пахваліў Ігар кормнікаў.— Хоць на выстаўку вязі...

— Мукою і вотрубямі кормім... Хутка павязём здаваць на базу.

— Багата грошай за іх дадуць? — пацікавіўся сын у бацькі.

— Дадуць, колькі яны заважаць,— абышоў далікатнае пытанне Цімох.

Ігар павёў позіркам па двары. Усё тут да драбніц яму знаёма з самага дзяцінства: і шырокая паветка, пад якою ён, малы, некалі ладзіў лыжы і самакаты, калоў і складаў дровы, калі падрос, і ўрослы, асунуты ў зямлю склеп, куды на зіму ссыпалі бульбу, ставілі бочкі з капустаю і агуркамі, і сляпая, без вокан лазня — спрадвечная асалода і радасць для дзедавага цела.

Позірк яго спыніўся на абкораных і абчэсаных дубовых шулах, якія ляжалі пад плотам.

— Будаваць нешта надумаў? — спытаў у бацькі.

— Ага,— адказаў Цімох.— Лядоўню... Будзе куды ўлетку малако ставіць, каб не скісала... Поўны бітон кожны дзень маці надойвае малака. Здаваць яго трэба на другі дзень. І за ноч скісае, хоць і апускаем бітон у калодзеж — яго ж у халадзільнік не ўсунеш...

Вось і надумаў лядоўню... Зраблю за лета... З тваёю дапамогаю...

Яны яшчэ трохі пастаялі на двары і пайшлі ў хату — трэба было адпачыць з дарогі.

Маці паслала ім у другой палове хаты на шырокім драўляным ложку. Госці распрануліся, залезлі пад коўдру, патанулі ў мяккіх падушках і адразу заснулі моцным маладым сном.

## 3

Як толькі на ўсходзе набрыняла чырванню неба і з-за лесу выкацілася круглае, як бубен, сонца, Цімох выгнаў з двара чаргу кароў, забег у хату, падышоў да ложка, на якім спалі госці, і дакрануўся рукою да сынавага пляча. Ігар адразу прахапіўся, сеў, спусціўшы з ложка ногі, працёр вочы і няўцямна пакруціў спрасонку ґалавою:

— Што?

— Ты ж прасіў, каб я пабудзіў па грыбы.

— Так рана?

Ігар шырока, смачна пазяхнуў на ўвесь рот, пачухаў грудзі.

— Рана іх толькі і збіраюць,— сказаў яму бацька.— За ноч нараслі, павысоўваліся, як сукі... Ідзіце на Даўгір... Па высокіх месцах шукайце. На грудах. Па хвойніках і бярэзніках. І на дубняках. Можна назбіраць, калі не ленавацца.

Сказаў і пайшоў з хаты.

Ігар пачаў будзіць Нону. Жонка соладка спала, доўга не хацела прачынацца, варочалася, пакуль Ігар не пацягнуў яе за нос. Прачнулася, ступіла босымі нагамі на падлогу і, нібы п'яная, паківалася спрасонку да акна, спынілася, адшмаргнула ўбок фіранку і вызірнула на двор.

— Якое вялікае сонца! — здзівілася яна.— Якое чырвонае!

Нона, жывучы ў горадзе, ніколі не бачыла ўсходу сонца. Сонца ўставала за гмахамі дамоў, і высокія гарадскія камяніцы засланялі яго. Нона ніколі яшчэ так рана не прачыналася, і зараз тут, у вёсцы, калі яна стаяла каля акна, ёй здавалася, што сонца стаіць зусім блізка — працягні руку і, здаецца, дакранешся да яго.

Хутка апрануліся і выйшлі з хаты.

Лес сустрэў іх урачыста і святочна. Сонца ўжо даўно адарвалася ад зямлі, стаяла ў небе, і яго праменні тоненькімі саломінкамі жаўцелі між галля, пераліваліся, паблісквалі ў кроплях расы.

Туман яшчэ стаяў між камлёў хвой і бяроз, заблытана вісеў на кустах арэшніку і, хаваючыся ад сонца, памалу спаўзаў, сходзіў у лагчыны.

Нона ішла ўслед за Ігарам, пільна ўглядалася сабе пад ногі, зазірала пад кожны пянёк, пад кожны куст, але на вочы ёй не трапляліся не тое што баравікі, але нават паганкі. Ігар спыняў жонку:

— Не хадзі за мною. Так грыбоў не набярэш...

— Я баюся... Заблуджу яшчэ...

І адыходзіла на нейкі момант убок, але хутка Ігар зноў бачыў жонку поруч і ўжо прымірэнча гаварыў:

— Хадзі як хочаш... Яшчэ, крый божа, давядзецца ў лесе шукаць не баравікі, а цябе...

Выйшлі, выцерабіліся з густога асінніку на груд, на якім стаялі тонкія, напятыя, як струны, хвоі. Дол пад імі, спрэс засланы рудой ігліцай, быў чысты, роўны і сухі, хоць бокам каціся... Абышлі, азірнулі груд, але не знайшлі ні аднаго баравіка. Тут толькі стаялі з кароценькімі спаднічкамі на цыбатых ножках і рэзалі чырванню вочы мухаморы ды да зялёнага моху, што плямамі ляжаў каля камлёў хвой, жоўтымі гузікамі папрышываліся чародкі лісічак. А вось і пер-

шы баравік! Ды яшчэ які! Вялізны, як рэшата, ён падпёр сваім жоўтым капялюхам хвойку і нібы сам прасіўся ў рукі. Ігар нагнуўся, зрэзаў яго і ад здзіўлення аж прысвіснуў — баравік заняў усё дно ў кашалі. Да Ігара падбегла Нона і, убачыўшы баравік, аж заскакала, як дзіця, ад радасці:

— Баравік знайшлі, баравік знайшлі!

Яны разышліся па грудзе, і, як ні кружылі, ні вілялі па ім, баравікі больш не трапляліся.

Звярнулі ў дубняк, прайшлі трохі і раптам прыселі ад нечаканасці і здзіўлення — пад дубам, у пруткім сіўцу, сядзела цэлая кампанія чорнагаловых баравікоў. І ўсе адзін у адзін — маладыя, прысадзістыя, цупкія і белыя, як рэпа. Быццам сабраліся з усяго лесу ў гурт. Каля трухлявага пня Ігар убачыў і іхняга атамана — таўстапузага мацака. Узяў рукою за корань, падрэзаў і паклаў у кошык. За атаманам пайшлі туды і яго меншыя браты.

— Сорак адзін, сорак два,— зразала, лічыла баравікі і аж захліпвалася ад радасці Нона. Хутка кашэль быў з верхам напоўнены цвёрдымі смуглагаловымі баравікамі.

І раптам увачавідкі ў лесе пачало цямнець. Ігар прыслухаўся — недзе далёка, падалося яму, глуха і раскаціста пагрымвала.

— Дождж будзе!

У голлі дрэў заварушыўся вецер, потым густа зашумеў і пачаў раскалыхваць вершаліны. Сонца ўжо не свяціла— яно патанула, утапілася недзе ў хмары, што вырасла над лесам, расплылася па небе. Дыхнула ў твар прахалодай і вільгаццю.

Раптам над лесам хмара нібы разламалася — недзе блізка суха ляснуў пярун. І пакаціўся між дрэў грукат і доўга аддаваўся рэхам у бары, пакуль далёка недзе не заціх на буркатлівым, незадаволеным пагалосе. І тут стала зусім ціха, нават не вару-

шыўся ніводзін лісток на дрэвах. Такая цішыня стаіць перад самай навальніцай. Ігар і Нона прыслухаліся. І пачулі недалёка глухі, густы пошум, які набліжаўся, хутка рос у вушах — на іх каціўся дождж. Яны кінуліся пад густы граб.

І пачалося! Кроплі спачатку залапацелі па лісці, потым лінула з неба, як з рэшта. І заткала шэраю пражаю камлі дрэў, і паплыў перагонамі па лесе вадзяны пыл.

Мільганула, бліснула над лесам белая маланка. Коратка і моцна ляснула, аж зазвінела ў вушах. Дождж лінуў яшчэ гусцей, і ў шэрым змроку патанулі камлі дрэў.

— Во дае! — ускліінула Нона.

Хутка хмара спаўзла, ссунулася з неба, і з яе вынырнула і засвяціла сонца. З дрэў густа церусіліся на зямлю кроплі, мігцелі, бліскалі ў праменнях сонца, як веласіпедныя спіцы. Светла, чыста, свежа было ў лесе пасля дажджу. Блішчэлі на сонцы лісце, трава. Парыла зямля. Пара падымалася з цёплай, як чарано, зямлі, клубамі кацілася між камлёў. Засвісталі на ўсе галасы птушкі.

— Як добра тут! — расхінула ў бакі рукі ўзбуджаная і расхваляваная Нона, паднесла да рота далоні і гукнула: — А-у-у-у!

Недзе блізка азвалася, пераламалася рэха. Яна шчасліва засмяялася, павярнулася да Ігара, і ў яе вачах застылі пяшчота і ўзрушанасць:

— Зайздрошчу табе, Ігар!

— Чаму?

— Што ты рос тут, у вёсцы, і кожны раз бачыў такое хараство!

Ноне здавалася, што яна трапіла ў казачны свет.

— Не ведаў ты, грыбе, што цябе надыбе!

Кашэль з грыбамі стаяў на падлозе, дзед сядзеў перад ім на нізкім услончыку, перабіраў рукамі, разглядваў баравікі, адкладаў іх у рэшата, а казлякі — у чыгунок на смажанне.

— Вось гэты руды сядзеў пад хвояй, гэты белагаловы —пад бярозамі, а гэты, смуглявы, як цыган, хаваўся недзе ў дубняку,— гаварыў ён сам сабе пад нос.

— Адкуль вы ведаеце? — здзівілася Нона ад дзедавай дасведчанасці, быццам не яны, а ён хадзіў па грыбы ў лес і прыкмячаў, у якім месцы падняў кожны баравік.

— Па масці бачу... Па баравіковай шапцы,— адказаў стары Лявон.— Якая баравіна, такая і грыбіна.

Госці сядзелі за сталом і снедалі. Нона брала з міскі дранікі, мачала іх на два бакі ў смятану, са смакам ела, запівала іх малаком. Час ад часу яна пераставала жаваць, уздыхала ад асалоды і стомы. Нарэшце яны паснедалі, наеліся да колак у жыватах і, паружавелыя, разморапыя, вялыя, нібы зрабілі нейкую цяжкую работу, селі адпачыць.

— Хто пад'еўшы не аддыша, таго бог за свінню запіша,— заўважыў на гэта дзед.

Нона пранікліва зірнула на яго і спытала:

— Вы, дзеду, усё гаворыце прыказкамі. Вы самі іх прыдумляеце ці ад каго чуеце?

— І самі, і людзі ў нас так кажуць.

— У рыфму, як паэт, гаворыце.

Дзед падняў вочы:

— Я і ёсць паэт! Людскі! Толькі вось граматы не хапае. Калі б мне вашая, унукі, навука, мой партрэт даўно б вісеў у кожнай хаце на покуці. Разам з гэтым Талстым!

— Дык я буду запісваць усё, што пачую ад вас,— узрадавалася, што знайшла сабе карысны занятак, Нона.— А ў Мінску вучоным аддам... Яны праславяць ваша імя, у кнігі яго ўключаць.

— Позна, унучка... Спазнілася ты... Прыязджалі да мяне гэтыя вучоныя... З Акадэміі... Акадэмікі прыязджалі,— падняў перад сабою палец дзед.— Вось хто! Цэлы тыдзень былі... Запісвалі мяне, здымалі на картачкі. Казалі, што ўсё ўнясуць у кнігу... Вось як!

— Фалькларысты прыязджалі?

— Яны, яны,— кіўнуў галавою дзед.— З магнітафонамі каторыя.

Ігар пераззірнуўся з Нонаю.

Прыбегла з двара ў хату маці і, убачыўшы поўны кашэль грыбоў, застыла, спынілася ў парозе.

— Вось гэта грыбнікі! — пляснула яна ад здзіўлення ў далоні.— Даўно столькі грыбоў не было ў нашай хаце!

— Вочы ў іх маладыя,— заўважыў дзед,— дзе той баравік ад іх дзенецца?

Маці спяшалася, на двары чакала нейкая работа, але ўсё ж прысела на хвілінку на край табурэта, зірнула на нявестку.

— Не стамілася?

— Аніяк... Здаецца, цэлы дзень хадзіла б у лесе. Прыгожа ў ім... А паветра! Духмянае, як мёд, салодкае!

— Добра ў нас?

— Яшчэ пытаеце! Лепш і не трэба! — радасна ўсклікнула Нона.— Вось кінем горад і пераедзем да вас жыць.

— І пераязджайце... Не прагадаеце. Хату паставім, дзяцей вашых будзем глядзець. І работа тут знойдзецца — у школе...

— І ўсё, што на стол паставіць, будзе сваё,— да-

ла волю летуценням нявестка.— І мяса, і малако, і яйкі! Не трэба будзе хадзіць у магазін. А грошы будзем класці на кніжку... Глядзіш — і машыну можна будзе купіць.

Ігар паслухаў жончыну балбатню і не вытрымаў:

— Соладка гаворыш! Каб было ўсё тут сваё, трэба рабіць ад цямна да цямна. Рачкаваць і не разгінаць спіны. Без выхадных. Тут, у вёсцы, іх няма. А ты любіш паляжаць у пасцелі... А каровы, куры, свінні? Іх жа пакарміць трэба. А ты не ведаеш, з якога боку да іх падысці.

— Ты будзеш падыходзіць,— знайшла што сказаць Нона.— А што?

І зірнула на мужа.

Ігар безнадзейна махнуў рукою:

— Я ведаў, што ты гэта скажаш.

— Вось табе і пераехалі! — засмяялася маці.— Вось і дагаварыліся! Адразу Ігару работа знайшлася!

— Рабіў там, рабіцьмеш тут, запрагла — не бі ў хамут! — не прапусціў выпадку сказаць сваё дзед.

І засмяяўся аднымі толькі вачыма.

## 5

Зляжалы, утрамбаваны каровамі гной роўна ляжаў у хляве, і Ігар з усіх сіл, моцна трымаючы ў руках слізкае дзяржальна, увесь натужваўся, калупаў віламі дол, каб сарваць пласт, але гэта напачатку яму не ўдавалася — пальцы разгіналіся, сахор выслізгваў, вырываўся рук. Госць часта разгінаўся, цяжка дыхаў, выціраў пот і з зайздрасцю пазіркваў на бацьку. Той арудаваў віламі ў другім кутку хлява. Вілы нібы самі хадзілі ў яго руках, лёгка здзіралі шырокі і бухматы, як аўчына, пласт, гарнулі, кацілі яго да варот і далёка шпурлялі на двор. Гной чвякаў пад

гумавікамі Цімоха, і яго даўкі пах разыходзіўся па хляве, казытаў у грудзях.

— Як пахне, га? — Ён спыніўся, пацягнуў носам паветра і зірнуў на сына.— Чуеш?! Адгадай — чым? — Шкіпінарам пахне...— Цімох перастаў ірваць гной, разагнуўся, склаў накрыж рукі на канцы дзяржальна, абапёрся на яго грудзьмі і азірнуў хлеў.— Багата, скажу табе, гною нарасло. Нядаўна, здаецца, выкідвалі ж... Як на сотках садзілі...

— Тры ж каровы... Не дзіва, што гною наробяць,— азваўся Ігар.

— Ды і пасцёлу не шкадаваў... Леташняй атавы багата засталося. Каровы не елі, дык я ім пад бакі падкідваў, падсцілаў. Спалі, як паненкі ў пярыне. І, бач, колькі гною натапталі.

— За тыдзень не вывернем.

— За тыдзень? — здзіўлена перапытаў гаспадар.— Да абеду будзе на двары!

— Пуп развяжацца...

— Калі ён на адзін вузел завязаны,— усміхнуўся Цімох і зірнуў на гладкі пукаты сынавы жывот, які выпінаўся з-пад майкі, на белыя, як малако, плечы Ігара.

— Пакінем трохі на заўтра.

— Ну і гаспадар ты, бачу! — пакруціў галавою бацька.— Выходзіць, закідаем, завалім вароты гноем і кароў не будзе як на ноч загнаць у хлеў, калі з пашы прыйдуць.

— На двары пераначуюць... Толькі той і бяды,— азваўся Ігар.— Цяпер жа не зіма.

— Камары ж іх заядуць...

Зноў узяліся за работу, налеглі на вілы. Цімох раз за разам з размаху глыбока засаджваў у гной вілы, хвацка, спрытна падсядаў, клаў дзяржальна на калена, падважваў і вырываў з долу важкія скібы, шпурляў і шпурляў іх на двор.

Быў ён у майцы. Тугія вузлы мускулаў перакочваліся па яго сухарлявым целе, напіналіся на руках; касцістая пругкая шыя, па якой паката збягалі на плечы тоўстыя, як карані, жылы, напялася, пачырванела ад натугі, і на ёй blішчэлі дробныя кропелькі поту. Перад ім у расчыненых насцеж варотах хутка расла, шырэла вялікая куча гною.

Стараўся не адстаць ад бацькі, пнуўся з усіх сіл і Ігар. Ён увесь, як квач, змок ад поту. Пот заліваў твар, шчыпаў у вачах, цёк пісягамі па грудзях, і хутка майка на госцю пацямнела, стала мокраю, хоць выкручвай. Ігар часта ставіў вілы да сцяны, бег на двор, аддыхваўся там, хапаў у рукі слоік з халодным бярозавікам, прагна, абліваючы сябе, піў і ніяк не мог напіцца, наталіць смагу. Потым зноў ішоў у хлеў і браўся за вілы. Стараўся як мог, але работа ў яго не ішла так спорна, як у бацькі,— перад сынам у падваротні ляжала невялікая нізенькая кучка выскубленага з-пад ног гною. Упіраўся нагамі ў дол, калупаў і калупаў віламі гной, чакаў, калі пакажацца зямля і скончыцца гэтая работа, але ёй не было ні канца ні краю. Моцна нылі, аж млелі, рукі і ногі, дзяржальна пад пальцамі гарачэла, пякло ў далоні. Ігар перастаў ірваць гной, адняў ад дзяржальна рукі, паднёс іх да вачэй і ўбачыў на далонях вадзяністыя мулякі.

— У цябе няма ніякіх рукавіц? — спытаў у бацькі.

— Што? — не зразумеў Цімох.

— Рукавіц, пытаю, няма?

— Якія гэта рукавіцы? — разагнуўся і ўтыкнуў вілы ў гной бацька.— Нашто яны табе? Цяпер жа не зіма.

— Мулякі вось... Агнём пякуць...

Гэта рассмяшыла Цімоха.

— Ну і работнічак! Бач, рукавіцы яму падавай!

Хто гэта ў рукавіцах у нас робіць?! Гэта вы там у горадзе распанелі. І на рабоце, і на вуліцах у рукавіцах ходзіце.

— Гэта ты пра каго гаворыш? — падняў на бацьку Ігар вочы.

— А пра гарадскіх гультаёў... Пра каго ж яшчэ. Пра тых, хто з раніцы да вечара каля магазінаў стаіць... Прайсці не даюць. Усё капейкі просяць на віно. Некалі людзі галодныя хадзілі, а рук не працягвалі, каб на хлеб папрасіць. Пасля вайны... А цяпер?.. Пухнуць не ад голаду, а ад віна. Морды, як у бульдогаў... Цьфу! Ад распусты ўсё гэта... У ярмо ўсіх іх трэба і — пугаю... Бульдогаў гэтых...

— Не ўсе ж такія...

— Я ж не кажу, што ўсе. У нас, у вёсцы, такіх хутка прыбралі б да рук...

Цімох выгаварыўся і зноў схапіўся за вілы:

— Націскайма, бо ўжо хутка абед.

Ігар ужо вяла махаў віламі, ледзьве ад стомы перастаўляў ногі, а бацька толькі яшчэ размяўся, разышоўся ў рабоце, спрытна без перадыху ўвіхаўся ў хляве з віламі і ўсё падганяў сына:

— Давай, варушыся! Ходзіш па гнаі, як муха па смале... Лаўчэй, спрытней трэба рабіць... Гэта не работа, а фізкультура... Перад абедам трэба рукамі памахаць, каб нагнаць апетыт.

— У мяне і без гэтага ён добры...

Вілы адразу застылі ў руках у Цімоха. Ён, не разгінаючыся, злосна пазірнуў, як стрэліў, на сына:

— Далікатны ты стаў!

Вілы нарэшце дасталі да зямлі, уткнуліся зуб'ямі ў пясок, і Ігар узрадавана, з палёгкай уздыхнуў — хутка канец работы. Засталося толькі падчысціць хлеў, заслаць яго свежым падсцілам. Бацька чыста выбраў, быццам вымеў, гной у сваім кутку, паставіў да сцяны вілы, схапіў у рукі лапату і пачаў падчыш-

чаць дол, раўняць яго і выкідваць за вароты дробны перагной. Там, дзе перагной быў цямнейшы і тлусцейшы, браў яго на поўную лапату, капаў і капаў...

— Вясною пад буракі пойдзе. Падсыплем у яго салетры, перамяшаем... Кампост будзе... За восень і зіму перагніе, упрэе і — на соткі. Усё пачынаецца з гною... І малако, і мяса, і нават грошы...

— Грошы табе ўсё сняцца, жыць не даюць,— не вытрымаў Ігар.— Хоць бы на пенсіі адпачыў як чалавек. Каровы, цяляты, свінні... Хутка сам з імі зарухкаеш ды замэкаеш.

— Бач, як ты загаварыў! Салаўём заспяваў! — Цімох перастаў капаць, бліжэй падступіўся да сына і пачаў размахваць перад яго носам рукамі: — Забыў ужо, як табе кожны месяц грошы прысылаў, калі студэнтам быў? Каб паеў як чалавек, каб апранаўся і хадзіў не горш, чым другія. Прысылаў, і ўсё табе было мала... Забыў?.. Вывучыў цябе, можна сказаць, на свае грошы.

— Мне стыпендыю давалі...

— На дзень табе хапала той стыпендыі... Хапала, каб пазычанае аддаць.— Бацька разышоўся, патрос перад сынам цвёрдымі і жоўтымі, як падэшва, далонямі. Мазалёў на іх не было відаць — далоні самі былі двума вялікімі суцэльнымі мазалямі. — Вось гэтымі мулякамі карміў і апранаў цябе, сам недаядаў... А цяпер Марылька падрастае. Хутка нявестаю будзе. Захоча таксама хораша хадзіць, смачна есці. Вучыцца далей пойдзе... І памагаць ёй трэба будзе. А ты, бач, як загаварыў!

Цімох выгаварыўся, змоўк і зноў узяўся капаць у хляве. Хутка ён падабраўся, падышоў, выкопваючы перагной, з лапатаю да самай падваротні. Ігар зразумеў, што работа закончана, прысланіў да сцяны вілы, радасна ўздыхнуў і ступіў да варот.

— Куда гэта ты? — пазірнуў на яго бацька.

— У хату. Куды ж?

— Мы толькі палавіну работы зрабілі. Рана ты нарабіўся... Гной жа трэба адкінуць ад варот да сцяны. У яму.

Ігар глянуў на вялікую і высокую, як гара, кучу гною, што засланяла вароты, і ўвесь аж скалануўся.

— Сам выкінеш...

— Вось помачы дачакаўся!..

— У мяне рукі і ногі ўжо не гнуцца — баляць.

— Гэта ад гультайства... Бо нічога не рабіў, застоіўся, як конь у загародцы.

— Як гэта нічога не рабіў? Дысертацыю пісаў...

— Паперкі перагортваць — не работа.

Ігар нічога не адказаў, памкнуўся быў выйсці з хлява на двор, але бацька спыніў яго, перагарадзіў сыну дарогу.

— Калі пойдзеш, скажу ў хаце, каб табе есці не давалі... Не зарабіў.

Ігар вярнуўся і зноў узяў у рукі вілы...

## 6

І сёння яго паднялі з пасцелі разам з сонцам. Будзіў, праўда, не бацька, а маці. Яна ціхенька адчыніла ў спальню дзверы, на дыбках падышла да ложка і, затаіўшы дыханне, спынілася. Ігар, раскінуўшы на падушках рукі, моцна, смачна спаў, роўна дыхаў; каля яго згарнулася, скруцілася калачыкам пад коўдрай, як малое кацяня, і спала нявестка. Будзіць іх вельмі не хацелася, маці доўга стаяла ў спальні, прагна глядзела на спакойны твар сына, не магла ніяк наглядзецца, і ёй здавалася, што Ігар ніколі не пакідаў хату, заўсёды спаў на гэтым ложку, быў усё такім жа малым неслухам, за якім яна нека-

лі ганялася з дзеркачом. Прыгадала, як тады цяжка было раскатурхаць, разбудзіць сына раніцай. Спаў ён моцна, як забіты. Тады яна намочвала ў халоднай вадзе руку, падыходзіла да ложка і праводзіла мокрай далонню па сонным твары Ігара — сын адразу прачынаўся.

Нерашуча працягнула руку, дакранулася да гарачага сынавага пляча.

— Уставай, сынок,— мякка, ціха сказала яна, адступіла ад ложка і цяжка ўздыхнула, быццам зрабіла нешта нядобрае, паганае.

— Зноў на работу? — падняў з падушкі галаву Ігар, сеў і абвёў вачыма хату.

У хаце яшчэ добра не развіднела, і ён спрасонку цяжка засоп, незадаволена зморшчыўся:

— Чэрці яшчэ вочы ў балоце не прадзерлі, а яны ўжо на работу гоняць. Спакою вам няма ні днём ні ноччу...

— Бацька сказаў, каб пабудзіла,— пачала апраўдвацца маці.— Цёткі прасілі, каб ты па расе ім надзел выкасіў...

— Пачакалі б гэтыя цёткі... Не на адзін дзень прыехаў.

— Дык трава ж перастоіць, пераспее. Ды і пагода добрая стаіць. Сена хутка высахне.

— Пайду, пайду... — прымірэнча сказаў ён.

І смачна пазяхнуў, расставіў у бакі рукі, пацягнуўся да хрусту ў касцях, намацаў на табурэце штаны і рубашку, пачаў апранацца.

Маці зірнула на нявестку.

— Нона няхай яшчэ паспіць. Пазней пабуджу. Ёй трэба прапалоць агуркі.

У сенцах Ігар асвяжыўся вадою і выйшаў на двор.

Сонца толькі яшчэ збіралася ўставаць з-за лесу, падняцца на неба; на ўсходзе прарэзалася, марудна налівалася чырванню і зырчэла вузкая палоска не-

ба. На двару было зябка і росна. Раса ляжала на платах, на пацямнелым, адсырэлым за ноч пяску, іскрамі перакатвалася на шызым мурозе.

Згорбіўшыся, пад паветкаю сядзеў дзед і кляпаў касу. Часта цюкаў малатком, і па двары разлягаўся дробны металёвы пошчак, ляцеў некуды далёка за вёску. Дзед час ад часу пераставаў кляпаць, доўга, уважліва мацаў пальцамі палатно касы, прыслепваўся да яго праз шкельцы акуляраў, што віселі на самым канцы носа, правяраў, ці не пажаваў, не вышчарбіў малатком лязо, і зноў пачынаў кляпаць.

Ігар падышоў да паветкі. Дзед убачыў унука, перастаў кляпаць, падняў на яго вочы.

— Касу табе наводжу. Вось толькі пятку абаб'ю малатком, і можна касіць.

Каса-літоўка блішчэла, аж зіхцела, хоць глядзіся ў яе, як у люстэрка. Палатно ў касе было злізана доўгімі гадамі касьбы да самага прута, і, як толькі памятае сябе Ігар, літоўку кожнае лета не выпускалі з рук дзед і бацька; касіць ёю было вольна і лёгка, каса роўна рэзала траву, выядала, чыста вымятала яе да самай зямлі і нібы сама вяла за сабою касца. Вучыўся ёю некалі касіць і сам Ігар.

— Цяпер, дзеду, не косіце? — спытаў Ігар.

— Няма сілы. Я б касіў, каб чорт касу насіў...

Ігар азірнуўся па баках.

— А дзе бацька? Нешта не відаць на двары.

— Пайшоў у калгас. Камбайнера папрасілі падмяніць. Захварэў. Наказаў, каб ты ішоў да цётак... Трэба ім надзел скасіць.

— Пайду, калі трэба.

Дзед дакляпаў пятку, падняўся з калодкі і падаў Ігару літоўку.

— Не каса — брытва! Яшчэ да вайны купіў яе на кірмашы. Добрая трапілася. Не косіць — голіць! Толькі ты, унуча, добра паспедай перад касьбою...

І полуднік з сабою вазьмі на пакос. Каса любіць брусок і сала кусок.

Калі зірнуць на двор цётак, дык адразу можна здагадацца, што ў ім няма мужчыны — гаспадара. Хата была без аканіц і веранды; па струхлелай страсе распаўзліся, абляпілі яе зялёныя латуны моху. Двор абкружваў расхістаны, шчарбаты плот з выдранымі калкамі; хлеў па самую страху ўгруз у зямлю; вароты абсунуліся і з'ехалі з шула і трымаліся на падпорках. Запушчана, пуста было і на двары: на трэсачніку ляжала толькі бярэмак рубанцаў ды каля плота хадзілі і слепа прыглядваліся да зямлі, каб што клюнуць, дзве чорныя куры.

Цёткі жылі адны. Дзяцей у іх не было. Перад самай вайной выйшлі былі замуж, але пажылі сем'ямі вельмі мала — іх гаспадары, маладыя мужчыны, пайшлі на фронт і не вярнуліся. І больш цёткі ні з кім з мужчын не сходзіліся, хоць пасля вайны і сваталіся да маладзіц — усё верылі і чакалі, што вернуцца іх Пятро і Іван. І не дачакаліся, зляпілі сяктак на дваіх адну хату, паціху жылі, старэлі, дажывалі свой век цяпер на калгаснай пенсіі.

Ігар зняў з пляча, паставіў да сцяны касу і пераступіў парог. У хаце было яшчэ цемнавата, і ён знадворку доўга прыглядаўся, пакуль не ўбачыў цётак. Зірнуў на покуць, дзе стаяў стол, і здзівіўся: пад абразамі, абвешанымі вышытымі ручнікамі, стаялі на каленях Мальвіна і Грыпіна. Яны не зводзілі з покуці вачэй, прагна глядзелі на абразы, адбівалі паклоны, ціха бубнілі сабе пад нос малітву і хрысціліся.

Ігар не вытрымаў, засмяяўся:

— Нешта вы, цёткі, грэшнае зрабілі, калі вас бог на калені паставіў у кут?

Цёткі нават не варухнуліся, не азірнуліся на Ігара.

— Ты ўжо ясі на небясі хлеб свой насушаны,— гугнявілі ў два галасы.

— Скажыце свайму богу, хай на зямлю апусціцца ды дома за сталом есць свежы хлеб, а не грызе там на небе сухары,— параіў ім Ігар.— Не арыштант жа ён...

Яны дамаліліся, дахрысціліся і толькі тады падняліся на ногі.

— Не гняві бога, нябож, сваімі словамі,— адышла ад покуці і зірнула на яго Грыпіна.

— А хіба ён ёсць?

— Ёсць, калі людзі вераць.

— А дзе гэты бог?

— На небе,— паказала Мальвіна вачыма ўгару.— Дзе ж яшчэ яму быць...

— Касманаўты ж усё неба аблятаді, абшарылі, але яго там не сустрэлі, не бачылі.

— Ён вышэй жыве. На другім небе.

— І на другім няма. Нават на Месяцы. Праверылі вучоныя...

— Людзі моляцца, і мы молімся,— памаўчала, не знайшла што другое сказаць Ігару цётка Мальвіна.— Звычка такая... Быццам нечага не хапае. Хаджу ўвесь дзень як ачумелая, калі толькі не памалюся...

— Гэта як фіззарадка,— не пераставаў жартаваць Ігар.— Косці ныюць, суставы і рэбры баляць, калі раніцай не разамнеш іх, не памахаеш рукамі. Калі прапусціш зарадку, забудзеш пра яе.

— Да вайны мы не маліліся. Гэта ў вайну навучыліся, прасілі ў бога, каб нас збярог, аставіў, малілі ў яго, каб Пятра і Івана вярнуў жывымі,— гаварыла, нібы апраўдвалася перад вучоным пляменнікам, Мальвіна.

Цёткі запрасілі Ігара прысесці. Ён адмовіўся.

— Няма калі сядзець. Прыйшоў да вас з касою...

— Няўжо? — ляпнула ад радасці рукамі па падоле андарака Грыпіна.— Бог памач нам прыслаў. Не задарма маліліся.

— Не бог, а дзед і бацька,— удакладніў Ігар.

— Няхай іх бог крые, беражэ... І цябе, нябож,— перахрысціла яго цётка Мальвіна.— А мы ўжо хацелі наймаць касца. Нават грошы з пенсіі адкладалі, каб яму даць. Але дзе таго касца цяпер знойдзем? Старыя мужчыны нягожыя, а маладыя ў гарадах. Ды і грошы вялікія трэба даць, каб касца наняць... Ды яшчэ яму магарыч трэба ставіць. Без гэтага цяпер не абыдзешся. У моду ўвайшло. Не паставім — на ўсю вёску абгавораць, хоць на вуліцу не паказвайся, не патыкайся. Адно гора нам, калі трэба на сотках бульбу садзіць, сена касіць ці дровы прывезці. Бегаем, на прамілы бог просім у мужчын, каб памаглі... Дзякуй, нябожа, што прыйшоў дапамагчы.

Надзел, сотак на сорак густой і высокай травы, цягнуўся паўз багністую рачулку, губляўся ў лазовых карчах. Сена з яго не хапала дзвюм каровам на зіму нават з двух укосаў, і цёткі прылучылі, прыгарадзілі да надзелу хісткім плотам на дзве жэрдкі ладны кавалак дзяцеліны. З яе Ігар і пачаў. Цела яшчэ балела, не адышло ад учарашняй работы ў хляве, і ён памалу вадзіў касою, коратка пстрыкаў ёю перад сабой у траве, вёў вузкі пракос, чакаў, калі разамнуцца косці, пацвярдзеюць рукі, каб потым разагнацца і на ўсю сілу палегчы на касавільна. Дзяцельнік нізка слаўся па зямлі, быў густы, як воўна, пераплецены дзікім гарошкам і вязелем, і клубамі скочваўся ў тоўстыя і высокія рады. Парыпвала касавільна, асядала на палатно падрэзаная сакавітая трава, абліваючыся халоднаю расою. Ігар часта спыняўся, утыкаў касавільна вострым канцом у зям-

лю, шараваў, падвострываў палатно бруском, потым ляпаў, шастаў па ім мянташкаю і зноў апускаў касу ў траву.

Выплыла на неба, пабялела, пазырчэла сонца, пачало прыпякаць у спіну, і Ігар скінуў з сябе кашулю. Касіць рабілася цяжэй. Ігар абліваўся потам, цяжка дыхаў, але не дазваляў сабе спыняцца, націскаў і націскаў на касу і ўсё пазіркваў на асаку, якая гусцілася каля рачулкі,— спадзяваўся, што касіць яе будзе лягчэй. Толькі ссякай, зразай ёй вяршкі. Потым зусім пачаў прытамляцца і кожны раз, дагнаўшы ў канец надзела пракос, сядаў у цянёк пад куст, цяжка і часта аддыхваўся. Нылі спіна і жывот, млелі рукі, балелі лыткі ў нагах, але Ігар перасільваў сябе, зноў падымаўся з-пад куста і браўся за касавільна.

Пасля абеду, калі вышкраб да голай зямлі дзяцеліну, пачаў валіць асаку.

Распухлае ад чырвані, астылае сонца ўжо пачало завальвацца за зубчастую, як піла, палоску лесу, калі Ігар, хістаючыся ад стомы, прываloкся дамоў. Павесіў пад паветкай касу, астудзіў твар вадою, памыўся і зайшоў у хату.

Маці, склаўшы на каленях рукі, сядзела на табурэце і нават не падняла галавы, не зірнула на сына, калі ён пераступіў парог. Твар у яе быў маркотны, нечым вельмі заклапочаны, нібы перапалоханы, і Ігар зразумеў, што нешта ў хаце здарылася нядобрае.

— Што з табою, мама? — прысеў ён.— Можа, захварэла?

— Ды не.— Рукі ў маці ўздрыгнулі, пачалі церабіць фартух.— Нона ўсе гуркі павырывала. Выпалала разам з зеллем. Загон лысы застаўся... Будзем зімаваць без гуркоў...

Нона стаяла каля акна і моўчкі глядзела на двор.

— Я ж не хацела гэта зрабіць! — адвярнулася

яна ад акна, зірнула на Ігара.— Думала, што на загоне адно зелле расце, а агуркі яшчэ не ўзышлі.

Голас у яе дрыжаў.

— Я ж не кажу, што ты хацела,— супакойвала нявестку маці.— Так выйшла... Сама я вінаватая, што не пайшла з табою на агарод і не паказала агурэчнік. Ты ж яго дагэтуль ніколі, мабыць, не бачыла.

— Толькі агуркі бачыла,— усхліпнула Нона.— У магазіне.

— Каб жа я ведала,— разводзіла ў бакі рукі маці.

Ігар пачаў суцяшаць жонку і маці:

— Толькі той бяды. Агуркі можна будзе ўвосень і ў калгасе купіць... Капейкі яны каштуюць...

— Я ж і кажу,— зірнула на нявестку маці.— А па загоне радыску пасеем... Салаты будзем рабіць.

— Вось, вось! — узрадаваўся Ігар.— Даўно я не еў салаты... Са смятанай — адно аб'ядзенне. Праз два тыдні на стале ён будзе. Радыска хутка расце. А агуркі...

— Калі б былі смачныя гуркі, дык іх елі б ваўкі,— азваўся з-за перагародкі дзед.— Сейце радыску. Спроба не хвароба.

Ён ляжаў у сваім ложку, усё чуў, што гаварылі маці і Нона, але не ўмешваўся ў жаночую размову.

## 7

Цэлы тыдзень Ігар выцярэбліваў лазу, выкарчоўваў у балоціне пні. Там, дзе бацька намерыўся выкапаць сажалку. Памалу рукі яго прывыклі да работы, не балелі, пругчэйшымі сталі ногі і спіна, а на далонях выспелі і зацвярдзелі, як касцяныя, жоўтыя мазалі. Уцягнуўся, прывык да сякеры, і здавалася Ігару, быццам і не выпускаў яе з рук усе гэтыя га-

ды, калі вучыўся ў горадзе. І хутка, спрытна налаўчыўся выварочваць, выдзіраць з дзірвану ўчэпістыя, як кляшчы, пні і карчы. Спачатку падкопваў і абсякаў ім карані, потым падкладаў вагу, налягаў усім целам, і карчы вылузваліся з зямлі. Смольныя карчы Ігар пазносіў на мяжу, і яны, як спруты, ляжалі ў кучы, сплёўшыся сваімі карэннямі-шчупальцамі.

Калі іх паразбіваць, паразвальваць сякераю, пашчапаць, дык багата лучыны будзе на падпал у печ.

Выкарчоўваў балоціну Ігар адзін.

Бацька не прыходзіў на помач — ён канчаткова ўпрогся ў калгасную работу. Камбайнера паклалі ў бальніцу, і Цімох не злазіў з камбайна ўжо шосты дзень, ад цямна да цямна жаў жыта, прыходзіў дамоў толькі ўвечары, калі змяркалася на дварэ, еў і адразу, трымаючыся рукамі за паясніцу, як не дапаўзаў нагінкам да ложка і клаўся спаць. Раніцай жа похапкам снедаў, зноў бег да камбайна і, заняты жнівом, нічога ў Ігара не пытаў, калі яны сустракаліся за сталом, не цікавіўся балоцінай, быццам забыў, што даваў сыну там работу.

І ўсё ж неяк вылаўчыў вольную хвіліну, заскочыў увечары да балоціны, зірнуў на яе і не пазнаў ранейшага месца — там, дзе стаяла лаза і тырчэлі з жабурэння чорныя пні-раскаракі, ляжала роўная гала.

— Ну і сын, ну і маладзец! Вычысціў балоціну, як бульдозер! — не вытрымаў Цімох.

Ігар, пачуўшы бацькаву пахвалу, усміхнуўся:

— Заслужыў анігадкі ад цябе падзяку — бульдозерам абазваў! А яшчэ стараўся, ірваў у гэтым балоце жылы, браў на пуп, што і зараз жывот баліць.

— Ну, калі не бульдозер, дык экскаватар! — выправіў сваю памылку Цімох.— Якая розніца? Галоўнае — зрабіў вялікую работу.

## 8

У нядзелю Ігара і Нону не будзілі рана. Яны добра выспаліся, уволю вылежаліся ў ложку, падняліся, памыліся і ўжо збіраліся сесці за стол снедаць, як у хату ўбег дзядзька Харытон. Ён зрабіў круг па хаце, не звярнуў ніякай увагі на дзеда, бацьку і маці, падышоў, спыніўся каля Ігара і пільна пачаў разглядваць яго, нібы бачыў упершыню.

— Божа, што яны з цябе зрабілі! — раптам ляпнуў сябе дзядзька па галёнках.— Шкілет! Адзін шкілет застаўся, хоць у музей яго аддавай!

Потым падышоў да Ноны, пахітаў галавою:

— Мумія!

Дзядзька быў на добрым падпітку. Харытон яшчэ раз зрабіў круг па хаце, спыніўся каля Цімоха:

— І не сорамна табе, га?! Сын з нявесткаю прыехалі адпачыць, а трапілі да цябе на катаргу... Паглядзі, як высушыў іх работаю! І каго?! Вучоных людзей! Такіх гасцей на руках трэба насіць, ганарыцца на ўвесь раён, а ты... У хлеў загнаў з віламі, каб гной выкідвалі, у чортавае балота, у пекла, як чарцей, утарабаніў.

— Работа ніколі не зганьбіць чалавека,— умяшаўся ў размову дзед.

— Не зганьбіць! — вырачыўся, вытрашчыў вочы на брата Харытон.— Не работа, а ты зганьбіў... Кулак ты! Экс... Эксплуататар! Адсталы алімент. На Салаўкі некалі такіх ссылалі.

Да гэтых слоў Цімох спакойна слухаў Харытона, не павёў і вухам на яго п'яную балбатню, быццам брата і не было ў хаце, але зараз, калі абазвалі кулаком, не ўцярпеў, раззлаваўся, падняўся з табурэта.

— Гэта я — адсталы алімент, кулак?! — падступіўся ён бліжэй да Харытона.— Ад каго гэта я чую?!

Ад пустадомка і п'яніцы! Ад гультая! Разуй, прадзяры свае п'яныя зіркалы ды зірні хоць раз на сваё селішча. На двары гола, у хляве адно дохлае парасё, як мыш, ды худая карова, хоць рэбры лічы... Табе ж няма калі рабіць з-за гарэлкі! Кожны дзень бельмы ёю заліваеш. А калі прыйдзе зіма, да мяне бяжыш: дай сена, дай саломы... Пустадомак! Хваробу больш ад мяне палучыш, а не сена...

— Я не да цябе прыйшоў, а да Ігара.

Харытон, абложаны словамі Цімоха, пацішэў і ўжо нясмела загаварыў:

— Няхай са мною ідзе на шабашку. У Замошша зруб ставіць цётцы адной. Хоць капейку якую за лета заробіць...

— З табою ў заработкі?! — зноў вызверыўся на яго Цімох.— Смех адзін! Праробіш больш, чым заробіш! Які ж з цябе, скажы, работнік, калі ты цвярозым ніколі не бываеш. Дзіўлюся, як цябе яшчэ паленам не прыбіла.

— Умець трэба!

— Умееш ты! Каб галава была на плячах. А ў цябе яе няма... Качан капусты замест галавы. А Ігара з табою я не пушчу ў Замошша.

— Я гасцей хачу запрасіць да сябе.

Цімоха разабраў смех.

— Вось чаго ты прыйшоў! Адразу так і сказаў бы. Ганна, няйначай, не дае выпіць... Вось ты і скумекаў запрасіць гасцей.

— Кулак ты! Мірaед! Аднаасобнік!

Харытон хуценька сарваўся з месца і кінуўся ў дзверы.

Цімох зарагатаў шчыра, моцна і ўзахлёб, хапаўся рукамі за жывот, і яго ад рогату аж вадзіла ў бакі — быў вельмі задаволены, што ўзлаваў брата.

Маці, калі за акном мільгнула постаць Харытона, цяжка ўздыхнула:

— Учора Ганна прыбягала. Уся ў слязах. П'яны гапяў яе па двары. А сёння раніцай бегаў за жонкаю, прасіў у яе, каб даравала.

— Калі п'яны — капітан, а калі праспіцца — свінні баіцца,— азваўся з-за перагародкі дзед.

Маці заслала чыстай настольніцай стол, паставіла на яго талеркі, міскі, і ўсе селі снедаць.

## 9

Яшчэ ў прыцемках, калі святло толькі пачало падымацца на ўсходзе і шарэць на вуліцы, Ігар і Нона прачнуліся і пачалі збірацца пасвіць кароў — сёння да Корзунаў прыйшла чарга. Збіралі іх бацька і маці, быццам адпраўлялі ў далёкі свет, у вялікую дарогу: клалі ў сумкі сала і мяса, яйкі, ставілі смятану, і малако, і масла. І ўсё раілі, вучылі, як пасвіць кароў. Даваў парады больш бацька, наказваў, дзе і як пасвіць:

— Нона няхай ззаду ідзе і падганяе. Каб не адставалі. А ты, Ігар, трымайся наперадзе чаргі, падварочвай туды, дзе лепшая паша. Лес, ведаю, ты яшчэ не забыў. Не заблудзіш. Пускай іх больш па нізінах, дзяржы ў дзялянках, дзе баравіца. Завернеш потым чаргу ў Воўчым лозе на доўгія дзялянкі. Там баравіца па пояс. Напасецца і пойдзе памалу на стойла. Потым такім макарам і дадому пагоніш. І глядзіце, не згубіце худобу... Пільнуйце за Максімавай каровай. Яна так і цікуе, каб улаўчыць момант, адлучыцца ад чаргі і ўлезці ў шкоду.

Каля ног пастухоў круціўся спушчаны з прывязі Галас, уставаў на заднія лапы, падскокваў, павіскваў ад радасці і нецярпліва зазіраў Ігару ў вочы, чакаў той хвіліны, калі можна будзе выбегчы з двара і ўвесь дзень вольна бегаць па лесе, цешыцца сваёй сабачай свабодай.

— І не спяшайцеся, калі прыйдзе вечар, адразу гнаць чаргу ў вёску,— усё яшчэ наказваў Цімох.— Прыгоніце, калі сонца будзе заходзіць. Раней не трэба, бо людзі абгавораць. І напаіць кароў не забудзьце... У Бур'якінавай балоціне.

Маці ўпарадкавала сумкі, азірнулася, каб нешта сказаць нявестцы, але яе не было.

— А дзе Нона?

— У спальні...— адказаў Ігар.— Дзе ж яшчэ яна будзе... Збіраецца там.

Маці падышла да спальні і адчыніла дзверы. Нона стаяла перад люстэркам, пільна, уважліва ўглядалася ў яго і акуратна падводзіла, падмалёўвала бровы, фарбавала губы, прыпудрывала твар, прыхарошвалася.

— Ох, божачка ж, што яна робіць?! — зачыніла хуценька дзверы і пляснула рукамі маці.— Збіраецца, як на пагулянку!

Заглянуў у дзверы і Цімох. Зірнуў на Нону, і яго разабраў смех.

— Цябе і без гэтай штукатуркі палюбяць каровы!

— Я не для іх фарбуюся! — пакрыўджана азвалася нявестка.

— Для каго ж тады?

— Для сябе. І для людзей...

— У лесе ж людзей няма! — выскаліўся Цімох.— Там адны камары. Хіба іх адпуджваць будзеш.

— Смешная ж ты, нявестка,— уздыхнула маці.— Людзі ж абгавораць.

— Няхай абгавораць.

Яна нацягнула ў абцяжку спартыўны касцюм, павесіла на плячо торбу, узяла ў руку пугу і зноў пабегла да люстра, усміхнулася:

— Пастушка! Вось дзіва было б, каб з кафедры хто-небудзь убачыў мяне такую!

Каровы ляніва, нехаця выходзілі на вуліцу, цягну-

лісся паўз платы ў канец вёскі. Заспаныя жанчыны выпіхвалі іх з двароў. Убачыўшы новых пастухоў, не спяшаліся назад, спыняліся ў варотах, цікаўна прыглядаліся да Ігара і Ноны.

— Бач, як прыбраліся! Нібыта на танцулькі!

— Патанцуюць, калі прыпякуць камары!

— Каровы будуць ганарыцца, што іх пасвілі вучоныя!

— Можа, і мая дурная Красуля розуму набярэцца ад іх, не будзе адбівацца ад чарады і ў шкоду ўцякаць!

— Па-вучонаму папасвяць... Малака больш каровы прынясуць.

— Глядзі, каб хоць самі прыйшлі з лесу...

Нона ішла за статкам, бегала ад адной каровы да другой, падганяла, шлёгала пугаю і не звяртала ніякай увагі на жанчын. Гэта яшчэ больш падзуджвала кабет, падбухторвала іх на жарты і кпіны:

— Нафуфырылася як!

— У чырвоных боціках, як бусліха!

— Як яна будзе пасвіць? Кароў, мабыць, сёння бачыць першы раз...

За вёскаю адразу пачынаўся густы цёмны крушыннік, і каровы патанулі ў яго халодным паўзмроку. Не паспеў статак яшчэ ўцягнуцца ў лес, а Ігар ужо бегаў наперадзе кароў, галёкаў, і яго голас звонка разлягаўся па лесе. Дапамагаў пастуху і сабака. Ён, відаць, добра ўлёг за шкадлівай каровай, ганяўся за ёю, каб завярнуць у статак, бо часты брэх сабакі доўга насіўся ў ранішнім паветры.

Нона ішла ззаду статка, ступала след у след за кульгаватаю рабою каровай. На шыі каровы вісеў і трэнькаў нейкім глухім, сіплым голасам званок, і Нона, баючыся згубіцца ў гэтым непралазным хмызе, ні на крок не адыходзіла, не адставала ад яе. Сонца выйшла на неба, і на лісцях загарэлася яркім

бляскам раса, кроплі спаўзалі, зрываліся з кустоў, часта і густа лапацелі па лісцях, мільгалі ў паветры.

Каровы ішлі марудна, разыходзіліся ў бакі, прагна хапалі росную траву, зразалі з крушынніку маладыя парасткі.

Камары і мошкі роем віліся, звінелі над статкам, чорным макавым семем абсыпалі спіны кароў. Яны адмахваліся ад іх хвастамі, адбіваліся і, калі ўжо не можна было цярпець ад заедзі, зрываліся з месца, задраўшы ўгару хвасты, вопрамеццю кідаліся ў кусты. Не давала заедзь спакою і Ноне, цэлымі клубамі кіпела над галавою, зацярушвала твар, веялася, лезла сляпіцаю ў вочы. І джаліла, джаліла... Не дапамагаў і спартыўны касцюм — камары і мошкі, нібы праз сіта, пракусвалі яго, даставалі да скуры, аб'ядалі рукі і ногі, упіваліся ў спіну. Нона цесна абвязала, абпелянала хусткаю твар, аставіла толькі вузкую шчыліну для вачэй, хвастала сябе па плячах наламаным веццем, але гэта не памагала. Пачала бегаць па лесе, спадзеючыся ўцячы ад камароў, але, як толькі сцішвала бег, спынялася, яны зноў даганялі Нону, абсядалі, аблеплівалі з ног да галавы. Яна не знаходзіла сабе месца, бегла разам з каровамі ў кусты, але камары і там не давалі ёй спакою. І Нона пачала праклінаць усё на свеце: і вёску, і гэты лес, і тое, што паслухала Ігара і прыехала сюды, у гэтае камарынае пекла. Там, дзе яны кусалі, свярбела, гарэла агнём спіна, і Нона часта падбягала да бяроз, спынялася, шаравалася аб іх шурпатыя камлі спінаю і ледзь не плакала. І не вытрымала, пачала крычаць на ўвесь лес, гукаць да сябе Ігара. Ён хоць і быў далёка, наперадзе статка, але пачуў яе трывожны голас, прыбег, вынырнуў з кустоў, разам з Галасам, зірнуў на жонку і разгублена спытаў:

— Што з табою? Хусткаю абвязалася?

Нона развязала хустку. Чорная фарба на бровах

і павеках разлезлася, змяшалася з парфумай, і твар, абліты потам, быў апэцканы ў чырвона-брудныя плямы.

Ігар не вытрымаў, засмяяўся:

— Цыркачка! Цябе хоць разам з Кіо на манеж стаў! Шэра-бура-малінавай зрабілася!

— Смешна табе! — захліпала Нона.— Не магу больш! Заядуць яны мяне. Пайду дамоў!

— Перастань хныкаць...

— Не магу больш! Хадзі ззаду мяне і адганяй іх.

— А каровы?

— Самі будуць пасвіцца!

— У соткі ўлезуць і людзям шкоды наробяць.

— Тады пусці мяне ў вёску.

— А хто будзе статак падганяць?

— Галас,— зірнула Нона на сабаку.

— Пацярпі яшчэ трохі,— пачаў угаворваць, суцяшаць Ігар жонку.— Хутка сонца падымецца, прыпячэ, і камары пахаваюцца. Яны спёкі не любяць.

Баравіца, густая, роўная, як расчэсаная, слалася між хвой, падсмаленых даўнім пажарам, цягнулася лагчынаю паўз высокі груд, і каровы, ступіўшы ў яе, спыніліся, нібы прыраслі да месца, дапалі да травы, стрыглі і стрыглі яе.

Нона ўвесь час ішла ззаду статка, падганяла кульгавую карову, глядзела, каб яна не адставала ад чаргі. Спраўдзіліся словы Ігара: прызырыла сонца, высушыла ў лесе расу, і камары пахаваліся ад спёкі, нібы раставі ў паветры, скаціліся ў балоціны, туды, дзе яшчэ трымаліся вільгаць і цень. Наперадзе не пераставаў галёкаць Ігар, бегаў за каровамі, што адбіваліся ад статка, сляпіцай лезлі на груд, каб схапіць, пасмакаваць якога казляка, адварочваў іх назад у чаргу. Памагаў яму і Галас. Калі яго нацкоўвалі на якую блудлівую карову, сабака, захлёбваючыся ад брэху, доўга ганяўся за ёю, ледзь не хапаў

за хвост і заганяў у статак. Каровы дайшлі да самага канца лагчыны, вытапталі, збэрсалі, выелі ў ёй баравіцу і адна за адною лянiва пацягнуліся на гала, на палянку, абкружаную з усіх бакоў тонкім хвойнікам,— там было стойла.

Ігар і Нона выбралі месца, каб прысесці і адпачыць, скінулі з плячэй сумкі, падаслалі пад сябе курткі і селі ў цянёк. Ногі ў Ноны за ранак стаміліся, аж гулі ад доўгай хады, і яна з асалодаю выцягнула іх перад сабою і хутка сама павалілася на бок, раскінула рукі.

— Як добра!

Ігар пайшоў у хвойнік і хутка вярнуўся назад, несучы ў руках абхапісты бярэмак сухога галля.

Развялі агонь і пачалі абедаць.

Полымя, учапіўшыся за галлё, роўна гудзела, і Нона, расчырванелая ад гарачыні, совала ў яго нанізаны на дубец кавалак сала, падсмажвала, падстаўляла пад тлушч лусту хлеба і несла ласунак у рот. Са смакам елі яйкі, смятану, мяса, запівалі малаком.

Каровы каторыя стаялі, каторыя ляжалі, адмахваліся ад аваднёў, што круціліся над іх спінамі, і мерна жавалі жуйку. Скруціўся, ляжаў пад дубам і Галас.

— Ігар...

Нона падсунулася бліжэй да мужа, зазірнула яму ў вочы і змоўкла. Хацела нешта спытаць, але не асмельвалася.

— Што?

— Скажы,— спытала, пацікавілася нарэшце яна,— а ўвечары, калі сонца апусціцца, камары зноў будуць?

— Яшчэ гусцейшыя, чым раніцай.

У Ноны ўсё аж пахаладзела.

— А як жа я?

Ігар пацiснуў плячыма:

— Выцерпім як-небудзь... Адмахвацца будзеш. Я ж цярплю... Мне ж таксама яны не даюць спакою...

— Ты прывык да камароў... З дзіцячых гадоў.

— Прывыкай і ты... Час ёсць. Наперадзе яшчэ два дні чаргі...

Нона аж скаланулася ад яго слоў.

— Прывёз мяне ў пекла гэтае,— ледзь не заплакала яна.— Гаварыў: купацца будзем, загараць, ягады і грыбы збіраць, а тут — у пастухі... Каб ведала такое, з будаўнічым атрадам паехала б... На Поўнач.

— Камароў там яшчэ больш, чым тут,— пачаў тлумачыць ёй Ігар.— І рабіць там таксама трэба. Добра ўпірацца рогам. Па дванаццаць гадзін у суткі.

— Дык хоць не дарэмна рабіць. А тут на дармаўшчыну рабі.

— Забыла, што круглы год ела мяса, сала ў нас не выводзіцца? З неба ж гэта само не падае. На вяселле бацька грошы даў... А ты — на дармаўшчыну. Хоць гэта адрабіць трэба...

— На тое ён і бацька, каб памагаць...

— А для чаго тады дзеці?

— Пабагацеем — аддадзім.

— Калі тое будзе?..

— Як дысертацыі абаронім...

— Ці абаронім яшчэ...— уздыхнуў Ігар.— Твае б словы ды вучонаму савету ў вушы...

Паабедалі, леглі пад дубам, падклаўшы пад галовы сумкі, і моўчкі глядзелі ў неба. Перад вачыма хісталіся ў бакі ад ветру, што хадзіў угары, верхавіны хвой, ціха і густа шумелі, і пастухі, закалыханыя лесам, заснулі.

Першай прачнулася Нона. Яна зірнула на стойла, дзе стаялі каровы, і моцна таўханула пад бок Ігара.

— Што?! — падскочыў ён.

— Кароў няма!

— Няўжо?

Ігар сеў. Кароў на стойле не было. Агледзеўся па баках і прыслухаўся, але нічога не ўбачыў і не пачуў. Толькі ціха шумеў лес, тлела зацягнутае, зарослае сівым попелам вогнішча ды бесклапотна, паклаўшы на лапы галаву, смачна спаў Галас.

— Ах ты, падла! — ляснуў ён палкаю ля самага вуха сабакі.— Праспаў кароў, не збудзіў нас!

Сабака аж падскочыў ад перапалоху, адбег, падціснуўшы хвост, апусціў галаву і паглядзеў на Ігара вінаватымі вачыма.

— Што цяпер нам будзе? — падняўся Ігар на ногі, перапалохана ўздыхнуў.— Не расплацішся, калі каровы заблудзяць на калгаснае поле ды наробяць шкоды... Бяда!

— Яны дадому пойдуць. У вёску,— паспрабавала заспакоіць яго Нона.

— Каб жа так. А калі ў людскія соткі ўлезуць. Праклянуць людзі.

— Могуць заблудзіцца без нас і ў другую вёску выйсці.

— Тады людзі без малака застануцца.

— А ваўкі?

І Нона спалохана зірнула на Ігара.

— Не дай бог! Могуць карову адбіць, адлучыць ад статка... Тады, лічы, прапалі мы з табою...

Яны хутка схапілі з зямлі курткі і сумкі, сышлі са стойла. Ігар пачаў бегаць, кружыць па хвойніку, шукаць сляды, каб даведацца, у які бок рушылі каровы, але на цупкай, цвёрдай зямлі, у ягадніку і верасе, іх не заўважыў, не ўбачыў і зусім разгубіўся.

— Пайду на лясніцкія палянкі. Можа, яны даўно ўжо там бульбу латошаць.

— А мне што рабіць? — зірнула яму ў вочы Нона.— Заставацца тут?

— Ідзі дамоў. Помачы ад цябе...— не дагаварыў Ігар і паказаў палкаю на дарогу, што віляла, выкручвалася між камлёў дрэў.— Ідзі і нікуды не зварочвай з яе. Яна цябе і выведзе ў вёску.

Сказаў і па густым паклычаным верасе пабег у хвойнік. Бег, часта спыняўся, галёкаў на ўвесь лес, прыслухоўваўся, спадзеючыся, што каровы пачуюць яго голас, адклікнуцца, але ў лесе стаяла нямая цішыня, і гэта яшчэ больш непакоіла, наводзіла на Ігара страх — статак, відаць, даўно зняўся са стойла, адышоў некуды далёка і не чуў яго голасу. Кінуўся да лясніцкіх палянак-сотак. Хутка лес парадзеў, наперадзе паказалася светлае, зялёнае гала, і скрозь цёмныя камлі дрэў убачыў роўныя загоны бульбы. Кароў на сотках не было. Ён стаяў, цяжка дыхаў, круціў па баках галавою і не ведаў, што далей рабіць, куды цяпер бегчы. Ад бегатні кашуля на спіне ўся змокла, ліпнула да цела, на твары паўзлі пісягі поту. Прыйшла ў галаву здагадка, што статак даўно пасецца ўжо недзе каля вёскі на калгасных бураках, і Ігар, цяжка сапучы, задыхваючыся ад стомы, патрухаў на дарогу...

Зmoраны, увесь упрэлы ад бегатні, ён не ўвайшоў, а ўваліўся ў вароты, спыніўся, хістаючыся, сярод двара.

Бацька калоў на дрывотні дровы, разагнуўся, убачыў задыханага, змакрэлага ад поту сына і адразу ўсё зразумеў:

— Кароў згубілі?

— Ага! — перапалохана выдыхнуў Ігар.— Дамоў не прыйшлі?

— Хіба яны дурныя сярод белага дня ісці ў хлеў?

Ігар усё яшчэ стаяў на двары і не ведаў, што далей рабіць: ісці ў хату ці зноў бегчы ў лес і шукаць кароў.

Бацька як трымаў у руцэ сякеру, так са злосці і шпурнуў яе ў паветку з усяго пляча.

— Заснулі на стойле?

— Ага! — выдыхнуў Ігар.

Бацька падняўся на ганак, адчыніў сенцы і гукнуў у хату:

— Ганна, бяры кій, пойдзем у лес кароў шукаць!

Ігар падышоў бліжэй да бацькі і вінавата спытаў, адводзячы вочы:

— А Нона дома?

— Як — дома?! — не зразумеў яго Цімох.— Яна ж з табою чаргу пайшла пасвіць.

— Я яе даўно дамоў адправіў. Са стойла. З абеду яшчэ...

— Няма яе.

— Няўжо заблудзілася ў лесе? — пахаладзеў Ігар.— Казаў жа ёй, каб з дарогі нікуды не зварочвала.

— Ну і пастухоў паслаў мне бог! — на ўвесь двор загрымеў басам Цімох.— І кароў згубілі, і самі згубіліся! — ступіў бліжэй да сына.— І хто вам тую навуку даверыў у горадзе?! Вам нават кароў нельга давяраць!

І Цімох рэзка, шырока ступіў да варот, злосна таўхануў іх плячом.

— А мне ісці? — ціха спытаў Ігар.

— Сядзі дома! Пойдзеш — і цябе яшчэ трэба будзе шукаць!

Гаркнуў на Ігара так, што на двары закудахталі патрывожаныя куры ды з трэсачніку ўспырхнулі, узняліся ад перапалоху ў паветра вераб'і.

Цімох і Ганна выйшлі на вуліцу і, папіраючыся кіямі, пашлопалі гумавікамі па пяску ў канец вуліцы. Спяшаліся — баяліся, што каровы выперадзяць

іх, раней выйдуць з лесу і залезуць у людскія агароды.

Ішлі і злосна перагіркваліся.

— Зварыла, дадумалася твая дурная галава адправіць іх кароў пасвіць,— бурчэла Ганна.— Чула маё сэрца, што дабром гэта не скончыцца. Яны ж і лесу не ведаюць...

— Ігар ведае.

— Забыў ён ужо лес. Даўно ж у горадзе жыве... Людзі засмяюць, калі кароў не знойдзем...

— Не ў хаце ж ім цэлы дзень сядзець,— агрызаўся Цімох.— Хто гэта ўлетку вылежваецца ў вёсцы?

— Яны ж адпачыць прыехалі. Ад навукі стаміліся.

— Калі рукі і ногі робяць, галава якраз і адпачывае ад навукі.

— Табе хоць кол на галаве чашы, а ты ўсё роўна сваё правіш! — махнула Ганна рукою.

Выйшлі з вуліцы і спыніліся на выгане, агледзеліся...

— Ты стой тут і сустракай кароў, калі яны будуць з лесу выходзіць,— наказаў жонцы Цімох,— а я пайду шукаць нявестку.

Сказаў і пасунуўся ў лес.

Дарога, пераплеценая аблузаным коламі карэннем, то ўпаўзала ў цёмную засень густога алешніку і дубняку, то вынырвала, вырывалася з яе ў светлы і чысты бярэзнік. Нона пільна прыглядалася да дарогі, бачыла, як у яе, як ручаі ў раку, зліваюцца, збягаюць з лесу сцежкі, і баялася збіцца з напрамку, трымалася толькі адной шырокай, выкаўзанай машынамі каляіны. Ішла і насцярожана прыслухоўвалася да лесу. Вакол было ціха, толькі ў верхавінах

хвой нудна, тонка гудзела. Дарога з кожным крокам шырэла, пачала сходзіцца, збягацца з такімі ж, як сама, дарогамі, шырокімі і разгоністымі, потым яна, як дзяга, раскройвалася на меншыя сцежкі-раменьчыкі, зноў здвойвалася і стройвалася, і тут Нона спынілася, нерашуча пастаяла і разгубілася — не ведала, па якой сцежцы ісці, каб трапіць у вёску. Памеркавала, падумала і пайшла сярэдняю, больш выезджанаю машынамі. Ішла, а лесу не было відаць канца і краю. Ён не радзеў, а яшчэ больш гусцеў, і Ноне пачало рабіцца не па сабе. Яна часта спынялася, палахліва азіралася па баках, і цяпер Ноне прыходзіла ў галаву, што пайшла не па той дарозе. Дарога завяла не ў вёску, а ў гразкую балотную рэчку, зарослую мохам і асакою, і цяпер яна канчаткова зразумела, што заблудзілася.

— Людзі! Ау-у-у! — крыкнула яна на ўсе грудзі.

Голас, спатыкнуўшыся аб дрэвы, пераламаўся, пастаяў хвіліну ў лесе і рэхам вярнуўся назад. І раптам зірнула наперад, спынілася, быццам прырасла да зямлі,— каля дарогі сядзеў воўк! Востра натапырыўшы вушы і вышчарыўшы зубы, ён нерухома сядзеў на задніх лапах каля хвоі. Па спіне хваляй пракаціўся холад, пранізаў усё цела, і Нону ледзь не схапіла памарака. І яна, сама не ведаючы чаму, ад страху ўпала на калені, выцягнула перад сабою рукі і ўзмалілася перад воўкам:

— Воўк, добранькі, міленькі, не чапай мяне!

Звер не павёў на яе нават вухам, не крануўся нават з месца, сядзеў і ўсё злосна шчэрыўся, гатовы, здавалася Ноне, вось-вось кінуцца на яе і разарваць на часткі.

— Я табе хлеба дам! Не кусай мяне толькі! — Яе рукі самі намацалі, знайшлі за спіною сумку, вынялі адтуль акраец недаедзенага хлеба, працягнулі яго воўку.— Бяры, еш, добранькі!

Нона стаяла на каленях, баялася нават варухнуцца і не зводзіла з воўка вачэй. Сядзеў і не варушыўся і звер. Нясцерпна калола, рэзала ў калені, і толькі цяпер Нона заўважыла, што стаіць на шышках. Ціхенька, крадком, каб не заўважыў воўк, адступіла, адсунулася назад, потым незаўважна паднялася на ногі і з усіх ног, каб схавацца ад звера, кінулася за бярозу. Воўк не кінуўся за ёю, і Нона на дыбачках, асцярожна, каб не наступіць на сухую галіну, пачала бокам абходзіць тое месца, дзе сядзеў звер. Дала ладны круг, выйшла зноў на дарогу і баязліва азірнулася. Ваўка не было. Замест яго каля дарогі ляжаў бокам шэры, абраслы мохам пень з пакручастым карэннем, падобным на воўчыя лапы і хвост.

Далей яна не ведала, куды і кудою ісці. Выйшла на прасторную доўгую дзялянку, на якой тырчэлі нізкія, куцыя, яшчэ свежыя пні ды ляжала ў лаўжах, нібы ў копах, парудзелае хваёвае галлё, і спынілася.

— А-у-у-у!

Ціха.

Села на пень і заплакала. Дрыжэла ўсім целам, баязліва азіралася і зноў пачала праклінаць той дзень, калі згадзілася паехаць з Ігарам сюды, у лясную глухамань, і той час, калі пайшла з ім у падпаскі.

Сонца звярнула з неба, і ў лесе хутка пачало вечарэць. Камары даўно чакалі, калі спадзе, схлыне спёка, і зараз, дачакаўшыся свайго часу, зазвінелі ў паветры, пачалі, здавалася Ноне, збірацца, злятацца з усяго лесу, густа абсыпаць яе з ног да галавы.

— Людзі! Ратуйце!

Прыслухалася да лесу, затаіўшы дыханне, каб не прапусціць ні аднаго гуку, але вакол было так ціха і маўкліва, што аж калола ў вушах. Пашукала вачыма дарогу, але не ўбачыла яе. Укінулася ў галаву, што тут, у лесе, застане яе ноч, і халодныя дры-

жыкі прабралі ўсё цела. Стомленая ад плачу, яна пайшла напрасткі праз лес, ішла куды вочы глядзяць, чаплялася нагамі за кусты і карэнні, спатыкалася, падала, зноў падымалася і ступала далей. Ногі ад доўгай хады балюча нылі, зрабіліся нібы чужымі, і Нона ледзь перастаўляла іх, пераносіла цераз пні і калоды — не было ўжо сілы. І ўжо не адмахвалася ад камароў — было не да іх.

І раптам уздрыгнула ўсім целам, спынілася — наперадзе пачула кукарэканне пеўня і мерны, часты стук сякеры.

«Вёска!» — аж захлынулася яна ад радасці.

Сэрца ў Ноны моцна і часта забілася.

Харытон, моцна абхапіўшы нагамі бервяно, сядзеў на зрубе і з крэктам чэхкаў сякерай, старанна вышчэрбваў у палене, высякаў доўгі паз, каб пакласці ў яго мох і цясней прыгнаць да зруба вянок. Дробныя трэскі мільгалі, разляталіся ў паветры пасля кожнага ўзмаху сякеры, зацярушвалі Харытону штаны і сарочку, заблытваліся ў валасах. Высалапіўшы язык, ён спорна арудаваў, завіхаўся з сякерай на зрубе і часта пазіркваў на сонца, якое асядала за лес,— трэба было да прыцемкаў паспець пакласці ў зруб апошні вянок.

Яго напарнік, дзюбаносы і тонкі, як дубец, хлопец, сядзеў на вугле зруба і клаў у паз мох.

— Закругляйся, дзядзька! — паклаў апошнюю жменю моху на бервяно, абтрос ад смецця штаны і крыкнуў напарнік Харытону.

— Елку ж трэба прыбіць да апошняга вянка,— зірнуў на яго Харытон,— каб знак быў, што скончылі работу...

— Гэта я маментам!

І напарнік ссунуўся са зруба на зямлю, схапіў у руку сякеру...

— Большую выбірай... Каб на ўсёй вёсцы відаць было... Бяжы глыбей у ельнік... Вунь туды...

Харытон зірнуў у бок лесу і не дагаварыў, запнуўся на слове.

— Што я бачу?! Нейкая дзеўка ідзе да нас. У штанах. Чувіха ў чырвоных ботах! — усклікнуў ён.— З лесу чэша... Як русалка якая!

Харытон пільней прыгледзеўся да дзяўчыны і здзіўлена прашаптаў сабе пад нос:

— Гэта ж Нона. Майго пляменніка жонка! Чаму яна тут апынулася?!

І ён не на жарт перапалохаўся. Можа, што дрэннае здарылася ў вёсцы і адправілі сюды, у Замошша, да яго пасланца? Але чаму Нону? Яна ж не ведае сюды дарогі... Не, тут нешта не тое...

Нона падышла да мужчын, зірнула на іх і, пазнаўшы дзядзьку, узрадавалася, кінулася яму на грудзі і зарумзала.

— Што з табою, Нона? Чаму ты тут?

Харытон асцярожна, неяк няўмела і сарамліва абхапіў за плечы, адняў Нону ад сваіх грудзей і зазірнуў ёй у вочы, поўныя слёз.

— Перастань плакаць.

— Заблудзіла,— ледзь выдыхнула, глытаючы слёзы, яна.— Каровы з Ігарам пасвіла.

— А дзе ж каровы?

— Згубілі. Ігар пабег іх шукаць.

Харытон замітусіўся, падбег да матацыкла, які стаяў за вуглом зруба, выкаціў яго на дарогу.

— Не плач... Толькі той бяды... Сядай, завязу дамоў.

— Хіба я не ў Селішчы?

— Не. Ты ў другую вёску трапіла. Добра, што хоць на мяне выйшла... Пашанцавала табе...

Разгублены і ўстрывожаны, ён націскаў і націскаў ботам на педаль, але нага зрывалася, матацыкл

хрыпла і часта чмыхаў, не заводзіўся. Харытон мацней таўхануў ботам: у матора нешта нарэшце нібы прарвала, і паветра страсянула частая і доўгая, як кулямётная чарга, траскатня — і Харытон патануў у клубах шызага дыму.

Ён сеў за руль, Нона — у каляску.

Да матацыкла падбег напарнік Харытона:

— Дзядзька, а вячэра?

— Іншым разам! — кінуў Харытон і выруліў матацыкл на дарогу...

— Ну і ліхадзей, ну і душагуб! Адправіў у лес гасцей пасвіць кароў! І каго? Тых, хто ў лесе ніколі не хадзіў. Дадумацца ж да такога трэба! — трымаўся за руль і стараўся перакрычаць траскатню матацыкла Харытон.— Усё яму мала! Грошы ў доўгую панчоху ўсё пхае. Пастухоў не нойме. Эканоміць. І на чым? Нявестку адправіў у лес карміць камароў! Пастуха з гарадскога чалавека зрабіў. Вось чалавек, дык чалавек!..

Яны не ўехалі, а як не ўляцелі на матацыкле ў двор. Ігар пачуў пад акном грукат дзядзькавага «Дняпра», выйшаў з хаты і спыніўся на ганку. Убачыў у калясцы матацыкла панылую жонку, узрадаваўся і здзіўлена пахітаў галавою:

— Доўга ты ішла дамоў. За гэты час можна было ў Мінск зайсці.

І зірнуў на Харытона:

— І дзе ён цябе на буксір падчапіў?

Дзядзька заглушыў матор, злез з матацыкла і вырачыўся на Ігара:

— Аж у Замошшы! Вось куды яна заблудзіла! Каб не я...

— Вось дык прагулялася!

— Табе яшчэ смешна. Кінуў мяне і пабег кароў шукаць... Каровы даражэйшыя за мяне,— пакрыўджана азвалася Нона.

— Не іголка ў сене — сама знайшлася б. А каровы...

— Вось дык муж! — не вытрымаў, перабіў Ігара дзядзька.— Жонка ў лесе блудзіць, а ён у хаце сядзіць. І пасміхаецца яшчэ: «Жонка — не карова, сама хату знойдзе!» Вось і жыві з такім чалавекам, чакай ад яго дапамогі...

— Хоць памяць будзе пра вёску,— пачаў апраўдвацца Ігар.

— Нічога сабе памяць! — пакруціў галавою Харытон.— Ад такой памяці ў госці зуб на зуб не трапляе ад страху... Сказануў жа...

Нона ўсё яшчэ сядзела ў калясцы матацыкла і маўчала, быццам і не слухала гаворку Ігара з дзядзькам. Сядзела і не магла нават паварушыцца ад стомы, якая разлілася па целе, скавала, нібы адабрала ногі.

— А каровы знайшліся? — падняла нарэшце яна на Ігара вочы.

— Даўно. Каля сотак перанялі. Маці вунь доіць.

— А дзе бацька?

— У лес пайшоў. Шукаць цябе. Хутка прыйдзе.

Падаіла кароў і прыбегла з хлява маці, кінулася да нявесткі:

— Ой, Нонка, прабачай, што так выйшла! Стары дурань гэта надумаў, каб ты пагнала пасвіць кароў. Адгаворвала ж я яго. Не паслухаў. Заўтра сам ён пагоніць чаргу... Замест цябе.

Яна падышла, адкінула ў калясцы покрыва, пад якім хаваліся ногі нявесткі, узяла Нону пад руку, каб дапамагчы ёй вылезці з матацыкла, але насустрач ступіў Харытон, засланіў сабою госцю.

— А дзе выкуп? Не выпушчу з каляскі, не аддам нявестку.

— Без гэтага, бессаромнік, і кроку не ступіш,— уздыхнула яна і пайшла нехаця ў кладоўку.

## 10

Паснедаўшы, Цімох і Ігар пад паветкаю ўзялі лапаты і пайшлі ў сад.

— Лядоўню будзем рабіць вось тут,— адмераў нагамі каля плота ладны кавалак зямлі, забіў, паставіў па вуглах калкі Цімох.— Тут якраз ёй месца. І цень ад хаты на яе будзе падаць, і яблыням яна не перашкаджацьме.

— Ці зробім яшчэ? — засумняваўся Ігар.— Праект нейкі трэба ж мець... Першымі ў вёсцы, мабыць, і робім лядоўню... Ніякага вопыту.

Ён стаяў, абапёршыся на дзяржальна лапаты, і недаверліва пазіраў на адмераную бацькам дзялянку зямлі, на якой густа буцвела лебяда.

— Праект даўно ў мяне вось тут! — паказаў Цімох пальцам на сваю галаву.— Выкапаем шырокую ямку, саб'ём з дошак, укапаем у зямлю дзве апалубкі, забутуем іх сухім мохам, а між іх, усярэдзіне, накладзём зімою лёду. На рэчцы, калі мароз ударыць, наламаем яго, нарэжам. І засыплем лядоўню зямлёю зверху, абкладзём ігліцай, каб цяпло не прапускала... Вось і лядоўня гатовая... На ўвесь год выгада: і малако ў спёку, калі паставіш, не скісне, і мяса тут заўсёды будзе свежае, і бярозавічак у бочцы ўсё лета будзе халодны. Гатовы халадзільнік! І яшчэ які! А ты кажаш, што праект трэба... Былі б толькі рукі...

— І выцвярэзнік будзе! — адазваўся дзед.— Для Харытона...

— Для яго даўно трэба было выцвярэзнік змураваць,— засмяяўся Цімох.— Тады ён з яго не вылазіў бы...

Дзед сядзеў на лаўцы пад яблыняй і, пачапіўшы на нос акуляры, чытаў газету. Калі ж у сад зайшлі з лапатамі сын і ўнук, адклаў яе ўбок і цяпер цікаўна пазіркваў на іх праз шкельцы, сачыў за іх работаю.

Прыбегла ў сад з сумкаю ў руцэ Нона. Трэба было назбіраць на дарогу яблык і груш, бо назаўтра яна збіралася ехаць у Мінск. Пасля страху, якога яна набралася ў лесе, пасвячы кароў, яшчэ не магла ніяк апамятацца і ўжо каторы раз прасіла Ігара ехаць дамоў, але той не слухаў яе, адгаворваў, прасіў пачакаць, калі скончаць з бацькам лядоўню. Але Нона зусім занудзілася па Мінску, вырашыла ехаць, хоць цяпер ёй тут, у вёсцы, і не давалі ніякай работы.

— Пачакала б Ігара,— сказаў дзед, калі Нона падышла бліжэй да яго.— Разам жа весялей ехаць...

— Сам знойдзе дарогу ў Мінск.

— Нядобра пакідаць свайго чалавека.

— Я і не пакідаю... Ён сам застаецца.

— Не спадабалася, бачу, у нас. Прыехала гасцяваць, а прыйшлося гараваць.

— Не кажыце,— махнула яна рукою.

— Праз тыдзень паедзеце.

— А за тым тыднем будзе яшчэ тыдзень,— уздыхнула Нона.— Заўтра паеду.

— Сёння тут, а заўтра ў свой кут.

Бацька з сынам не ўмешваліся ў размову дзеда і Ноны, моўчкі капалі зямлю. Зямля пад плотам была зляжалая, цвёрдая, пératканая карэннем, і на лапаты трэба было націскаць з усёй сілы, каб вырэзваць, падважваць і адкідваць убок дзірван. Калі яны ўскапалі, адкінулі пад плот верхні пласт зямлі, работа ў іх пайшла лягчэй і спарней: пад нагамі асыпаўся жоўты і пульхны пясок, і лапаты з ціхім шорганам бралі і адвальвалі яго на край ямы.

— Ой-ёй-ёй! Памажыце!

Жаночы голас тузануў Ігара і Цімоха. Разагнуліся, выпусцілі з рук лапаты, зірнулі на Нону. Яна, адмахваючыся рукамі, бегла да іх, спатыкалася, падала, ускоквала на ногі і зноў бегла.

— Што такое?!
— Пчолы, пчолы!
— Не размахвай рукамі!
— Хусткай накрывайся!
Пачула крык і выбегла з хаты з вядром вады ў руцэ маці. Божкаючы ад перапалоху, яна падскочыла да нявесткі і пачала абпырскваць яе вадою. І гэта памагло — пчолы перасталі віцца за Нонай, гнацца за ёю і джаліць. Свякруха ўзяла за руку нявестку і павяла яе ў хату.
— Не трэба было да вулляў падыходзіць.
— Каля іх яблыкі ж ляжалі,— хліпала носам Нона.— Вельмі ж спелыя яблыкі...
Яна ўсё яшчэ не магла ніяк аддыхацца, супакоіцца ад перапалоху, вадзіла пальцамі па шчоках, расцірала балючыя, паджаленыя месцы.
— Пчолы не зачапілі б цябе, каб не надушылася... Адэкалон і духі яны вельмі не любяць,— казала маці.
Калі зайшлі ў хату, Нона падышла да люстра, зірнула на сябе і жахнулася — твар увачавідкі пачаў распухаць: заплывалі вочы, таўсцелі губы, а на носе расла, адвісала вялікая і круглая, як бульбіна, гуля.
Рукі яе самі пацягнуліся да пудраніцы і парфумы, пачалі наводзіць на твары парадак. Падвяла бровы, падмалявала губы, напудрыла шчокі, зноў зірнула ў люстра і ад перапалоху адхіснулася назад, жахнулася — на яе глядзеў чужы, перакрыўлены твар з вузкім, як у манголкі, разрэзам вачэй.
— Што яны з мяне зрабілі? — застагнала ў адчаі Нона.
І не заўважыла, як ззаду да яе падышоў Ігар.
— Вось гэта партрэт! — зірнуў на жонку і зарагатаў ён.— Вось цяпер цябе можна толькі пускаць у лес... Ваўкі ўсе разбягуцца, калі ўбачаць такое страшыдла!

— А як жа я дамоў паеду?! Як у горадзе пакажуся?!

— А ты зараз і не паказвайся... Сядзі ў хаце і чакай мяне... За той час, калі я закончу работу, твар твой адтухне. Не паедзеш жа ты зараз людзей палохаць...

Ігар пайшоў у дзверы, спыніўся на парозе, зноў зірнуў на жонку і зарагатаў:

— Я хацеў, каб цябе пчолы пакусалі... Каб разам паехаць...

## 11

Праводзіць гасцей у хаце сабралася радня. Прыхарошаныя, апранутыя ва ўсё чыстае на лаве сядзелі і ціха гаварылі цёткі Мальвіна і Грыпіна, тупалі па хаце, збіралі ў дарогу сына і нявестку Цімох і Ганна. На гэты выпадак маці прыбралася ў святочную шарсцяную сукенку, а бацька выцягнуў з шафы і апрануў шэры лаўсанавы касцюм. Не адстаў ад іх і дзед Лявон, падраўняў нажніцамі бараду, расчасаў яе на два бакі, расклаў, разгарнуў на грудзях, наваксаваў да сонечнага бляску ялавыя боты, падперазаўся шырокай салдацкай дзягай.

На стале і падлозе ляжалі і стаялі сумкі, абвязаныя, абгорнутыя марляй вёдры і каструлі, слоікі і розныя скруткі — харч.

— Рук не хопіць усё гэта забраць,— акінуў вачыма ўсю гэтую паклажу і буркнуў незадаволена Ігар.— Не панясём удваіх... Сіл не хопіць.

— Было б што браць,— азваўся бацька.— Да аўтобуса завязём матацыклам, а ў горадзе ноймеш таксі...

— Усё ж трэба... І мяса, і сала, і масла... І варэнне. Яблыкі і памідоры... У горадзе ж грошы за ўсё

гэта трэба аддаць,— вінавата глядзела на нявестку і сына і гаварыла маці.— Дзед вунь нават мёду ў пчол набраў. Цэлы бітончык.

— Гэта не я, а пчолы прыдумалі Ноне такі падарунак,— сказаў дзед, хітравата зірнуўшы на ўнучку.

Усе засмяяліся.

Селі за стол. На покуці, самым важным і ганарлівым месцы, сеў дзед. Ён і ўзяўся верхаводзіць за сталом. Хітравата зірнуў на сына, падняўся з-за стала і правёў далонню па барадзе:

— Тут на развітанне слова хоча сказаць гасцям сам гаспадар хаты. І вельмі важнае слова!

Дзед пасля сваіх слоў не сеў, застаўся стаяць на месцы. Гледзячы на яго, усе падняліся.

Цімох устаў з табурэта, палез рукою ў кішэню, выцягнуў канверт і паклаў яго на стол.

— Мы ўсёй раднёй змікіцілі падарунак вам зрабіць... Грошай вам сабралі... На кааператыў... Каб мелі сваю кватэру, не аціраліся па чужых кутках... Каб і нам, калі прыедзем у госці да вас, было дзе спыніцца, галовы прыхіліць,— і выняў з канверта ашчадную кніжку, працягнуў яе цераз стол Ігару: — На тваё прозвішча грошы паклалі... Глядзі, не распускай іх... Грошы любяць, калі іх разам трымаюць... Тады яны не расходзяцца, а збіраюцца... Вось!

Ігар нерашуча ўзяў ашчадную кніжку ў рукі, вінавата стаяў, пазіраў на ўсіх і не ведаў, куды яе пакласці і што казаць.

І нарэшце выдыхнуў:

— Дзякуем. Пабагацеем — аддадзім.

— Дзе гэта было бачна, каб цяперашнія дзеці аддавалі бацькам пазыку? Абдзяруць, як ліпку, і яшчэ просяць,— сказаў Цімох.

— Можна сказаць, што гэта і не дораныя, а зробленыя вамі грошы... Сваімі рукамі зарабілі... Памагалі ж нам,— парушыла маўчанне маці.

Яе словы падхапілі цёткі:

— І сена нарабілі, і чаргу адпасвілі.

— А гной, а сажалка!

— І лядоўня!

— І агуркі!

Усе паглядзелі на Нону і засмяяліся.

— Чыста выпалала граду!

— Голая стала, як дзедава лысіна!

Нона пачырванела, прыхілілася плячом да Ігара і толькі цяпер заўважыла, што сярод радні няма Харытона.

— А дзе дзядзька? — абвяла яна ўсіх позіркам.— Чаму яго няма?

— Не прыйшоў, бо сёння ў калгасе давалі аванс,— адказаў за ўсіх Цімох.— Няма яму калі і прыйсці... Змагарычыўся!..— І добрым бацькоўскім позіркам паглядзеў на сына і нявестку.— Не забывайце, прыязджайце да нас і на тое лета. Няма чаго ў гарадскім смуродзе сядзець... Тут і паветра чыстае, і малако свежае. І халодны бярозавік будзе. З лядоўні... І не крыўдуйце, калі што не так выйшла... Абавязкова прыязджайце... Знойдзем вам тут занятак. Работы — хоць заваліся! Былі б толькі рукі...

— Праўду кажа Цімох! — падтрымаў яго дзед.— Каб смачней есці і хораша хадзіць, трэба многа рабіць. Рот павінен рукам дзякаваць! Вось! Ну, каб у вашай хаце было багацце! Каб багацелі і спераду гарбацелі...

## 12

За акном вагона, нібы на вялізным крузе, разварочваліся палеткі і гаі, то ападалі ўніз, то зноў падымаліся на слупы абвіслыя правады, набягалі і імчаліся ў канец цягніка дробныя і частыя копы се-

на, што стаялі ўздоўж чыгункі. Сонца, як разрэзаны папал гарбуз, сачылася чырванню, кацілася па небасхіле, праскоквала праз далёкія пралескі, бегла напераганкі з цягнікам, і Нона, седзячы ў вагоне, не спускала позірку з набрынялага барвай захаду, сама сабе ўсміхалася...

Падалося, што перад вачыма зноў выплыла вясёлка, якую яна бачыла пасля дажджу, калі вярталася з Ігарам з лесу ў вёску. Вялізная, сплеценая з рознакаляровых стужак брама тады выйшла аднекуль з кустоў, павісла ў небе і марудна, не забягаючы наперад і не адстаючы ад яе і Ігара, ішла паўз сцежку. Яе правае рукаво раптам павісла над вёскай — засвяціліся вокны ў хатах, зрабіліся на момант пяшчотна блакітнымі, потым успыхнулі зыркай барвай, і Нона ад нечаканасці спынілася, доўга не зводзіла вачэй з вясёлкі. Кранулася з месца толькі тады, калі яна растала ў небе.

Нона глядзела ў акно вагона, задуменна маўчала, потым дакранулася рукою да пляча Ігара:

— Скажы, над Селішчам кожнае лета бывае такая прыгожая вясёлка?

— Не,— усміхнуўся ён.— Загараецца толькі тады, калі жаданыя госці прыязджаюць у вёску. Прывячае іх.

— І ў наступнае лета, калі прыедзем, будзе нам ззяць?

— Будзе,— кіўнуў галавою Ігар.— Кажуць, на шчасце яна ўзыходзіць.

— Праўда? — пяшчотна паглядзела на яго Нона.— Няўжо яна ведае, што мы шчаслівыя?

І засмяялася, паклала галаву на плячо Ігара.

# ЧУЖЫ СВАЯК

## 1

На стале ляжаў расчынены, абшмулены ў далёкіх дарогах чамадан, і старая Хвядора, соўгаючы па падлозе пантоплямі, насіла і ставіла ў яго слоікі, клала пакункі, скруткі, абгорнутыя газетамі і перавязаныя матузамі і ніткамі,— збірала сына ў дарогу.

— У кутку тут мёд. Глядзі, каб не пацёк у дарозе. Ледзь вымаліла ў Антона. Спагадаў, дзякаваць яму... І варэнне. З шыпшыны. Ад прастуды вельмі памагае... Так і скажы Ніне, каб ведала, каб не селі і не з'елі яго адразу. Лякарства гэта. Па лыжцы трэба. З мёдам. Як рукою здыме прастуду. Па лыжцы. Ці чуеш ты, Віктар?

— Ага...— выдыхнуў, азваўся ён, хоць і не чуў, што бубніла сабе пад нос маці.

Сын згорблена сядзеў на табурэце пасярод хаты, глядзеў у падлогу і думаў пра дарогу, пра хуткую сустрэчу з былой сваёй жонкай і дзецьмі. Вось ужо мінула пяць гадоў, як ён не жыве з імі. Разышоўся з жонкаю, панасіўся, пацягаўся па белым свеце, шукаючы сабе якога прытулку, але месца, дзе можна было спыніцца, жыць, не знайшоў і прыбіўся, прыехаў да маці ў вёску. Тут, у Цярэблях, узялі яго бібліятэкарам. На першым часе, калі прыехаў у вёску, стараўся менш патыкацца людзям на вочы, сядзеў больш дома ці ў бібліятэцы — баяўся людскіх роспытаў пра сваё жыццё, перасудаў і розных плё-

так. Здавалася, што кожны глядзіць у яго бок, паказвае пальцам і насміхаецца... Маўляў, дажыўся чалавек: жонка выпхнула, вытурыла з кватэры, не было дзе дзецца, прытуліць душу — вось і прыехаў. Усе ў горад едуць жыць, дабіваюцца там прапісак і кватэр, а ён... Вучыўся ў інстытуце, скончыў аспірантуру... Такому б толькі жыць і рабіць у горадзе. І вось на́ табе — высока лятаў, ды нізка сеў. Потым людзі перасталі пра яго гаварыць, прывыклі да Віктара і цяпер не ўяўлялі сваёй вёскі без маўклівага, ветлівага бібліятэкара, быццам той і не жыў у горадзе, не пакідаў вёску. Ды і Віктару цяпер здавалася, што ён ніколі і нікуды не выязджаў з Цярэбляў.

За гэтыя пяць гадоў тут, у вёсцы, сяк-так абжыўся, змірыўся са сваім адзінокім жыццём, аднастайным і панылым, задушыў у сабе сум па жонцы, сыну і дачцэ, перастаў пра іх думаць. І часам Віктару здавалася, што ў яго і не было сям'і. Так было да ўчарашняга дня. Учора паштарка прынесла яму пісьмо з Мінска, ад былой жонкі. У ім Ніна нічога не напісала ні пра сваё жыццё, ні пра дзяцей, толькі нечакана паведаміла, што адмаўляецца ад аліментаў. Спачатку Віктар не паверыў таму, што было напісана, прачытаў адзін раз пісьмо, потым другі, моцна захваляваўся і ўжо не мог супакоіцца. Забыты сум па колішняй сям'і ўзбунтаваўся ў ім, і Віктар ужо не мог знайсці сабе месца, цэлы дзень то кружыў па хаце, то хадзіў па двары, не ведаючы, дзе сябе дзець, ноччу варочаўся ў ложку, часта ўставаў, курыў і ўсё думаў і думаў пра пісьмо і ні да чаго не мог дадумацца. Можа, страшнае што здарылася з дзецьмі? Можа, іх ужо і няма на гэтым свеце? Ад гэтай думкі ён увесь халадзеў. Трывожыла, не давала спакою тое, што зваротны адрас на канверце быў зусім другі, невядомы яму. Ці не атрымала Ніна новую кватэру? Але ж хто дасць новую, калі ў іх была двухпакаёвая? Усю ноч

Віктар не звёў вачэй, чакаў раніцы. Калі ж развіднела, пагаліўся, апрануўся ва ўсё новае, выцягнуў з-пад ложка парожні чамадан, разбудзіў маці і сказаў, што паедзе ў Мінск.

— Нізкі паклон ад мяне перадай Ніне і ўнукам. Папрасі, каб прыехалі ў госці... Цяпер лета, канікулы ў дзяцей... Хай бы хоць Толік прыехаў адведаць... Ягад і грыбоў назбіраў бы, у рэчцы папялёхаўся б... Без яго і не прыязджай. Хоць вокам зірну на ўнука,— наказвала Віктару маці і ўсё насіла з кладоўкі, утоптвала ў чамадан гасцінцы. Цесна пакавала іх і ўсё прыгаворвала, нібы пералічвала, каб што не забыць.— Сухіх баравікоў тут трохі паклала і чарніц торбачку... Сухіх... І яек... Глядзі, асцярожны будзь з чамаданам у дарозе, не кідай яго, не шпурляй.— Пастаяла, нешта падумала і палезла на печ.— Арэхаў і гарбузікаў забылася пакласці малым. Няхай зубкі точаць і мяне добрым словам успамінаюць...

Потым яна прынесла з сяней абгорнуты ў цэлафан вялікі і шырокі, як плаха, кус сала, уціснула яго ў чамадан і пачала зачыняць вечка. Рукі ў Хвядоры дрыжалі, яна божкала, ніяк не магла зашчапіць замкі, пакуль не падышоў і не дапамог Віктар. Зачыніў, зняў са стала чамадан, паставіў старчма, бокам на падлогу, прабурчаў:

— Усяго кормніка ўпакавала ў чамадан. Рукі павырываю ў дарозе. Пакуль заеду... Чаго добрага, а яек і сала можна і ў горадзе купіць, былі б грошы...

— Дзе ж тых грошай набярэшся на ўсё? — азвалася старая.— Апошнія аддала табе ў дарогу... Каб унукам купіў падарункі... Касцюмчык каб які выбраў у магазіне Толіку, а Ленцы цацку каб купіў.— І зірнула зноў на чамадан.— Кажаш, у горадзе можна купіць... Сала ж сваё, хатняе, не раўня гарадскому, магазіннаму... З-пад таго, калі кінеш на патэльню, і кропелькі тлушчу не пакажацца, не выступіць, а на-

ша сала аж растае ў роце... Не трэба і скварыць...

Калі ж ён з чамаданам пераступіў парог і пайшоў да варот, маці, дробна пераменьваючы ногі, тэпала ззаду ў сына, нешта шаптала сабе пад нос. На вуліцы яна забегла наперад, перахрысціла Віктара ў дарогу і апошні раз наказала:

— Глядзі ж там... Язык не распускай... Мірыся з Нінаю... Можа, хоць перад смерцю з унукамі пабуду, пацешуся імі... І картачак не забудзь узяць! Хоць нагляджуся на ўнукаў. Чуеш, Віктар?..— І не вытрымала, захліпала ў хусцінку...

## 2

Цэлы дзень не ішла, валілася з рук работа ў старой Хвядоры. Хацела была прапалоць, падварушыць, абгарнуць зямлёю памідоры, каб спрытней, байчэй раслі, узяла ў гумне капаніцу, зайшла ў агародчык, але праматычыла толькі палову грады. Кінула капаніцу і пайшла ў двор. Падумала, што трэба злавіць белую куру і пасадзіць яе пад рэшата, каб не сыходзіла з селішча і не несла яйкі ў чужым двары, ды не зрабіла і гэтага — чубатая, калі за ёю пагналася Хвядора, нарабіла столькі крыку, падняла такі вэрхал, што хоць самой гаспадыні ўцякай са свайго двара. Ад курынага гвалту ў старой разбалелася галава, і яна села на ганак, апусціла на прыпол рукі і знерухомела, заціхла. Сэрца ў яе моцна калацілася ад бегатні, цела прабіралі дрыжыкі, у руках і нагах застыла млявасць. Хацела была падняцца, яшчэ чым заняць сябе, каб адагнаць думкі пра сына, не разрываць па ім душу, але не хапала ўжо сілы. Трэба было хоць трохі аддыхацца, каб яе прыбыло ў целе, каб цвярдзейшымі зрабіліся рукі і ногі. Калі ж млявасць прайшла, Хвядора цяжка паднялася, аба-

перлася аб плот і, памагаючы сабе рукамі, марудна пайшла ў хату, прылегла на ложак. У галаву зноў прыходзілі думкі пра Віктара, вярэдзілі, мучылі душу, і нельга было ні адчапіцца, ні адмахнуцца ад іх.

Хвядора некалі не магла нарадавацца сваім сынам, кожнаму сустрэчнаму-папярэчнаму не давала праходу, спыняла на вуліцы, калі хто праходзіў каля яе хаты, і хваліла свайго Віктара. Яна аж залівалася радасным голасам, калі гаварыла пра яго, і людзі, пазіраючы на яе шчаслівы твар, зайздросцілі адзінокай жанчыне, у якой хоць і не ўдалося жыццё, але затое пашанцавала на дзіця. Чалавек яе, Трахім, не пажыў з маладою Хвядораю і года, не дачакаўся, не пабачыў сына — нахапілася вайна, пайшоў ваяваць і не вярнуўся. Застаўся на руках у яе маленькі Віктар. Колькі слёз выплакала Хвядора над хлопчыкам, тулячы яго да грудзей, хаваючыся ад карнікаў у лесе, колькі гора выгаравала... І вынасіла з сабою, не дала прапасці ад холаду і голаду малому, выгушкала, выкалыхала яго на руках, выхадзіла, кволага і хворага, хоць і самую ледзь не паклалі ў магілу, калі схапіў тыф. Пранеслася вайна, вярнулася з сынам з лесу на голае, спаленае селішча, і не было ёй за што рукі зачапіць, не было дзе душу прыгарнуць, сагрэць. Дзякуй людзям, памаглі, не далі прапасці — агоралі разам, склалі Хвядоры з тонкіх бярвенцаў хаціну...

Потым пайшлі галодныя гады, нішчымніца. Хвядора сама недаядала, а ўсё аддавала сыну, каб хутчэй рос, сілы набіраўся, памочнікам стаў. І не заўважыла, гаруючы на сотках, на калгасным полі ад цямна да цямна, як вырас ён, пайшоў у школу. Вучыўся вельмі добра, настаўнікі кожны раз на сходах хвалілі яе за сына, і Хвядора, падбадзёраная, падахвочаная іхнімі словамі, не давала сабе спачыну, бегла ў лес, рачкавала там, збірала на продаж ягады і грыбы, каб

і кніжак сыну купіць, і які-небудзь картовы касцюмчык дастаць, не хацелася, каб яе дзіця хадзіла ў школу ў латунах, было апранута горш, чым людскія дзеці. Хутка сын выцягнуўся ў цыбатага высокага падлетка, і Хвядора ўжо не ведала клопату ні з дрывамі, ні з сенам. І матчынай радасці не было канца, калі Віктар прывёў аднойчы ў двор сваіх аднакласнікаў з сякерамі і піламі і яны гуртам перасыпалі, перарабілі хату, паставілі новы хлеў. Гэта было, калі ён апошні год вучыўся ў школе.

Потым Віктар паехаў вучыцца ў інстытут. Памагала, чым магла, яна сыну і цяпер, пасылала сала, грошы. І раптам ён ажаніўся... Не знаходзіла ад радасці Хвядора сабе месца ў хаце, калі аднойчы ўлетку сын прывёз да яе ў госці нявестку і ўнука Толіка. Нявестка, лагодная, спакойная і спагадлівая, адразу прыйшлася па душы старой Хвядоры, нібы роднай дачкою стала. І ўсё старалася ў хаце: і сцены пабяліла, і на вокнах фіранкі памяняла, і падлогу вымыла, чыста вышаравала дзеркачом, і вазоны перасадзіла ў старых гаршках.

Хвядора цэлае лета тады не адыходзіла ад Толіка, гладзіла яго па галаве, узіралася ў твар, і ёй здавалася, што бачыць перад сабою не ўнука, а малога Віктара. Ды не доўга цешылася Хвядора нявесткаю і ўнукам. Толькі і бачыла іх тады, калі прыязджалі першы раз у госці. Першы і апошні раз...

Ляжаць адной у хаце было маркотна і моташна, на сэрцы не лягчэла, яшчэ больш гняло, быццам на грудзі хто паклаў цяжкі гарачы камень, і ніяк няможна было яго ні скінуць з сябе, ні зварухнуцца з месца, і старая асцярожна падпялася з ложка, выйшла на двор і патупала да варот — закарцела пайсці да суседкі Алены, сяброўкі з дзявочых гадоў, каб паспавядацца перад ёю, пагаварыць, суцешыць сябе, скінуць гора...

Алена была дома. Яна стаяла перад печчу, брала з прыполу і кідала пад дровы сухія трэскі. Рубанцы не хацелі гарэць, чадзілі, і жоўты, як кужаль, дым адганяла на хату.

Хвядора паздароўкалася, села на табурэт насупраць печы, папыталася:

— Чаму так позна ў печы паліш?

— Хіба не бачыш?

Алена паставіла ў кавешнік качаргу, якою варушыла ў печы дровы, і паказала рукою на лаву. На ёй стаяў вялікаваты чыгун, у якім плёскалася, пырскалася вадою на хату нешта жывое.

Хвядора падышла і зазірнула ў яго:

— Уюны! І вялікія! Бог, як круцяцца, жаўтапузыя! Солі ім, мабыць, падсыпала, каб вычысціліся?

— Унук налавіў і прынёс... Трэба ж іх неяк абсмаліць, абсмажыць... Другі раз сёння дроў накідала ў печ.

— Артур гэта?

— Два мяшкі, кажа, налавілі... Не забыў, бач, і мяне... Прынёс сваёй бабулі паспытаць...

— Добра табе з унукамі! — уздыхнула Хвядора.

— Хутка і праўнукаў дачакаюся,— пахвалілася суседка.— Ларыса, дачка Тамарына, замуж выходзіць. Пісьмо вунь прыслала з Ленінграда, на вяселле запрашае... Піша, што легкавік купілі... «Жыгулі» гэтыя... Цяпер кожнае лета ў госці прыязджацьмуць...

— Можа, і да мяне ўнук прыдзе... Толік,— ціха, неяк боязна азвалася Хвядора.— Каторы ў Мінску...

Алена прысела на ўслон, зірнула на суседку:

— Куды гэта ты раніцай Віктара праводзіла? Ці не ў прымы куды? Забыла ў цябе адразу спытаць, калі ў хату зайшла...

— У Мінск паехаў. Дзяцей сваіх адведаць, паглядзець... Прыслала Ніна пісьмо... Напісала, што не

будзе браць ад яго аліментаў. Вось і паехаў даведацца, што і як...

— Бач ты! — Алена паглядзела ў вочы суседкі і не ведала, верыць ці не верыць яе словам.— Першы раз чую, каб гарадская жонка ад дармовых грошай адмаўлялася... Там развадныя жанкі па тры шкуры здзіраюць з мужчын, а тут... Не ведаю, што і казаць... Можа, сысціся хоча з Віктарам? Вось і перастала браць грошы...

Хвядора павесялела:

— Каб жа так было...

— Так яно і ёсць...

— Твае словы ды богу ў вушы.

— Яна ж намякнула ў пісьме, каб прыехаў... Аліментамі гэтымі...

— Яна была ў мяне добраю,— пачала хваліць былую нявестку Хвядора.— Бывала, калі сын прыедзе, кожны раз падарунак мне перадавала...

— Пашкадавала, бач, Віктара... Ад грошай адмовілася...

— Пашкадавала...— уздыхнула Хвядора.— Што ад яго возьмеш? З бальніцы не вылазіць. Усю зіму ляжаў. На маю пенсію жылі. Спаліў гарэлкаю нутро... Адны таблеткі глытае. Давяла гарэлка да хваробы, каб тысячу разоў перавярнуўся на тым свеце той, хто яе выдумаў...

— Ён жа цяпер не п'е.

— Куды ж піць — храпіў здароўе. Усё ў яго баліць... І галава, і жывот, і сэрца...— Хвядора памаўчала, пахітала галавою.— І хто б гэта гадаў, хто б думаў, што так з ім будзе... Такі вясёлы, здаровы быў... Звязаўся з гарэлкаю, прывучыўся і ўсё згубіў: і навуку, і сям'ю, і кватэру, і здароўе. Дзе б ён жыў, каб не я? — Яна падняла з калень фартух, выцерла ім вочы.— І чым жа я бога ўгнявіла, што ён мяне так пакараў.— Пахліпала ў фартух.— Такі быў

вясёлы, гаваркі... А цяпер за дзень ад яго і слова не пачуеш... Усё маўчыць... Нешта ўсё думае і думае... З людзьмі баіцца гаварыць. Пераживае, мабыць, што сам сабе натварыў гэтай гарэлкай... Раней трэба было думаць, калі бутэльку не выпускаў з рук, жлукціў з яе гэты смурод. Цяпер позна. Не вернеш ужо таго, што было. Добра, што хоць яшчэ жыву, кеўляю, есці навару, сарочку памыю. Памру — зусім прападзе.

— Няхай бы знайшоў сабе якую жанчыну,— параіла Алена.— Знайшоў бы і жыў...

Хвядора махнула рукою:

— Хто за яго цяпер пойдзе? Каму ён, хворы, цяпер трэба? Толькі хіба назад можа ўзяць даўняшняя жонка... Змілуецца і возьме... Як-ніяк, а дзеці хочуць з бацькам гадавацца...— Хвядора зноў цяжка ўздыхнула.— Вось што нарабіла гарэлка. Можа, хто прырабіў, што атравіўся ёю...

— Свет такі пайшоў... Куды ні паткніся, п'юць. Без гарэлкі ніхто лішняга і кроку не ступіць. Хочаш, каб дровы прывезлі, давай магарыч, сена — магарыч, соткі — магарыч... Грошы ніхто і не бярэ... Гарэлкай трэба разлічвацца... Грошай цяпер у кожнага багата... А калі на каляды хто кабана заколе, хаўтуры па ім спраўляюць, як па нябожчыку... Цэлы тыдзень п'юць... Усёй вуліцай... Потым другі паложыць кабана... Пераходзяць усе п'яніцы да яго ў хату... І гудуць там, пакуль усяго кормніка не ўлапошаць. І ўсю зіму так... Вось да чаго дайшло. Людзі галовы паадпівалі... Ад добрай жыткі, ад роскашы гэта... Каб не было што есці, пра гарэлку не думалі б... Параспіваліся, распусціліся маладыя, паразводзіліся, дзяцей пасірацілі. Пры жывых бацьках дзеці сіротамі растуць... І вайны няма, і сірот багата. Не, так раней не было... І ў сельсавет не хадзілі распісвацца, але жылі дружна, трымаліся адно аднаго, дзяцей гада-

валі. А цяпер? Распуста, куды ні зірні! Гарэлка ўсё гэта нарабіла... Цяпер, праўда, моцна ўзяліся за п'яніц. Трэба было раней... Тады, можа, і толк нейкі быў бы...

Алена выгаварылася і змоўкла.

Патрэсквалі, гарэлі ў печы дровы, дым ужо не адганяла на хату, ён роўным ручаём цёк, плыў у комін, і ад печы прыгравала.

Гаспадыня паставіла на падлогу чыгун, пачала браць з яго ўюноў і нанізваць на ражон. Уюны яшчэ не заціхлі ў чыгуне, пляскаліся там, жывыя і вёрткія, выслізваліся, выкручваліся з пальцаў і тоненька папісквалі, калі траплялiся ў рукі. Тых, што падалі на падлогу, хапаў кот. Ён сядзеў перад Аленаю і не зводзіў вачэй з рук гаспадыні.

Хвядора паднялася з месца:

— Трэба ісці.

— Пачакай, уюнаў табе адсыплю.

— Можа, не трэба,— засаромелася Хвядора.

— Трэба! — усхапілася з услона гаспадыня.— Хоць паспытаеш... Табе ж ніхто не наловіць. А мне ўнук яшчэ прынясе.

— Добра, Алена, табе з унукамі,— паўтарыла Хвядора, падышла да гаспадыні і падставіла фартух.

— Не крыўджуся на іх...

І Алена вывернула ёй у фартух з чыгунка ледзь не ўсіх уюноў.

Правяла сваю сяброўку да варот, суцешыла на развітанне:

— Не гаруй, Хвядора. Сыдуцца яны. Пабачыш, што сыдуцца. І да цябе прыедуць унукі... Не бядуй, нацешышся і ты яшчэ сваімі ўнукамі.

## 3

Прыехаў Віктар у Мінск раніцай. Дзе знаходзіцца вуліца, на якой жыве Ніна з дзецьмі, ён не ведаў. Ды і не чуў ніколі пра такую, хоць і ведаў горад. Няйначай, яна была недзе ў новым мікрараёне. Падумаў, што знайсці будзе лёгка — завязе таксіст, але на прыпынак таксі ён адразу не пайшоў. Захацелася хоць трохі пахадзіць па вуліцах, паглядзець на горад, у якім не быў цэлых пяць гадоў.

Перайшоў прывакзальную плошчу, спыніўся, паставіў на асфальт чамадан, доўга ўглядаўся ў знаёмыя да болю ў грудзях абрысы Універсітэцкага гарадка і бачыў сябе бесклапотным, шчаслівым студэнтам, чуў вясёлы смех аднакурснікаў, бегатню і таўхатню па лесвіцах вучэбнага корпуса ў час перапынкаў, і перад вачмі выплываў кірпаты твар Ніны...

Ён памалу пайшоў па Ленінградскай вуліцы, завярнуў у сквер і сеў на лаўку.

Выбралася з-за высокіх дамоў, выйшла на неба сонца. Над клумбамі замітусіліся пчолы, запахла распаранай зямлёй.

Глядзеў на дробныя кветкі, што белым цветам пеніліся на кветніках, і бачыў малады пульхны снег...

Ён кіпеў у паветры, густа асядаў на дрэвы, на дарожкі сквера...

Яны, шчаслівыя, вясёлыя, спяшаліся з лекцый у інтэрнат... І раптам спыніліся ў скверы, шпурнулі ў снег партфелі з канспектамі, разбегліся ў бакі і пачалі абкідваць адно аднаго снежкамі. Ніна, танкацелая і спрытная, як ваверка, хавалася, забягала за дрэвы, а калі ён прамахваўся снежкаю, залівіста і гучна смяялася... Калі ж Віктар нагінаўся, каб зачэрпнуць у рукі снег, выскоквала з-за дрэва і пры-

гаршчамі сыпала яму снег за каўнер. Снег раставаў, халодныя струмені распаўзаліся на спіне, зябка пяклі цела, і Віктар не вытрымліваў, адбягаў убок, спыняўся, шырока раскінуўшы рукі, і Ніна, як малое дзіця, кідалася на яго са снежкаю ў руцэ і траплялa ў абдымкі.

Нацягнутаю струною гудзеў за скверыкам горад, па тратуарах беглі, спяшаліся на работу людзі. Віктар пільна ўглядаўся, шукаў у іх падабенства з сабою, але не знаходзіў. І вопраткаю, і сваёй нетаропкаю, маруднаю хадою, ладам думак, нават сваёй збянтэжанасцю перад горадам ён ужо быў вясковым чалавекам і сярод гэтых вуліц, сярод незнаёмых людзей цяпер адчуваў сябе чужым і нікому не патрэбным. Сядзеў нагінкам, паставіўшы локці на калені і падпёршы рукамі галаву, думаў і не заўважыў, што да лаўкі падышоў і спыніўся чалавек. Быў ён у белай сарочцы-безрукаўцы, у шэрых штанах, падпаясаных шырокаю папругаю. З-за папругі выпінаўся, перавісаў круглы жывот. У правай руцэ чалавек трымаў чорны партфель, леваю пагладжваў карычневую ад загару, падобную на аблуплены каштан, лысіну, пільна і доўга ўглядаўся ў Віктара, чакаў, калі той падыме галаву і зірне на яго. І не дачакаўся, ступіў бліжэй і дакрануўся рукою да Віктаравага пляча:

— Ці не Пілiпчыкам вы будзеце?

Віктар ад нечаканасці ўздрыгнуў, ускочыў з лаўкі, зірнуў на чалавека:

— Слава! Барэйша!

Віктар на першым часе разгубіўся ад нечаканай сустрэчы, і голас яго захліпнуўся ад хвалявання.

Стаялі, пазіралі адзін на аднаго і не ведалі напачатку, што гаварыць. Барэйша паўзіраўся ў сухі, белы твар Віктара, пасечаны маршчынамі, перавёў позірк на яго пасівелыя валасы:

— Ледзь пазнаў цябе... Змяніўся ты вельмі. Пастарэў, стаў сівы, як голуб...

— Гады,— уздыхнуў Віктар.— Ды і хваробы наваліліся на мяне, быццам згаварыліся... Адным словам...

Ён змоўк, апусціў галаву, нібы быў у нечым вінаваты перад сваім аднакурснікам. Пазіркваў на Барэйшу спадылба і адводзіў убок пагляд.

Барэйша перакінуў з адной рукі ў другую партфель:

— Дзе ж ты цяпер?

— У вёсцы. Жыву з маці. Развёўся, выпісаўся з Мінска і давай калясіць па свеце... На адным месцы доўга не затрымліваўся... Лепш будзе сказаць, што не затрымлівалі — п'янкі ды п'янкі... Хто будзе трымаць на рабоце такога?.. Ніхто... Каціўся, як перакаці-поле, пакуль у бальніцу не трапіў... Прызналі цыроз і хваробу сэрца... Так што на гэтым свеце я госць.

— Сам вінаваты,— сказаў Барэйша.— Выдатна вучыўся, лепшы быў студэнт на курсе, у аспірантуры аставілі... Да дысертацыі заставалася толькі руку працягнуць... І лепшую дзяўчыну ўзяў сабе ў жонкі... Прыгожая была твая Ніна. Дзеці пайшлі. Кватэру далі... І чаго табе не хапала? Жыві, толькі працуй ды радуйся...

— Усё было...— здушана азваўся Віктар.— І ўсё сплыло...

Сэрца моцна затахкала, захадзілася ў яго грудзях, потым замерла, нібы аб нешта спатыкнулася. У баку моцна запякло, заныла, і рука сама палезла ў кішэню пінжака — там быў валідол.

— Табе дрэнна? — зірнуў на яго пабялелы твар Барэйша.

— Так, трохі...— выдыхнуў Віктар.

У грудзях адпусціла, дыхаць стала лягчэй, і ён расшпіліў каўнер.

— Расхваляваўся, калі разгаварыўся з табою... Шкада ўсяго стала... Таго, што было. Але ўжо нічога назад не вернеш...

— А цяпер куды? — зірнуў Барэйша на чамадан.

— Прыехаў вось дзяцей пабачыць.

— Можа, жонка прыме цябе назад?

— Не ведаю,— уздыхнуў Віктар.

Доўга маўчалі.

Далей маўчаць было няёмка, і Віктар падняў на Барэйшу вочы:

— А як ты жывеш?

— Добра. Даўно дысертацыю абараніў. Ужо дацэнт. Выкладаю на кафедры. Даўно і ажаніўся... Кватэра добрая... У цэнтры горада.

— А дзеці ёсць?

— Сын і дачка. Малыя яшчэ.

— Ці не Тамара твая жонка? Дачка прафесара Весялоўскага? Ты, памятаю, за ёй бегаў...

— Яна,— усміхнуўся Барэйша і зноў пагладзіў сябе па лысіне.— Таксама абаранілася... Годам пазней за мяне.

— Каго-небудзь з нашых сустракаеш?

— Яшчэ б! — усклікнуў Слава.— Добры ў нас курс быў... Ніхто ў вёсцы не застаўся... Усе ў начальнікі ці вучоныя выбіліся. Нават пісьменнікі ёсць...

І зноў змоўклі.

Гаварыць больш ім не было пра што, і Барэйша зірнуў на гадзіннік:

— Мне трэба ісці... Лекцыя ў завочнікаў.

І працягнуў Віктару руку.

— Бывай! Заходзь, калі што якое, на факультэт. Дарогу ж ведаеш,— запрасіў, каб нешта сказаць на

развітанне, хоць і ведаў, што Віктар ніколі туды не наведаецца...

Віктар падняўся з лаўкі, узяў у руку чамадан і пайшоў на праспект — трэба было зайсці ў магазін і купіць дзецям падарункі.

## 4

Таксіст завёз яго аж на самы край горада. Тут, у новым мікрараёне, Віктар доўга блудзіў, шмат перапытаў людзей, пакуль не знайшоў вуліцу, на якой жыла Ніна з дзецьмі.

А вось і гэты дом. Новы, шматпавярховы, ён стаяў на самым відным месцы, каля кінатэатра. Першы паверх дома займаў доўгі, вялізны гастраном, і Віктар сам сабе адзначыў, што ні Ніне, ні дзецям не трэба далёка хадзіць па прадукты — спусціся толькі і купі.

У пад'ездзе паставіў чамадан, які за доўгую дарогу нарваў, натрудзіў руку, трохі пастаяў, прыгледзеўся, абвёў позіркам паштовыя скрынкі і знайшоў нарэшце на адной з іх патрэбны нумар кватэры. «Тут!» Нешта гарачае, даўкае падкацілася пад грудзі, і Віктар доўга, атарапела стаяў, не мог зрушыцца з месца. Але перасіліў нерашучасць, ступіў на лесвіцу. Цяжка і марудна ступаў, пераменьваў ногі на прыступках, часта спыняўся на лесвічных пляцоўках, пераводзіў дыханне і зноў цягнуў з сабою ўгару цяжкі чамадан. «Ці пазнаюць, ці прымуць?» — трывожна і гнятліва сціскалася ўсярэдзіне. І раптам Віктару захацелася, каб нікога не было дома. Падумаў, што за гэты час, калі будзе стаяць і чакаць іх каля дзвярэй, прымусіць сябе быць больш спакойным і ўпэўненым.

На трэцім паверсе спыніўся, зірнуў на дзверы і

пахаладзеў, убачыўшы на іх патрэбны нумар. Паставіў чамадан, паклаў на яго падарункі і пашукаў вачыма кнопку званка. Блакітны гузічак заўважыў у правым баку ад дзвярэй, ступіў бліжэй і, набраўшы ў грудзі паветра, падняў, працягнуў да яго руку... І апусціў... Атарапела і разгублена азірнуўся, быццам рабіў нешта нядобрае і баяўся, каб ніхто не ўбачыў і не злавіў яго за руку, адступіў назад ад дзвярэй. Потым, перасіліўшы боязь, зноў наблізіўся да дзвярэй, рашуча націснуў на кнопку — рэзкі, кароткі званок нібы паласнуў нечым вострым яму па сэрцы, працяў усё цела навылёт. І замёр, увесь сцяўся — па той бок дзвярэй зашарпацелі па падлозе нечыя крокі, наблізіліся да парога. Бразнуў замок, і дзверы разгоніста расчыніліся насцеж. У іх стаяў высокі малады мужчына ў паласатай, як матрац, піжаме, у тапачках на босыя ногі і, жмурачы на святло вочы, незадаволена пазіраў на Віктара і глыбока пазяхаў, прыкрываў далонню рот: чалавек, відаць, смачна спаў і нечаканы званок падняў яго з пасцелі.

Віктар вінавата паглядзеў яму ў вочы:

— Прабачце, памыліўся я... Кватэрай памыліўся... Пераблытаў, мабыць, дамы.

— Мажа, і так.— Мужчына ўбачыў каля ног Віктара вялізны, як скрыня, чамадан, зразумеў, што той з доўгай дарогі, і спытаў на ўсякі выпадак: — А да каго вы прыехалі?

— Да Піліпчыкаў я... Не ведаеце часам такіх?..

— Ведаю, як не ведаць,— ветліва ўсміхнуўся мужчына.— Яны тут жывуць... Заходзьце,— запрасіў яго, выйшаў з дзвярэй, лёгка падхапіў чамадан госця і перанёс яго цераз парог у кватэру.

Віктар нясмела ўслед за ім ступіў у дзверы, спыніўся ў калідоры.

— Праходзьце, праходзьце, не саромейцеся... Распранайцеся, скідвайце чаравікі.— Ён дапамог

Віктару зняць плашч, павесіў яго на вешалку, нагнуўся, падкінуў пад ногі госцю тапкі.— Вось вам на ногі сынавы тапкі.

— Толікавы?

— Ага...

Віктар разматузіў, зняў чаравікі, ступіў у сынавы тапкі, і яны былі якраз па назе. Падумаў, што сын ужо вырас вялікі і, мабыць, не пазнáе яго, бацьку... Ці не давядзецца другі раз знаёміцца... з сынам?..

Ён зірнуў мімаходам у люстра, якое стаяла ў прыхожай, прыгладзіў далонямі валасы, абцягнуў на сабе пінжак і ўвайшоў у залу.

— Прысаджвайцеся,— паказаў мужчына госцю на канапу.— Будзьце як дома...

Віктар прысеў на канапу, мужчына апусціўся насупраць у глыбокае крэсла, вольна ў ім разваліўся, паклаўшы нагу на нагу.

— З вёскі, бачу? — паглядзеў на чорны Віктараў касцюм, завужаныя ў калошынах штаны і здагадаўся.— Ці не сваяком якім Ніне будзеце?

— Як вам сказаць,— не ведаў, з чаго пачаць размову, Віктар.— Па дзецях, можа, і сваяк...

І пацікавіўся ў мужчыны:

— А вы кватарант?

— З чаго гэта вы ўзялі? — не зразумеў, паціснуў плячыма мужчына...— Хіба я падобны на яго?

— Тады госць... Такі, як я...

Мужчына заліўся дробным смехам.

— Пацеха! Госць! — І перастаў смяяцца, зірнуў на Віктара.— Гаспадар я... Муж Ніны... Хіба вы не ведаеце?

Віктар ад нечаканасці аж прыўзняўся на канапе. Яму падалося, што аслухаўся, не пачуў як трэба тое, што сказаў мужчына, і перапытаў у яго:

— Як вы сказалі?

— Муж Ніны.

Віктар усё яшчэ не верыў пачутаму, стаяў каля канапы і не ведаў, што сказаць.

— Жартуеце, ці што? — выдыхнуў нарэшце ён.

Гаспадар паціснуў плячыма:

— Якія тут жарты?

— А чаму яна нічога не напісала?

— Каму?

— Мне, былому мужу... Як-ніяк, а дзеці ж... Дзеці ж у нас агульныя... Яны...

Віктар не дагаварыў, бездапаможна махнуў рукою і апусціўся на канапу.

На твары гаспадара застыла, замерла здзіўленне. Нейкі час ён нерухома сядзеў, уставіўшы вочы ў Віктара, але хутка апамятаўся, нібы ўзрадаваўся, ускочыў з крэсла:

— Чаму ж адразу не сказалі? Ніна багата пра вас гаварыла... Віктарам вас, здаецца, завуць?

— Ага! — кіўнуў галавой госць.

Гаспадар падышоў да яго, працягнуў руку:

— Іван! Будзем знаёмы!

— А дзе Ніна? — абвёў позіркам кватэру Віктар.

— На рабоце... Увечары прыйдзе...

— А дзеці?

— Толік пайшоў на трэніроўку, а Ленка ў садзіку.

Памаўчалі.

І раптам гаспадар зірнуў на гадзіннік, устрывожыўся.

— Што ж гэта я стаю?.. Госць у хаце. З дарогі...

І патэпаў, шлопаючы тапкамі па падлозе, у кухню. Хутка адтуль пачулася бразгаценне талерак, відэльцаў, сіпенне газавай пліты, лязганне нажа — Іван рыхтаваў, няйначай, госцю снеданне. Хутка ён выйшаў з кухні без піжамы, у адной толькі майцы — каля пліты, мабыць, было горача. Майка цесна аблягала загарэлае цела гаспадара. На руках тугімі

жаўлакамі перакочваліся мускулы, і Віктар, пазіраючы на статную постаць Івана, зайздросціў гаспадару. І раптам рэўнасць апякла Віктара і камяком падкацілася пад самыя грудзі, даўка спынілася пад сэрцам і не давала дыхаць. Прыветны, радасны твар Івана яшчэ больш расцвельваў, раздражняў — госцю здавалася, што гаспадар наўмысна ветліва гаварыў з ім, каб паздзекавацца з яго.

— Ну, хадзем, Віктар, на кухню. На хуткую руку я сабраў сёе-тое перакусіць. Прабач, калі што не так... Халасцяцкае снеданне атрымалася... Была б дома Ніна, лепш сустрэла б.

— Я есці не хачу,— аднекнуўся Віктар.

Гаварыў ён праўду. Знерваванаму, устрывожанаму, Віктару сапраўды нічога не палезла б у рот, хоць нічога ён і не еў у дарозе, калі ехаў у Мінск...

— Ну, не трэба гаварыць няпраўду,— развёў рукі Іван.— З дарогі трэба чарвяка замарыць.

— Кажу ж, паеў...

— Калі? Учора? — Іван падышоў да госця, узяў яго пад руку.— Не, брат, так у мяне не пройдзе! Сілаю прымушу есці.

Віктар неахвотна падняўся з канапы і пайшоў за Іванам на кухню.

На стале ў сподках — салата з памідораў, нарэзаная кружочкамі кілбаса, масла, яйкі, а пасярэдзіне стаяла запацелая, вынятая з халадзільніка бутэлька гарэлкі.

Селі за стол. Іван працягнуў да бутэлькі руку.

— Адзначым сустрэчу. І знаёмства.

Віктар скоса зірнуў на бутэльку і паклаў далонь на парожнюю шклянку, у якую гаспадар хацеў наліць гарэлку:

— Не п'ю!

Бутэлька ў руцэ Івана застыла, павісла над сталом.

— Як гэта? — Івану здалося, што недачуў госця, і ён з недаверам паглядзеў на Віктара.— А Ніна казала... Казала, што ты не аматар гэтага зелля, а прафесіянал. І, маўляў, разышліся вы па гэтай прычыне... Быццам ты прамяняў сям'ю на гарэлку... А яна, бач, як... Напляла мне, нагарадзіла абы-чаго пра цябе... Хіба так можна, га?

— Не нагарадзіла, праўду казала,— супакоіў яго Віктар.— Піў. Піў так, што аж здароўе падарваў. Ліў у рот, як у жлукта... А жлукта, сам ведаеш, без дна. Цяпер нельга — хваробы не даюць... Вып'ю — качаюся ад болю, крычу, як недарэзаны. Кінуў.

— Вось яно што! Тады іншая справа,— згадзіўся з госцем гаспадар і паставіў на месца бутэльку.

Віктар гаварыў з Іванам, сыходзіўся з ім бліжэй, і пачуццё рэўнасці і зайздрасці да гаспадара паступова прападала, выветрывалася з душы, нібы некуды сплывала, і яму, калі яны вялі ціхую, памяркоўную гаворку, здавалася, што цяперашняга Ніністага мужа ведае даўно, як толькі памятае сябе. Віктар ахвотна і многа гаварыў, расказваў вясковыя навіны, дзяліўся сваімі думкамі, як з блізкім, родным чалавекам. Цяпер ужо Віктар трымаў у руцэ бутэльку, лавіў момант, каб наліць у шклянку гаспадару...

— Выпі, браце! — падсунуўся ён бліжэй да Івана.— Для апетыту хоць крапельку... За сваё і маё здароўе...

— Не, Віктар, не прасі, бо не буду,— пакруціў галавою гаспадар.— На работу ж трэба ісці... Другая змена... Хіба пойдзеш выпіўшы?

— Іншыя ходзяць...

— Гэта іншыя. А я не хачу на рабоце людзей падводзіць... І не падводзіў. Працуем па брыгадным падрадзе. Усе на аднаго, а адзін на ўсіх. Убок не ўвільнеш. А пра выпіўку і гаворку нават не заводзь. Вып'еш — вон з брыгады. У нас строга.

— Прагадаў і я... — усміхнуўся Віктар.— Думаў, хоць ты за мяне вып'еш... Аж не...

— Вось дык п'яніцы сабраліся!

— Не кажы!

Іван зняў з пліты чайнік.

— Калі так, будзем грэць нутро чаем.

Віктар насыпаў у шклянку цукру, наліў кіпню, разбавіў заваркай, доўга і марудна круціў у чаі лыжкай і ўсё пазіркаў на Івана, хацеў у таго нешта спытацца, але не адважваўся, нібы сам баяўся гэтага пытання.

І ўсё ж асмеліўся, ціха сказаў:

— З Нінай даўно?..

— Сышоўся? — не даў яму дагаварыць Іван.

— Ага.

— Даўно. Тры гады назад.— Іван перастаў студзіць у лыжцы чай, адставіў убок шклянку і пагля-дзеў некуды за акно.— Цяжка пра гэта гаварыць... З першай жонкай я добра жыў, у згодзе, душа ў душу... Рымай яе звалі. Кааператывам кватэру з двух пакояў пабудавалі. Мелі ўсё, нават грошы на машыну сабралі. Ды шчасце наша кароткае было. Захварэла Рыма. Кінуліся да ўрачоў. Позна было — рак. Забралі яе ў бальніцу. Там і памерла... Колькі я перагараваў, як мучыўся пасля яе смерці... Дамоў пасля работы ісці не хацелася. Сілаю прымушаў сябе... Не верылася спачатку, калі адчыніш дзверы, што на парозе не сустрэне Рыма... На што ні глянеш у кватэры — яе бачыш... Жах браў, калі прыйдзеш у пустую кватэру. Горш за турму мне гэтая кватэра зрабілася. І вось неяк Новы год я пайшоў сустракаць да Валодзі, свайго зменшчыка. На адным станку робім. Прыйшоў і бачу: незнаёмая жанчына з дзецьмі прыйшла да яго на ёлку. Валодзева суседка. Разгаварыліся за сталом. Пачалі сустракацца. Потым сышліся... Па-

мянялі маю і яе кватэру на гэтую трохпакаёвую. Вось і жывём.

— А дзяцей з Рымай не было? — пацікавіўся Віктар.

— Не. Хацелі мець, але... — Іван выняў з кішэні цыгарэты і закурыў.— Цяпер вось гадую тваіх. Чужыя, а мне нібы родныя, сваімі сталі. І Толік, і Ленка. Бацькам мяне завуць...— Ён змоўк, не хацеў далей гаварыць пра дзяцей, каб якім-небудзь неасцярожным словам не пакрыўдзіць госця, роднага бацьку Толіка і Ленкі; ведаў, што Віктару балюча і крыўдна гэта чуць і бачыць, і, каб падбадзёрыць, развесяліць яго, адарваць ад цяжкіх думак і суцешыць, сказаў: — Гэта я папрасіў у Ніны, каб не брала з цябе аліментаў... Зарабляю я на заводзе добра, збярог сёетое, на кніжцы... Дзеці дагледжаны. Што яшчэ нам трэба? А табе лішняя капейка не пашкодзіць... Аднаму цяжэй жыць, чым гуртам, сям'ёю... Па сабе ведаю. Багата грошай разыходзілася, калі жыў адзін... І гэтае, і тое трэба купіць. І хімчыстка, і пральня, і ў сталовую хадзі... Сам ведаю.

— А дзеці хоць слухаюцца? — зірнуў Віктар у вочы гаспадару.

— Яшчэ і як! — радасна адказаў Іван.— З Толікам мы моцна сябруем... Талковы хлопец, скажу табе, расце. І вучыцца добра, і паможа, калі што папросіш... Па гаспадарцы... І спартсмен! Мае разрад па самба! У крыўду і сябе, і мяне не дасць, калі што якое... Свая абарона!

— А Ленка?

— Малайчына яна ў нас! У садзік ходзіць. Пісаць і чытаць ужо навучылася,— радасна ўсміхнуўся, аж заззяў Іван.— Адна пацеха з яе. Прыйшоў я неяк з работы і прылёг на канапе. Нешта нездаровілася. Падышла Ніна, паклала на лоб руку: «Божа, які ты гарачы!» І — да Ленкі: «Бяжы да суседзяў, папрасі

градуснік!» Ленка з усіх ног да іх, выбягае на лесвічную пляцоўку, націскае на званок і з парога: «Градуснік! Давайце хутчэй градуснік, а то наш бацька астыне!» Вось яна якая! Пацеха з яе, адна пацеха!

Віктар квола ўсміхнуўся аднымі толькі губамі. Ён чамусьці знарок шукаў у Івана нешта такое, да чаго можна б было прычапіцца і зрабіць яго ў нечым вінаватым, але нічога не знаходзіў, і гаспадар падабаўся яму ўсё больш і больш, быў мяккі, далікатны характарам і нейкі свойскі, дамавіты, быццам створаны для сямейных клопатаў. У жыцці Івану таксама не пашанцавала, ён шмат прамучыўся, перажыў пасля смерці Рымы, не дачакаўся сваіх дзяцей і таму, відаць, усю сваю дабрату, увагу цяпер аддаваў Толіку і Ленцы. І ў гэтым знаходзіў для сябе ўцеху. Віктар бачыў гэта, калі айчым хваліў і ганарыўся Толікам і Ленкаю, і яго зноў падточвала, смактала рэўнасць да сваіх родных дзяцей. Але хутка атухала, адыходзіла — цешыў сябе тым, што дзецям трапіўся добры чалавек, якога яны паважаюць і любяць.

— Ой, спазнюся на работу! — зірнуў на гадзіннік гаспадар.— Загаварыўся... Мне ж у другую змену...

І хутка пачаў збірацца. Сарваў з вешалкі плашч, накінуў на галаву кепку і ўжо з парога крыкнуў:

— Ленку забяры з садзіка! Чуеш, Віктар? Садзік адразу за домам. У двары. Блізка. Ніна і Толік прыйдуць увечары. Ключы ў дзвярах!

І Іван, ляпнуўшы дзвярамі, выскачыў з кватэры. Віктар застаўся адзін. Ён выйшаў з кухні і пачаў аглядаць кватэру. У гасцінай было чыста і ўтульна. У куце, каля дзвярэй на балкон, стаяў на цыбатых ножках каляровы тэлевізар, збоку ўвесь прасценак займалі паліцы, цесна застаўленыя кнігамі, а пад нагамі, калі ён ступаў, спружыніў шырокі зялёны дыван. Другі, квяцісты, з усходнімі ўзорамі, вісеў над канапаю. Усё ў кватэры было новае, незнаёмае,

і колькі Віктар ні прыглядаўся да ўсіх гэтых хатніх рэчаў, позірк яго не наткнуўся, не знайшоў нічога з таго, што некалі яны нажывалі разам з Нінаю і што б нагадвала іх колішняе сямейнае жыццё. Перавёў позірк на другую сцяну. На ёй — каляровае фота ў рамцы. Віктар падышоў бліжэй і пачаў узірацца ў картачку. З яе спакойным позіркам глядзела на госця распаўнелая Ніна, трымаючы на руках дачку. Ленка смешна пазірала некуды за плячо Віктара сваімі блакітнымі, як ягадзіны, вачанятамі і смактала соску. Здавалася, яна вось-вось усміхнецца і соска ўздрыгне ў губах малой, заскача, як паплавок на ціхай вадзе. Пасярэдзіне ў школьным касцюме сядзеў, паклаўшы на калені рукі, Толік і неяк па-даросламу глядзеў Віктару ў вочы, нібы пытаў: «Што, прыехаў?! Дзе ты раней быў?!» Віктар адвёў вочы ад сынавага позірку і мімаходзь зірнуў на Івана. Зірнуў і ўцёк позіркам ад картачкі, перавёў вочы на сцяну — на Іванавым месцы павінен быў сядзець ён сам. Адчыніў дзверы ў другі пакой. Тут, відаць, гаспадарыў сын — сцены былі абвешаны партрэтамі вядомых спартсменаў і артыстаў. На пісьмовым стале ляжалі падручнікі і сшыткі, збоку — дзённік у блакітнай вокладцы. Віктар асцярожна, нібы баючыся, узяў яго ў рукі і пачаў перагортваць старонкі. У дзённіку стаялі чацвёркі і пяцёркі. Слізгануў вачыма ўніз старонкі, туды, дзе павінен стаяць подпіс бацькоў, і ўбачыў акуратна выведзенае прозвішча: Іван Крукоўскі. Моцна кальнула ў сэрца — адным рухам рук загарнуў дзённік і паклаў яго на месца. Доўга стаяў нерухома, прыслухоўваўся да болю ў сэрцы і не ведаў, што думаць, дзе сябе дзець... На падаконніку ўбачыў магнітафон, працягнуў да яго руку, і раптам вочы спыніліся на выгравіраваных літарах. Прыгледзеўся і прачытаў: «Толіку ад дзядзькі Івана ў дзень нараджэння...»

...Раніцай Ніна адвяла малога ў садзік, прыйшла дамоў, паклікала Віктара і сказала:

— Трэба Толіку падарунак купіць. Заўтра ж у яго дзень нараджэння. Пяць гадоў споўніцца. Як час праляцеў.

— Канечне, трэба,— згадзіўся Віктар.— Якія гэта імяніны без падарунка... Толькі што купіць?

— Цацку якую,— параіла жонка.— Каб спадабалася яму.

— Хіба ўгадаеш?

— Заўтра павядзём яго ў «Культтавары». Няхай сам сабе выбера.

— А грошы?

Ніна пакалупалася ў сумцы, выняла і працягнула Віктару дзесятку.

— Вазьмі. Будзеш плаціць за падарунак. Каб сын бачыў, што бацька купіў.

На другі дзень, як і дамовіліся, яна прывяла Толіка ў магазін. Віктар чакаў іх там.

У секцыі цацак Толік спыніўся і, як заварожаны, застыў ад здзіўлення: на паліцах маршыравалі алавяныя салдацікі, на прылаўку поўзалі, стракочучы, танкі, мядзведзі круцілі педалі веласіпедаў, збоку, на сцяне, віселі шырокія шаблі і шлемы веліканаў-асілкаў.

Маладзенькая прадаўшчыца, сама яшчэ дзіця, узяла Толіка за ручку і павяла за прылавак. Ён на першым часе разгубіўся, нібы трапіў у казку, круціў па баках галавою, потым асвоіўся, пачаў падыходзіць да паліц, выбіраць цацкі. Вочы разбягаліся ад зайчыкаў і мядзведзікаў, гармонікаў, завадных пеўнікаў, і Толік не ведаў, якую цацку сабе выбраць, хапаў усё, што можна было дастаць з паліц. І не мог ужо трымаць у руках усе цацкі, яны выслізгвалі з рук, падалі на падлогу. Толік зноў збіраў іх, моцна прыціскаў да грудзей і шчасліва смяяўся... Смяяла-

ся, пазіраючы на сына, і маці. Яна не магла налюбавацца, нацешыцца сынам.

Віктар стаяў у баку ад прылаўка і трывожна глядзеў на цацкі, што цэлым бярэмкам ляжалі на руках у сына. І раптам ён увесь аж пахаладзеў — жонка падвяла Толіка да касіркі.

— Віктар, давай грошы! — зірнула яна на мужа.

— Я... я... забыў іх!

Ён пачаў лапаць сябе па кішэнях, разгублена мітусіцца. Потым зірнуў на сумачку Ніны.

— А ты не ўзяла?

— Я ж табе аддала грошы.

— ?!

Яна пачырванела:

— Вось і сустрэлі сынавы імяніны!

Толік сваім дзіцячым сэрцам адчуў нешта нядобрае, змоўк, заціх, мацней абшчаперыў рукамі цацкі, прыціснуў іх да грудзей. Рудзенькі калматы мядзведзік таксама нібы спалохаўся, абхапіў лапкамі шыю дзіцяці, прытуліўся, не хацеў злазіць з рук Толіка і шукаў у яго ратунку.

Прадаўшчыца глядзела на бацьку і маці і не ведала, што казаць.

Памаўчала, потым уздыхнула:

— Трэба пакласці цацкі на месца.

— Не аддам! — умольна паглядзеў на яе Толік.— Гэта мае цацкі!

І калі ўбачыў сур'ёзны, рашучы твар прадаўшчыцы і зразумеў, што яна забярэ ў яго цацкі, увесь аж задрыжаў ад роспачы, ад свайго дзіцячага гора і адчаю, кінуўся да бацькі.

— Татачка, купі! — прыхіліўся да яго і ўзмаліўся Толік.— І доктара Айбаліта, і кракадзіла Гену купі!

На яго вачах выступілі і стаялі слёзы.

Віктар разгубіўся:

— Заўтра, сынок, купім.

— Купі сёння!.. Заўтра іх забяруць чужыя дзеці.
— Заўтра, кажу!
— Купі, татачка! Я выpасту, зараблю багата-багата капеек і аддам іх табе...
— Цыц! — прытупнуў на яго Віктар.— Распусціўся! — І сілком пачаў вырываць з рук сына цацкі, класці іх на прылавак.
— Які сорам! — схапілася рукамі за галаву Ніна і выскачыла з магазіна на вуліцу.
Толік аж зайшоўся ад плачу. Спачатку ён плакаў уголас, на ўвесь магазін, потым, прыстрашаны бацькам, здушана захліпаў, глытаючы слёзы, і ўвесь аж дрыжаў, калаціўся ад адчаю.
Вакол бацькі і сына пачалі збірацца, сыходзіцца людзі. Глядзелі на Віктара і хіталі галовамі:
— Не прывядзі бог мець такога бацьку!
— Сэрца разрываецца, калі бачыш гэта...
— Цацку сыну не купіць... Грошай не знайшоў...
— На «чарніла» знайшліся б...
Да Толіка падышоў ваенны, пагладзіў яго па галаве:
— Не плач, салдат! — і ўзяў яго за руку.— Пайшлі, я заплачу за цацкі.
— Не трэба!
Віктар скоса зірнуў на ваеннага, ірвануў за руку сына і сілком выцягнуў яго на вуліцу. Задыхваючыся ад злосці і крыўды, да Віктара падбегла жонка.
— Дзе ты грошы дзеў?
— З кішэні недзе выпалі...
— Зірні мне ў вочы! — павярнула яна тварам да сябе Віктара.— Добра паглядзі! — І доўгім, упартым позіркам уставілася яму ў вочы... Віктар не вытрымаў позірку жонкі, адвярнуў твар.
— Прапіў! — зразумела яна.
— Няхай і прапіў.
І ён абыякава махнуў рукою.

— Трэба было табе пазычыць у сабакі вочы, калі ішоў у магазін.

— Думаў, што ў цябе...

— Сынавы цацкі прапіў. Вось да чаго ты дажыўся!

Яна больш нічога не сказала, схапіла за руку сына і павяла яго дамоў.

У тую ноч у Толіка паднялася тэмпература. Ён кідаўся ў гарачцы ў ложку, не падпускаў да сябе ні бацьку, ні маці, усё клікаў доктара Айбаліта.

## 5

Спадзявацца на тое, што Ленка яго пазнае і кінецца на шыю, не трэба было... Дачцэ мінула тады толькі шэсць месяцаў, калі Віктар пакінуў сям'ю. Зараз ён намагаўся прыгадаць дзень і месяц нараджэння Ленкі, але не змог. Памятаў толькі, што на двары ляжаў тады глыбокі роўны снег, зырка свяціла сонца. І ў той дзень яму пазванілі з раддома і павіншавалі з нараджэннем дачкі. Запала ў галаву, што праз тыдзень пасля гэтага званка ездзіў на таксі ў радзільню, каб забраць жонку і дачку, але ўрачы не падпусцілі і блізка да іх — быў п'яны.

Ці пазнае хоць ён Ленку? Віктар ішоў у садзік, трымаў у руцэ караб, перавязаны чырвонай істужкай, і не ведаў, што казаць, калі перастрэнуць выхавацелькі, пачнуць дапытвацца — хто ён. Хваляваўся.

Ці аддадуць яшчэ яму дачку? Ці пойдзе з ім Ленка?

А вось і садзік.

Двухпавярховы будынак быў абнесены з усіх бакоў металёваю агароджаю, і заўважыць у ёй уваход было цяжка. Віктар два разы абышоў будынак, па-

куль знайшоў драцяныя дзверкі. З іх выходзілі, трымаючы за рукі сваіх дзяцей, таты і мамы, і Віктар саступаў са сцежкі, што вяла ў двор, даваў ім дарогу. На ганку ён спыніўся, неяк не адважваючыся адчыніць у будынак дзверы. Перавёў дыханне, пацягнуў на сябе ручку дзвярэй, пераступіў парог і апынуўся ў чыстым, светлым калідоры. І разгубіўся — да яго кінуліся, абсыпалі з усіх бакоў, як кураняты квактуху, дзеці.

— Дзядзя, па каго вы?

— Што ў каробачцы, дзядзя?

І пачалі церабіць кораб, хапаць за стужку, каб развязаць і зазірнуць у яго. Віктар хутка асвоіўся і падняў кораб над галавою.

— Адгадайце!

— Танк! — упэўнена выгукнуў круглы і поўны, як гарбуз, хлопчык.

— Мядзведзь!

— Слон!

А ён моўчкі стаяў, вадзіў позіркам, прагна ўзіраўся ў твары малых, шукаў вачыма дачку, але не знаходзіў — з белымі, як матылі, банцікамі ў касічках усе дзяўчынкі былі падобныя адна на адну...

— А да каго вы прыйшлі?

— Каму падарунак прынеслі?

— Ленцы! — выдыхнуў Віктар.

— Якой? — спытаў круглатвары хлопчык.— У нас многа Ленак.

— Ленцы Пілiпчык! — растлумачыў ён.— Дзе яна?

— Тут, тут! — усклікнуў малы, азірнуўся па баках, кінуўся ў дзіцячы гурт, схапіў за руку белагаловую дзяўчынку і як не сілком прывалок, падвёў да Віктара.— Вось яна!

— Ленка! Крывінка мая! — Голас у яго задрыжаў, і Віктар падхапіў дачку на рукі, пачаў яе ца-

лавацъ, задыхвацца ад радасці.— Якая ты вялікая вырасла! Я табе падарунак прывёз.

Апусціў яе на падлогу і пачаў развязваць на карабе стужку. Рукі ў яго дрыжалі, вузельчык доўга не паддаваўся, выслізгваў з пальцаў, нарэшце стужка аслабла, і Віктар адкрыў кораб.

Дзеці кінуліся да падарунка.

— Лялька! Лялька!

— Якая прыгожая!

— Каралева Марго!

Дзеці тоўпіліся вакол кораба, валтузіліся, скакалі, як вераб'і.

Віктар выняў з кораба ляльку і працягнуў яе Ленцы:

— Гэта табе!

Дзяўчынка нясмела ўзяла ў рукі падарунак, апусціўшы галаву, спадылба глядзела на незнаёмага ёй дзядзьку і не ведала, што рабіць з лялькаю, куды яе падзець...

І насцярожана падняла галаву, спытала:

— А ты хто?

— Бацька твой, дачушка!

— Не,— памаўчала яна і пакруціла галавою.— У нас ёсць бацька.

Ён апусціўся на кукішкі, зазірнуў у блакітныя вачаняты дачкі:

— Я родны бацька! Родны, разумееш?

— Ага! — кіўнула яна галавою, хоць і нічога не разумела. Не зразумелі нічога і дзеці. Яны прыціхлі, зыркалі на Ленку вачыма і ніяк не маглі даўмецца: як гэта ў яе можа быць яшчэ адзін бацька?

І раптам радасны дзіцячы голас:

— Ірына Мікалаеўна, у Ленкі бацька знайшоўся! Цяпер у яе аж два бацькі!

Віктар азірнуўся — з канца калідора ішла паўнацелая жанчына ў белым халаце. Яна наблізілася да

дзяцей, спынілася і пільна, падазрона паглядзела на незнаёмага ёй чалавека. Потым перавяла позірк на Ленку, убачыла ў яе руках ляльку і спытала:

— Адкуль яна ў цябе?

Дзяўчынка мацней прытуліла ляльку да грудзей:

— Бацька падарыў.

— Які бацька? — падняла бровы выхавацелька.— Ён жа яшчэ не прыходзіў цябе забіраць.

— Вось гэты! — паказала дзяўчынка на Віктара.— Другі бацька.

Ірына Мікалаеўна нічога не разумела. Стаяла, не ведала, што гаварыць, і ўсё пазірала на Віктара. І раптам спытала:

— Хто вы будзеце Ленцы?

— Бацька! Родны бацька! — як не крыкнуў ён. У горле нешта засела, голас сарваўся, і Віктар вымучана прамармытаў сабе пад нос.— З вёскі прыехаў... Хачу Ленку забраць з садзіка.

— Куды — у вёску?

— Не. У кватэру... Тут блізка... Паслалі мяне...

Выхавацелька рашуча матнула галавою.

— Не, не, не аддам вам Ленку. Нават не прасіце... Я вас не ведаю... Прыйдзе Іван Пятровіч і забярэ... Бацька прыйдзе... Не аддам... Ці мала што бывае. Можа, вы не той чалавек, за каго сябе выдаяце...

Віктар зусім разгубіўся.

— Я... я не чужы ёй... Не думайце... — Рука яго палезла ў пінжак, дрыжала і ніяк не магла трапіць у кішэню.— Дакументы пакажу, што бацька.— Выняў нарэшце пашпарт, працягнуў яго выхавацельцы.— Вось! Тут чорным па белым напісана!

Ірына Мікалаеўна ўзяла пашпарт, пагартала яго, вярнула Віктару і здзіўлена паглядзела на Ленку.

— А я думала... Гм... Усе мы думалі, што Іван Пятровіч яе бацька... А яно вось як...

І пагладзіла дзяўчынку па галаве, спытала:
— Аддаць цябе бацьку?
— Аддаць,— кіўнула Ленка галавою.
— А што я скажу, калі па цябе прыйдуць?
— Хто?
— Другі бацька.
— Дамашні?
— Ага.
— Скажыце, што мяне родны забраў...
Хутка яны ішлі дамоў. Ленка сядзела ў бацькі на руках і шчабятала на вуха:
— А як цябе завуць?
— Віктар.
— Адкуль ты прыехаў?
— Здалёк. З вёскі.
— А ў цябе дзеці ёсць?
— Ёсць. Ты і Толік.
— Мы ж не твае.
— Чаму?
— Жывём не з табою.
Памаўчалі.
— А хутка паедзем у тваю вёску?
— Хутка.
Ленка абхапіла бацьку за шыю, прытулілася да яго шчакі:
— Не едзь. Заставайся ў нас. Будзеш мне цацкі і цукеркі купляць.
— Давай да мяне ў вёску паедзем. Там бабуля нас чакае.
— А яна старая?
— Старая.
— Хутка памрэ?..
— Адкуль ты ведаеш?
— Старыя ўсе паміраюць.
Памаўчала і ўздыхнула:
— Маці ў вёску не пусціць... Кажа, што я малень-

кая. А я ж вялікая! Вышэй за цябе! — І падняла руку над галавою Віктара.— Во якая вялікая!

— Пусціць,— суцешыў яе Віктар.— Мы добра папросім, і яна пусціць...

— Тады паедзем.

## 6

У дзвярах зазвінелі ключы, мякка шчоўкнуў замок — Віктар падхапіўся з канапы, увесь напяўся. Сэрца моцна затахкала, зашчымела ў грудзях, і ён адчуў, як пагарачэў твар.

— Мама прыйшла, мама прыйшла! — заверашчала ад радасці Ленка і кінулася ў прыхожую.

Спачатку з-за дзвярэй выплыла сумка, поўная прадуктаў, потым паказалася сама гаспадыня. На вочы ёй адразу трапіўся чужы чамадан, які стаяў у прыхожай, і Ніна спытала ў дачкі:

— Хто гэта да нас прыехаў?

— Бацька!

— Які бацька? — здзіўлена паглядзела яна на Ленку і паставіла каля люстра сумку.

— Родны! Бацька Віктар! — Падбегла да маці, паказала ёй ляльку.— Бач, што купіў мне... Каралеву Марго!

— Якая прыгожая цацка!

Яна яшчэ не верыла дачцэ, пакуль сама не зазірнула ў гасцінную.

— Віктар! — выдыхнула Ніна.— Адкуль ты ўзяўся?

— З вёскі.

Ён не мог апамятацца, стаяў, пераступаў з нагі на нагу, вінавата і нясмела глядзеў у вочы Ніне.

Яна падышла бліжэй, працягнула яму руку:

— Ну, здароў!

— Дзень добры!

Узяў у пальцы руку Ніны і адчуў яе гарачую далонь.

— Дай хоць пагляджу на цябе. Даўно не бачыла.

Ніна аслабаніла руку, адступіла ад госця назад, пачала кружыць, хадзіць вакол Віктара, азіраць яго з усіх бакоў.

— Памаладзеў ты... Маршчыны нават разгладзіліся на твары... А то быў як высушаная груша... Калі б не пасівеў, можна было б за юнака палічыць...

Віктару зусім рабілася не па сабе, калі Ніна хадзіла вакол яго, разглядала, нібы насміхалася, і ён не вытрымаў:

— Перастань!

— Кажу, што памаладзеў... На свежым паветры, малако свежае...

— І ты не пастарэла,— абвёў позіркам яе постаць.— Папаўнела толькі. Як падушка стала.

— Ха-ха-ха! Параўнаў!

— І смех твой не змяніўся.

— Такая ўжо я ўдалася,— уздыхнула яна і ўзяла за руку Ленку, павяла яе ў спальню...

Хутка выйшла адтуль у блакітным шоўкавым халаце. Раздабрэлая яе постаць, перацiснутая тонкім пояском, патанчэла, пастатнела ў новай вопратцы, і Ніна неяк адразу памаладзела ў яго вачах, стала такой жа, як некалі была, вясёлаю студэнткай.

— Як гэта ты надумаўся прыехаць? — Яна села каля стала на крэсла, падперла рукамі шчокі і паглядзела ў вочы Віктару.— Пяць гадоў не пісаў, не прыязджаў, і раптам...

— І ты мне не пісала... Захацеў дзяцей пабачыць...

Віктар прысеў на канапу насупраць Ніны.

— Хоць бы паштоўку якую прыслаў за пяць гадоў. Са святам ці з днём нараджэння павіншаваў.

— Не гавары пра гэта...
— Крыўдаваў, мабыць?
— Было такое...
— За што?
— Сам не ведаю.
— А як жывеш?
— Паціху...
— Не завёў сабе новую сям'ю?
Ён глыбока ўздыхнуў:
— Стары ўжо... Хто за мяне пойдзе?
— Такі ўжо і стары... Прыкідваешся... Мужчына як мужчына. У росквіце сіл...
— Каб жа ў росквіце... Здароўя ўжо няма...
— Не бярог яго... Сам вінаваты...
— Гэта так...
Размова чамусьці не ішла ў іх у адным кірунку, пераскоквала з аднаго на другое, і было бачна, што Ніне і Віктару не хацелася гаварыць пра тое, што некалі было ў іх, не хацелася трывожыць сябе, і яны проста так, ад нечага рабіць, перакідваліся словамі, як даўно знаёмыя людзі. Ды і тое даўняе прайшло, прытухла ў памяці, выветрылася, і згадваць яго не было патрэбы — усё і так ім было зразумела.
— Застаў Івана? — спытала.
— Якога?
— Мужа майго застаў дома?
— А-а-а... Застаў, застаў... На работу пайшоў...
— Пазнаёміліся?
— Ага,— кіўнуў галавою Віктар.
— І як ён табе? Спадабаўся?
— Чалавек як чалавек.
— Хоць паабедалі разам?
— Дзіва што...
— А як маці?
— Тупае па хаце. Нізкі паклон табе і ўнукам перадавала... Гасцінцаў прыслала вам... і варэнне, і мёд,

і грыбы... Там, у чамадане,— паказаў рукою ў прыхожую.— Прасіла, каб у госці прыехалі... І ты, і дзеці... Вельмі прасіла. Хоча хоць перад смерцю ўнукаў і цябе пабачыць...

— Я не змагу... У школе многа работы. І Ленка не паедзе... Малая яшчэ... А Толіка бяры хоць на ўсё лета. Канікулы ў яго. Няхай едзе, калі хоча. Пагавару з ім.

— І ты вырвалася б на які дзень...

Ніна памаўчала.

— Цяпер я чужы ёй чалавек, хоць і паважаю тваю маці. Ды і што падумае Іван, калі я паеду?.. Не кінем жа яго аднаго тут...

— А я і забыў пра яго...

— Хм,— хмыкнула ў нос Ніна.— Думаеш, што ў нас усё засталося такім, як было.

Памаўчалі.

— Ён не крыўдзіць цябе? — вырвалася ў Віктара, быццам хто знарок пацягнуў яго за язык.

— Ну і сказаў! — паціснула яна плячамі.— Спытаў бы лепш, ці крыўджу я Івана... Дзякаваць яму трэба, што гадуе чужых дзяцей... Тваіх, Віктар... А ты — ці крыўдзіць мяне...

— Ды і я трохі памагаў дзецям...

— Ты пра аліменты гаворыш? — падняла на яго вочы Ніна.— Не помач гэта была, а адны слёзы... Дзесяць, пятнаццаць рублёў у месяц. Што за іх, скажы, купіш дзецям?

— Хварэў я... Ды і зарплата нізкая.

— Пра зарплату я нічога не кажу. Такія грошы даюць, якія заслужваеш. Каб хацеў, меў бы вялікія грошы. У аспірантуры быў... Абараніў бы дысертацыю. Усё было ў тваіх руках...

— Гэта я ведаю,— згадзіўся ён і ўздыхнуў.— Цяпер не вернеш.

— І то праўда.— Ніна жаласліва паглядзела на

Віктара, сустрэла яго разгублены позірк, выняла з кішэні халата хусцінку, адвярнулася і прыклала яе да вачэй.— Добра мне было некалі з табою, Віктар. Любіла цябе. Прыгожы быў, разумны. Лёгка ўсё табе давалася. Можа, і піць пачаў ад гэтага... Думаў, што ўсё ўмееш, усё можаш... Зазнаўся, разленаваўся, распусціўся... Пра мяне не думаў, пра сям'ю... Нарадзіла табе дзяцей, думала, што хоць пры іх не будзеш дамоў прыходзіць п'яны, бацькоўская адказнасць і абавязкі не дазволяць піць... Дзе там! Ды яшчэ пачаў на гэтыя шабашкі ў вёску ездзіць у час канікул... Што ні заробіш, прап'еш. Капейкі дамоў не прыносіў... з заробленага... А я ўсё спадзявалася, што зменішся, мучылася, чакала. А яно...

Голас у яе задрыжаў, Ніна ніжэй апусціла галаву і захліпала ў хусцінку.

— Перастань,— ціха папрасіў Віктар.

— Шкада цябе, Віктар... Вось і... — не дагаварыла, пракаўтнула яна.

— Я ж цяпер не п'ю,— паспрабаваў уцешыць, узрадаваць Ніну ён. І пахваліўся: — Тры гады, як кінуў.

— Трэба было раней. А цяпер... Цяпер нічога ўжо не вернеш...

— Сям'ю?

— І сям'ю.

І раптам спытаў пра тое, на што спадзяваўся, калі ехаў сюды:

— Скажы, Ніна, ты прыняла б мяне зноў?.. Такога, які я цяпер?

— Як гэта — прыняла? — пацiснула яна плячыма і здзіўлена паглядзела на госця.— Нешта ты не тое гаворыш... Не разумею... А Іван?

— Калі б была адна...

Ніна памаўчала.

— Не ведаю. Не думала пра гэта.

## 7

Гаварылі і не заўважылі, не пачулі, як адчыніліся дзверы і ў кватэру ўвайшоў сын. Паклаў у калідоры спартыўную сумку, скінуў чаравікі з ног, пашукаў пад вешалкай свае тапачкі, але не знайшоў. Пачуў у кватэры чужы мужчынскі голас, здагадаўся, што яны ў госця, і адчыніў дзверы ў гасцінуто.

— Вось і Толік прыйшоў!

Віктар сядзеў спіною да дзвярэй і, пачуўшы Ніпіны словы, атарапеў, ускочыў з месца і азірнуўся. Перад ім стаяў высокі, з кудлатаю, тугою, пальцы не ўваб'еш, шавялюраю хлопец і спакойна пазіраў на госця. Як вырас! Амаль нічога ў сыне не засталося ад таго шалапутнага другакласніка, паўнатварага і круглага, як мяч, Толіка, які кожную раніцу бег-каціўся ў школу і як не па зямлі цягнуў цяжкі, напханы падручнікамі і сшыткамі партфель. Не змяніліся толькі вочы. Іх глыбокі, пранізлівы позірк зараз аж навылет працінаў Віктара, і яму зрабілася не па сабе.

— Пазнаў бацьку? — ціха спытала маці.

— Хм... Як не пазнаць.

Віктар ступіў насустрач сыну, працягнуў яму руку:

— Здароў, сынок!

Голас у яго здушана прахрыпеў.

— Ну, здароў.

Толік неяк ляніва, вяла падаў сваю руку.

Ніна трывожна глядзела, пераводзіла позірк то на Віктара, то на сына і не ведала, хвалюючыся, дзе сябе падзець. Не вытрымала, паднялася, замітусілася каля стала, пачала разгладжваць рукамі настольніцу, хоць на ёй не было ні складкі, ні маршчынкі.

— Сядай, сынок... Пагавары з бацькам. Вось прыехаў...

— А што гаварыць? — паціснуў ён плячамі.

— Даўно ж не бачыліся.

— Ну і што з гэтага? Не бачыліся і бачыцца не будзем.

— Не трэба так,— дакорліва зірнула на яго маці.

— А як трэба?

І ўсё ж паслухаўся яе, прысеў каля стала на край крэсла. Сядзеў і маўчаў, пазіраў некуды ў акно і — ніякай увагі да бацькі, быццам яго і не было ў кватэры. Маўчаў і Віктар. Ён спачатку разгубіўся, не ведаў, што і як сыну гаварыць, потым спахапіўся:

— Я падарунак табе, Толік, прывёз!

І кінуўся ў калідор. Хутка вярнуўся адтуль назад з транзістарам у руках.

— Вось! — узрушана выдыхнуў ён і паставіў падарунак на стол.— Новенькі!

І ўрачыста паглядзеў на сына. Толік нетаропка ўзяў падарунак, пакруціў яго ў руках, агледзеў з усіх бакоў і зноў паставіў на стол.

— Рыжскі... У мяне магнітафон ёсць... Іван Пятровіч падарыў... Так што...

Маці стала сорамна за сына:

— Ад падарункаў, сынок, не адмаўляюцца.

Толік падняў на яе вочы:

— Я і не адмаўляюся... Няхай будзе. Трэнеру свайму падару на свята... Усёй групай... Думалі, гадалі, які падарунак яму знайсці і купіць, а падарунак сам знайшоўся... Не трэба і ў магазін бегчы...

Віктар канчаткова разгубіўся, стаяў, бездапаможна глядзеў на Ніну, шукаў у яе спагады і дапамогі і не ведаў, што рабіць, што казаць... Ногі ў яго задрыжалі, абмяклі, і ён апусціўся на канапу.

— Ну, гаварыце, а я пайду. Мне трэба ўрокі вучыць,— спакойна сказаў Толік.— Гуд бай!

Пайшоў у свой пакой і шчыльна зачыніў за сабою дзверы.

## 8

Ніна разабрала, рассунула канапу, прынесла аднекуль коўдру, падушку, чыстыя просціны і пачала слаць яму пасцель.

— Пабудзь трохі ў нас, Віктар, пагасцюй. Дамоў паспееш... — разгладжвала на канапе белую, як снег, прасціну і раздумліва гаварыла яму Ніна.— З дзяцьмі пабудзеш... З Ленкаю ў цырк сходзіце. Іван на футбол цябе зводзіць. Памятаю, ты любіў некалі хадзіць на стадыён.

— Футбол і цяпер люблю... Ні аднаго матча не прапускаю, калі нашы іграюць. Дынамаўцы... Кожны раз дома па тэлевізары гляджу...

— Вось і добра! Іван таксама ў нас заядлы балельшчык. Ходзяць з Толікам разам на футбол... Потым, калі прыходзяць дамоў, толькі і гавораць пра гульню. Аж сварацца з-за гэтага футболу... Вось і ты за кампанію пойдзеш у суботу з імі...

— Пайду,— згадзіўся Віктар.— Даўно я не быў на стадыёне...

Яна паслала пасцель, разагнулася, зірнула на госця:

— Памыешся, можа, з дарогі? Здаравей будзе... Я ў ванну табе гарачай вады напушчу.

— Добра,— кіўнуў ён галавою.

— Чыстыя трусы і майку я табе знайду. Іванавы. А свае скінь — памыю. Высахнуць да заўтра.

Хутка ён ужо ляжаў і плёскаўся ў ванне. Мыўся з асалодай, пырхаў, доўга і ўпарта шараваў шыю і грудзі мачалкаю. Потым ляжаў на спіне, адпарваўся і пазіраў на акуратна абкладзеныя белай кафляй сценкі ваннай, на прыбітыя і падвешаныя скрынкі для парфумы і здагадваўся, што гэта Іванава работа.

І раптам пачуў ціхі стук у дзверы.

— Хто там? — падняў галаву і насцярожыўся ён.

— Гэта я, Ніна. Можа, спіну табе пацерці?

Ён уздрыгнуў, пачуўшы яе голас, доўга маўчаў, круціў галавою і не ведаў, што адказаць. Віктар забыў ужо той час, калі Ніна мыла яму спіну, і зараз, адвыклы ад жонкі, ад жаночай ласкі, нават не верыў, што гэта некалі было; паказацца перад ёй голым не хацеў, саромеўся, і ад адной толькі думкі, што Ніна будзе церці яго мачалкаю, зрабілася горача.

— Не... Я сам,— праз сілу выдыхнуў Віктар.

— Не саромейся...— здагадалася яна.— Я сваіх мужчын кожны раз намачальваю і намыльваю...

— Дык гэта ж сваіх...

— Тады як хочаш.

## 9

Просціны былі духмяныя, падушка пульхная, мякка ўзбітая рукамі Ніны, і Віктар доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма, з асалодай дыхаў чысцінёй і водарам свежай пасцелі. Ён стаміўся ад дарогі, ад цяжкіх думак і хутка заснуў, нібы некуды праваліўся ў цемень.

Паспаў ён мала. Прачнуўся, калі яшчэ ў дамах, што былі бачны праз акно, гарэла святло. Падняў з падушкі галаву, агледзеўся... У кватэры было цёмна і ціха, толькі недзе на стале тонка цікаў будзільнік. Позірк яго спыніўся на дзвярах спальні. Яны былі не да канца зачынены, і праз вушак у залу, дзе ён ляжаў, прасочвалася вузкая палоска святла. Віктар прыслухаўся — у спальні шапталіся. Шэпт часта перапыняўся, часам мацнеў, пераходзіў на галасы. Гаварылі Ніна і сын:

— Заўтра, сынок, трэба пахадзіць па магазінах, купіць бабулі падарунак.

— Паходзім! — згадзіўся Толік.

Памаўчалі.

— Запрашае нас у вёску. У госці. Мне няма як паехаць... Хай бы ты бабулю адведаў. Яна рада будзе... Ды і адпачыў бы ў вёсцы. Там і рэчка, і лес. Грыбы збіраў бы, рыбу лавіў бы.

— Не паеду з ім.

— Трэба, сынок, паехаць. Крыўдаваць будзе. Родны ж табе бацька...

— Роднага знайшла... Родны з намі жыве. Дзядзька Іван.

— Сваяк усё ж...

— Хм... Сваяк! Чужы сваяк! — Голас у сына памацнеў.— Забыла ўжо, як ён цябе па кватэры ганяў? Забыла? Калі Ленка яшчэ ў калысцы была... Забыла, як начавала ў суседзяў?

— П'яны ён быў... — уздыхнула яна.— Цяпер ён не такі... Добры, ціхі... У госці, бач, прыехаў... Падарункі прывёз.

— Мы яго не запрашалі. А свае падарункі няхай забірае назад...

— Не трэба так, сынок.

— Трэба!

І галасы заціхлі.

Тое, што ён пачуў, апякло, нібы нечым гарачым паласнула па сэрцы, і Віктар ужо не мог заснуць. У грудзях закалола. Ціха, каб не скрыпнулі ў канапе спружыны, ён перавярнуўся з бока на спіну, цяжка і часта задыхаў. Падалося, што дыхае вельмі моцна і яго дыханне чуваць Ніне і Толіку праз дзверы спальні, і зацiснуў рукамі рот. Ад гэтага зрабілася яшчэ горш — у горле здушыла, і ён, каб не папярх-

нуцца, не кашлянуць, перавярнуўся, уткнуўся тварам у падушку, і доўга так ляжаў, пакуль не адпусціла ў грудзях. Потым, калі трохі зрабілася лягчэй, сеў, звесіў з канапы, паставіў на падлогу ногі, няўцямна і доўга сядзеў, услухоўваючыся ў сябе. Нешта чорнае адразу навалілася на яго, зацвярдзела, сціснулася ўсярэдзіне, што аж няможна было паварушыцца. «Чужы сваяк, чужы сваяк»,— з цемені зноў вярнуліся да Віктара словы сына. Прыйшло раптам у галаву, што сам гадаваўся без бацькі, не спазнаў яго мужчынскай ласкі, не бачыў яго твару, не чуў яго голасу. І гэткай жа бацькоўскай ласкі не бачыў Толік... Ад яго, жывога бацькі. Калі Віктар падумаў пра гэта, крыўда на сына прытухла, абмякла, і яго раптам ахапілі адчай і страх: «Хто я для сына? Ніхто...»

І так стала шкада сябе, што Віктар увесь сцяўся, здушыў сябе, каб не застагнаць. Думкі пачалі набухаць, налівацца ў галаве, і да сэрца падкаціліся сутаргавыя хвалі.

«Чаму я сюды прыехаў? Хто мяне тут чакаў?»

Роспач, крыўда на сябе засланілі ўсё перад вачыма. Ён сядзеў, глядзеў у акно і нічога ў ім не бачыў: ні агністых вулічных ліхтароў, ні вялізных дамоў. І раптам боль гарачым штуршком таўхануў у грудзі, пашырэў, памацнеў, пачаў расці, і Віктар не мог ужо ўседзець на канапе. Прыслухаўся да дзвярэй спальні. Ціха. Пачуў з-за дзвярэй роўнае, спакойнае дыханне, пераканаўся, што Ніна з сынам заснулі, і пачаў ціха падымацца з канапы. Намацаў у поцемках на спінцы крэсла кашулю, касцюм, згроб у рукі і крадком, на дыбках, уцягнуўшы ў плечы галаву, пачаў красціся ў калідор. І толькі там перавёў дыханне. Хацеў быў адразу апранаць касцюм, але ўскочыла раптам у галаву, што на ім Іванавы трусы і майка. Уключыўшы святло, зайшоў у ванную. Яго

шкарпэткі, трусы і майка віселі на шнуры. Сохлі. Сарваў са шнура і пераадзеўся.

Узяў у рукі парожні чамадан, ціха, асцярожна павярнуў у дзвярах ключ і, зачыніўшы за сабою дзверы, выйшаў. На вуліцы спыніўся і толькі тут даў волю кашлю. Бухкаў, надрываўся, трымаючыся рукамі за грудзі, сіпла і глыбока дыхаў. Разагнуўся, падняў галаву. Вокны ў дамах свяціліся, як соты, жоўтымі агнямі. Агні разрасталіся, сплываліся ў адно вялізнае вогнішча, і каламутнае жоўтае зарыва заслала позірк — Віктар палез рукою ў кішэню, дастаў хусцінку, прыклаў яе да мокрых вачэй. І пайшоў на прыпынак — трэба было ехаць на вакзал.

## НОВАЕ МЕСЦА

Пятро Храпач сустрэў свайго даўняга знаёмага Андрэя Цімошака і, паціснуўшы руку, загаварыў:

— Я табе, Андрэй, магу параіць залатую работу. Век дзякаваць будзеш.

— Такая яна залатая, калі няма ахвотнікаў,— насцярожыўся Андрэй.

— Які недаверлівы! — хітравата прыжмурыў вочы Храпач.— Я табе сур'ёзна кажу. Хочаш рабіць у райскім месцы?

— Кажы толкам, не цягні.

— Так ужо і быць, слухай. Пакідаю я Палац культуры і хачу, каб ты заняў маё месца.

— Чаму ж сам адтуль уцякаеш?

Пятро крутнуў кірпатым носам:

— Пра гэта потым. Слухай далей. Пасада ў цябе будзе — сталяр-палацёр. Адразу скажу, што работа — не бі ляжачага. Калі прыйшоў, калі пайшоў — сам сабе гаспадар. Абавязкі: ручка ад дзвярэй адарвалася — прыбі, табурэт расхістаўся — склей, рамы адкрыць — закрыць, швабру прыбіральшчыцы зрабіць, мастаку падрамнік згарадзіць. Словам, па сталярнай справе адны дробязі. I свой кабінет будзеш мець. Як начальнік. Унізе, за сцэнай, цяплынь, цішыня. Сядзі ў кабінеце і чакай, пакуль па цябе не прыйдуць і не запросяць. Канцэрты, спектаклі, кіно — сам ідзі і з сабою вядзі. Бясплатна. Словам, на работу ідзеш, як на свята.

Андрэй не перабіваў, слухаў моўчкі Храпача, і толькі час ад часу на яго губах блукала іранічная ўсмешка.

— А дырэктар Палаца, скажу табе, святы чалавек,— працягваў Пятро,— артыстам быў раней. Без мастацтва жыць не можа. У самадзейных спектаклях удзельнічае. Але справа не ў гэтым. Слухай далей, бо самую важную дэталь магу ўпусціць. Працуе ў Палацы загадчыцай гаспадаркі Насця Тапаркова. Дык ты яе Насцяй не заві. Не любіць. Прыбіральшчыцы клічуць яе Надзеяй Акімаўнай, а можаш проста — Надзя. Зноў жа не ў гэтым соль... Галоўнае, яна для цябе прамым начальнікам будзе. Ты з ёю ніколі не спрачайся і не лайся. Паважай яе, значыць. Ну, кампліменты там розныя, анекдоты. Дзяўчына яна яшчэ маладая, прыгожая, халасцячка. Словам, на месцы ўсё зразумееш, не маленькі. Трымайся яе і будзеш жыць прыпяваючы. Наконт заробку не хвалюйся: ляжы сабе на канапе і сто рублёў кожны месяц палучай.

Пятро паглядзеў на Андрэя, трохі памаўчаў і цяжка ўздыхнуў:

— Пакідаць Палац не хочацца. Залатая была работа.

— А ты і не пакідай,— абыякава адказаў Цімошак.

— Э, мой дарагі! Пакідаю ж я гэтую пасаду з разлікам... Мне зараз сорак, а на хімкамбінаце ў пяцьдзесят гадоў пенсію даюць. Глупства, што там розныя гады. Дзесяць гадоў можна сяк-так адлындзіць. Затое там рабочы дзень шэсць гадзін і заробак ладнаваты. Так што давай, Андруша, на маё месца, не прагадаеш. Век дзякаваць будзеш.

Цімошак спакойна пачухаў патыліцу, падумаў.

— Цікава... Але нешта не верыцца... Казкі! Сто

рублёў не будуць плаціць за тое, што на канапе ляжацьмеш.

— Ну вось! Я яму па-сяброўску, а ён — казкі! — узлаваўся Пятро і холадна пачаў развітвацца, вяла памяў руку Андрэя. І ўжо адыходзячы, абярнуўся і з папрокам кінуў:

— Казкі! А ты падумай, пра што я табе гаварыў. Калі праз два дні не прыйдзеш, другога каго знайду. Казкі! На кустах растуць кілбаскі!

І Пятро весела, бесклапотна засмяяўся.

Андрэй Цімошак два дні запар толькі пра тое і думаў: ісці ці не ісці. Яму было страшнавата зрывацца з будоўлі, бо лёгкага хлеба ніколі не шукаў. Як трапіў у будаўнічую брыгаду пасля рамеснага, так і прыкіпеў. Пятнаццаць гадоў робіць. Начальства і хлопцы яго паважаюць. Любую работу на будоўлі робіць. А цяпер вось завагаўся: «Што я згублю на гэтай будоўлі? Сякеру ды малаток? Гэтага дабра ўсюды хапае...» А тут якраз прыслалі новага брыгадзіра: зменшыліся заробкі.

Хутка зіма, халадэча і скразнякі на будоўлі; ездзіць на работу далёка, на трамваі, з перасадкамі. А тут, калі ласка, работа пад бокам. Да Палаца культуры дваццаць хвілін хады. І не трэба падымацца рана. І заробак пастаянны: зрабіў што ці не, а зарплату атрымаеш.

Думаў-думаў Андрэй і прыйшоў у Палац да Пятра:

— Так і быць, згодзен.

Выйшаў ён на работу. Настасся Тапаркова сустрэла яго лагодна і павяла за сцэну. Адамкнула пакой, сказала:

— Тут твая рэзідэнцыя. Адным словам — майстэрня. Будзеш патрэбен — паклічу.

І пайшла.

Пасярод пакоя стаяла амаль новая мяккая кана-

па. Андрэй змёў з яе пыл, сеў і пачаў аглядаць «рэзідэнцыю». Ён падумаў, што сюды, напэўна, з паўгода ніхто не заглядваў. Тхала цвіллю, на сценах і ў кутах вісела старое павуцінне, падлога ўсыпана пілавіннем, шыбы цьмяныя ад пылу. Каля сцяны стаяў пахілены набок варштат, напроціў — да самай столі гара пацямнелых раструшчаных табурэтаў. У куце бачны брудныя бутэлькі з-пад лаку, шкіпінару і віна. У памяшканні стаяла гнятлівая цішыня. Андрэй міжволі прыгадаў звонкія ранішнія трамваі, бітком набітыя рабочымі, вясёлы гоман на будоўлі, жарты і смех дзяўчат-тынкоўшчыц, грубаватую лаянку брыгадзіра з хлопцамі, мяккае вуркатанне вежавага крана, перастук сякер і малаткоў, шорганне нажовак, і на яго наваліўся невыносны сум.

Падняўся з канапы, падышоў да акна і наважыўся адчыніць фортку. Яна не паддавалася. Андрэй ірвануў мацней — фортка выскачыла з рамы і рассыпалася на кавалкі. Узяўся за другую, але і тая была прыбітая цвіком. Андрэй сярдзіта кашлянуў, знайшоў у куце дзяркач, насадзіў на палку і падмёў падлогу, навёў у пакоі сякі-такі парадак.

Настасся Акімаўна ў майстэрню не прыходзіла. Андрэю зрабілася сумна без справы. Нават спалохаўся і падумаў: «І дзвесце рублёў не хачу, каб вось так сядзець і нічога не рабіць. Здурэць можна». Падрыхтаваў інструменты, пачаў рамантаваць разламаныя крэслы. Доўга корпаўся, падбіраў дэталі, прымерваў, падганяў. Сяк-так сабраў некалькі. Потым адрамантаваў электраплітку і пачаў варыць клей. Настасся Тапаркова ўвайшла ў майстэрню ў той момант, калі Андрэй склейваў апошняе крэсла. Моўчкі спынілася каля варштата, доўга пазірала на яго работу. Цімошак на вачах загадчыцы склаў, склеіў крэсла, пасунуў да Тапарковай.

— Сядайце, Надзея Акімаўна!

Яна засмяялася і адразу засланіла сваю ўсмешку далонню: зубы загадчыцы, буйныя і рэдкія, высока вылупіліся з-пад вуснаў, агаліліся дзёсны і рот загадчыцы зрабіўся непрыгожым.

— Ну, нашто на «вы» і «Акімаўна»? Давай проста: Надзя.— Яна абмацала крэсла.— Як новае! А ты, бачу, майстар! З гэтага ламачча, бач, дэталі выбраў. А Пятро казаў, што яго трэба на сметнік выкінуць.

Цімошак добра разглядзеў Настассю. Яна не спадабалася: дзяўчына была худая, танкагубая і шыракаротая, з прыплюснутым носам. Позірку не было на чым затрымацца, хіба толькі на вачах. Трохі лупатыя, вялікія, светла-шэрыя — у іх было багата прастору. Настасся насіла модную прычоску, апранута была багата і з густам. Вопратка хоць трохі і ўпрыгожвала Тапаркову, але Андрэй падумаў сам сабе: «Нічога ў ёй прывабнага няма».

— Значыцца, цябе Пятро да нас на работу сасватаў? — пытала яго.

— Ён. Ідзі, кажа, работа добрая.

— А так... нічога больш не гаварыў?

Цімошак зразумеў яе пытанне, але выгляду не падаў.

— Начальства не лаяў? — дапытвалася Тапаркова.

— Хваліў. Дырэктар, казаў, святы чалавек, а Надзея Акімаўна — добрая гаспадыня і цікавая, казаў, жанчына.

Настасся раптам гучна засмяялася, паглядзела на Андрэя ўдзячным позіркам, усміхнулася, не раскрываючы вуснаў.

— Ты жанаты?

— Быў.

— Ну і што ж?

— Характарам не сышліся.

— Дзеці засталіся?
— Бог мілаваў.
— Нічога, яшчэ жэнішся. Вам, мужчынам, лягчэй. Колькі табе гадоў, Андруша?
— Хутка трыццаць.
— А як ты думаеш, колькі мне?
Цімошак успомніў наказ Пятра і не задумваючыся адказаў:
— Дваццаць два.
Сказаў і адразу зразумеў, што гэта не камплімент, а магчыма, нават насмешка. І яму стала няёмка.
Але Тапаркова ўсё гэта прыняла па-свойму, падобраму.
— Эх ты, гадальнік. Па гадах я хутка цябе даганю.
— А з выгляду ты маладая.
Пагаварылі яшчэ пра сёе-тое; Настасся пайшла задаволеная.
На другі дзень Андрэй зноў узяўся быў клеіць крэслы, але пакорпаўся ў абломках, перабраў іх і кінуў. Адрамантаваў фортку, змёў са сцен і кутоў павуцінне. Пасля абеду вырашыў бяліць сцены, бо вельмі ж яны былі чорныя. Пайшоў шукаць мел. У калідоры сустрэў Насцю.
— Няўжо ў нас няма жанчын? — сказала яна Андрэю.— Хай яны беляць.
Майстэрню пабялілі, вынеслі смецце і друз. Адразу ў пакоі пасвятлела. Прыбіральшчыцы дзівіліся:
— Во навёў камхворт. Не майстэрня, а кабінет для прыёмаў.
І ўсміхаліся.
Настасся цяпер часта заходзіла да Андрэя і падоўгу там сядзела. Заводзіла з ім размовы пра жыццё, пра каханне, пра новыя моды — пра ўсё, што ў галаву прыходзіла, толькі не пра работу. Часам Цімошак

скардзіўся, што, маўляў, дарэмна пакінуў будоўлю, сумуе па брыгадзе.

Выходзячы ад Андрэя, яна глыбока і безнадзейна ўздыхала і ўсё радзей і радзей выносіла з сабою ўсмешку. А потым і размовы ў іх не клеіліся. Зойдзе яна ў майстэрню, стане каля варштата і задумліва, з сумам глядзіць на Цімошака, а ён быццам вады ў рот набраў, не ведае, што ёй сказаць.

Пры сустрэчах цяпер яны абменьваліся пустымі позіркамі, і хутка Настасся перастала хадзіць у майстэрню. Яе распараджэнні перадавалі Андрэю прыбіральшчыцы. Андрэй мучыўся без справы. Ён цяпер, калі пыталі: «Як у нас працуецца?», шчыра скардзіўся:

— Сумнавата. Не прывык я, ведаеце, без справы сядзець. На будоўлі, бывала, цэлы дзень без перакуру, а тут інструмент пачынае ржавець, мулякі з рук сходзяць.

Доўга ён нудзіўся на новым месцы, але патроху прывык, злаўчыўся ў вольны час чытаць кніжкі. Зачыніцца ў майстэрні і чытае. Пастукаюць у дзверы, схавае кніжку і, першы чым адчыніць дзверы, стукне разы два малатком, быццам нешта майструе.

Аднойчы нехта рэзка пацягнуў дзверы. Зашчапка не вытрымала, разагнулася. У майстэрню рашуча ступіла Тапаркова. Па сціснутых губах Настассі, па злоснаму выразу вачэй ён адразу адчуў нешта нядобрае.

— Апу вылазь са сваёй бярлогі! — сказала яна, коса і гнеўна пазіркваючы на Андрэя.— Я табе работу знайшла. Па душы.

Цімошак неахвотна, спакваля падняўся з канапы.

Выйшлі на вуліцу, і яна пачала вадзіць Андрэя вакол будынка.

— Хутка зіма, дарагі таварыш,— з іроніяй гаварыла Тапаркова,— вокны трэба зашкліць.

— Надзя, я ж ніколі шкларэза не трымаў у руках! — узмаліўся Цімошак.

— Навучым.

— Ды і высока вокны ў Палацы. Як я дастану?

— Верталёт выпішам.

У майстэрні паставілі стол, прынеслі шкло. Настасся выбрала вялікі кавалак шкла для пробы.

— Глядзі, як трэба рэзаць. Бяром шкло, кладзем на стол, прыкладваем лінейку, шкларэз трымаем у руцэ прама і рэжам не ад сябе, а да сябе, вось так.— Яна спрытна правяла шкларэзам.— Цяпер знізу трэба трохі пастукаць па шкле, потым рэзка ламаць. Раз — і гатова!

У руках Тапарковай шкло з кароткім трэскам раздвоілася, распалася на дзве палавіны.

— Я думаў, што гэта складаная справа, а тут — раз плюнуць! — выгукнуў Цімошак і ўзяў у руку шкларэз.

— Ну і выдатна,— сказала яна.— Зашклім вокны і замажам шыбы замазкай.

— Што, і замазваць я буду?

— А хто ж? Хіба Анісімаўну прымусіш лезці на лесвіцу? Ёй хутка на пенсію... Ці Марыльку прысланць? Ты будзеш лесвіцу трымаць і ёй пад спадніцу зазіраць... Каб сёння ж вокны былі зашклёныя і замазаны.

І яна рэзка павярнулася і выйшла, не зачыніўшы за сабою дзверы.

— Вобла сухая... Надзея Акімаўна! Насця — цвік смажаны... Цьфу!

Ён яшчэ трохі палаяўся, адвёў душу і ўзяўся за работу. Для пачатку для пробы ён парэзаў на палоскі ўвесь кавалак шкла, які Насця пакінула на стале. Але калі Андрэй выйшаў на вуліцу і замераў у рамах праёмы, а потым пачаў рэзаць шкло, лінейка ў яго руках крутнулася і шкларэз слізгнуў убок. Ён

зноў прыладзіў, прыклаў да ліста лінейку, яшчэ раз паднаціснуў шкларэзам — шкло трэснула і раскалолася ўздоўж і ўпоперак. Ён сабраў са стала шкляныя кавалкі, склаў іх у кут і ўзяўся за новы ліст. Раз правёў шкларэзам, другі раз працягнуў; пастукаў спадыспаду па шкле, пачаў яго разломваць, і лінія спярша пайшла роўная, але потым крута вільнула ўбок. Увесь ліст сапсаваў. Пальцы парэзаў і завязаў анучкай. Узяў новы ліст, пачаў падносіць яго да стала, але раптам спаткнуўся — шкло выслізнула з пальцаў і плашмя пляснулася на падлогу. Толькі пырснулі асколкі. Андрэй загнуў у бога і д'ябла і не на жарт спалохаўся: тры лісты шкла раструшчыў і не выразаў ніводнай шыбы. Больш не стаў рэзаць. Пайшоў да Тапарковай і, вінавата ўсміхаючыся, сказаў:

— Не магу, Надзя.

Тапаркова прыйшла ў майстэрню, убачыла пабітае шкло, лаяцца не стала, але са здзекам заўважыла:

— Вось табе і раз плюнуць. Калі так будзеш пляваццa, застанешся без палучкі. Шкло рэзаць — смеласць трэба. Вось Пятро, дык той сапраўды рэзаў.

«Пятро яшчэ тое-сёе ўмеў рабіць»,— з крыўдаю падумаў Андрэй.

Настасся пачала кроіць шкло, а ён устаўляў шыбы.

Пасля абеду Цімошак, адчуўшы стому, зачыніўся ў майстэрні і лёг па звычцы на канапу. З калідора раптам пачалі сярдзіта тузаць дзверы. Андрэй саскочыў з канапы, пастукаў малатком па варштаце, а потым адчыніў.

— Чаму дарэмна па варштаце лупіш? — незласліва сказала Тапаркова.— Ляжаў жа на канапе. Пойдзем са мною.

Яна прывяла Андрэя ў прасторную і светлую тан-

цавальную залу. Там стаяла вядро з масцікай. Каля яго ляжала шчотка.

— Слухай, як трэба націраць паркет,— сказала Насця.— Гэта вельмі проста, гэта не шкло рэзаць.

Андрэй незадаволена паглядзеў на яе, але прамаўчаў.

— Спачатку паркет трэба намазаць і роўненька расцерці шчоткай. Пасля гэтага падлога павінна высахнуць. Заўтра раніцай пачнеш націраць. Па адным месцы трэба правесці шэсць разоў шчоткаю. Потым яшчэ раз пройдзешся ёю па падлозе, і толькі тады паркет будзе блішчаць.

Цімошак уявіў, колькі разоў яму давядзецца ганяць па падлозе шчотку, запярэчыў:

— А чаму шчоткай? А машына. Пятро казаў...

— Машына сапсавана. Ды шчоткаю яшчэ лепш, зручней, усюды дастуліцца можна.

Цімошак браў з вядра драўлянай лапаткай масціку, доўга валтузіўся, ап'янеў ад скіпінаравага чаду, выйшаў на вуліцу падыхаць свежым паветрам, а ў галаве ўсё сядзела: «Залатая работа. Праваліцца б табе з ёю...»

Раніцай прыбіральшчыцы далі яму шчотку з доўгай ручкай. Андрэй узяўся націраць падлогу. Тры гадзіны махаў без перадыху. Туды-сюды, ад сябе, да сябе. Толькі закончыў работу, падышла Тапаркова. Пачала хадзіць па зале і ўглядацца ў паркет.

— Дрэнна,— сказала яна.— Паласы відаць, і бляск цьмяны. Трэба, каб паркет блішчэў. Каб глядзецца ў яго можна было, як у люстра.

Андрэй яшчэ дзве гадзіны шараваў падлогу. Змарыўся, што рук нельга было падняць. Толькі скончыў, а Тапаркова тут як тут.

— А цяпер пойдзем далей.

Яна прывяла яго да дзвярэй, на якіх вісела шыльда: «Дзіцячы сектар». Зайшлі. Пакой быў вя-

лікі, застаўлены сталамі, крэсламі, шафамі, стэндамі. У кутку стаяла піяніна.

— Хутка тут пачнуцца заняткі. Дзеці сюды прыходзяць вучыцца музыцы, танцам, спевам. Прыходзяць і з бацькамі, а тут, бачыш, падлога брудная. Трэба, каб яна была як яечны жаўток.

Цімошак развёў рукамі:

— А я тут пры чым?

— Не разумееш. Трэба, значыцца, зняць, саскрэбці з паркету старую масціку.

— А як яе зняць?

— Нажом, шклом, сякераю — чым можаш. А потым нанава нацерці.

І Насця пайшла па калідоры лёгкай, фарсістай паходкаю. Андрэй паглядзеў ёй услед: «І не пераломіцца, брыдота. Навязалася на маю галаву...» Аднак пайшоў у майстэрню, завастрыў скрабок і ўзяўся за справу. Два дні ён поўзаў на каленях, сагнуўшыся ў крук. Зойме радок-елачку і пайшоў шараваць паркеціну за паркецінай. З месца на месца перацягваў цяжкія шафы з кнігамі, стэнды, сталы... Закончыў нарэшце работу. Калі выходзіў, асцярожна і мякка ступаючы па падлозе з пакоя, спыніўся ў дзвярах, паглядзеў на чысты, ззяючы паркет, і самому зрабілася прыемна. Чыстая падлога. Як новая. І хадзіць па ёй неяк шкада.

Прыходзілі прыбіральшчыцы, глядзелі на яе, пахвальвалі:

— Вось дык марахфет навёў!

А між сабою гаварылі пра Андрэя:

— Не, гэты не такі, як Храпач. Гэты шустры, як венік. Цэлы дзень па Палацы носіцца. І рукі ў яго залатыя.

Не паспеў Цімошак пакурыць, перадыхнуць, зноў прыбегла, як на крыллях прыляцела, Насця. Яна зазірнула ў пакой, усміхнулася:

— Выдатна зроблена! Поўны ажур!

І давай вадзіць Андрэя па ўсіх пакоях і кабінетах.

— Вось тут эстраднікі займаюцца, тут драмкружок, тут харавы, а тут — кабінет дырэктара. І ўсюды трэба навесці бляск. Не дай бог камісія наскочыць.

Схапіўся Андрэй за галаву, але аднекваецца не будзеш, калі ты сталяр-палацёр. Цэлы месяц поўзаў па падлозе, націраў паркет. Калені да крыві набіў, штаны працёр, хоць і абвязваў ногі рознымі лахманамі і мешкавінай. Ішоў дамоў пасля работы згорблены, нібы радыкулітны, дарогі перад сабою не бачыў ад стомы.

Вяртаўся ён аднойчы з работы і сутыкнуўся на вуліцы з Пятром Храпачом.

— Салюцік! — сказаў Пятро і працягнуў Цімошаку руку.

Андрэй не падаў яму руку, а адразу накінуўся на Пятра:

— Каб цябе свінні з'елі! Абвёў мяне вакол пальца, абдурыў, а цяпер — «Салюцік!». «Залатая работа, светла, цёпла, і мухі не кусаюцца. Насця маладая, прыгожая...» А я, дурань, паслухаў і паверыў. Памяняў быка на індыка. Мала таго што дрэннай работай узнагародзіў — ад адной Тапарковай уцячэш на край свету.

— Чаму так? — Храпач з цікавасцю паглядзеў Андрэю ў вочы.

— Насця мяне з месяц не чапала, а потым як узбаламуціцца. Кожны дзень работу знаходзіць. Ды якую?! Падлогу брудную вышкрабаю, смярдзючай масцікай дыхаю, падрамнікі мастакам майструю, шыбы ў вокнах устаўляю. Яна мяне з бабамі пры-

мушае падлогу падмятаць. Не, трэба ад Насці ўцякаць. Іншая справа — будоўля. Там хоць і цяжка, але ў душы хоць нейкую радасць носіш. Асабліва калі бачыш, як людзі ў новы дом селяцца. Шчаслівых людзей бачыш. І ў самога радасць у душы жыве. А тут...

— Я ж цябе папярэджваў... Ахламон ты! — зарагатаў Храпач.— Калі жанчына ў такіх гадах незамужняя і яе мужчыны абыходзяць бокам — бяда вялікая. Яна робіцца злоснай, з'едлівай. Насця табе жыць не дасць. Звярні на яе ўвагу, знайдзі ласкавыя словы, ушчыкні за бок.

— Не трэба мне ўсё гэта! Я па сапраўднай рабоце сумую.

— Вунь яно што! Тут ужо, брат, вырашай сам.

Насця па-ранейшаму сачыла за кожным крокам Андрэя, за кожным яго рухам. Гэта ўсё больш расцвельвала яго, раздражняла. Праўда, не падганяла, не стаяла над душой, але як толькі Цімошак скончыць работу, прысядзе і закурыць, Тапаркова тут як тут. Яна нічога не гаварыла, але ў яе маўклівым сярдзітым позірку Цімошак заўсёды чамусьці чытаў: «Не чакай палёгкі». «А якая мне павінна быць палёгка? — думаў Андрэй.— Я ж на рабоце. І ніхто мне не павінен плаціць сто рублёў у месяц за прыгожыя вочы».

Аднак яму рабілася неяк не па сабе: кожны месяц яму акуратна плацілі зарплату, а якую работу ён рабіў, нікога не цікавіла.

«Не, звольнюся лепш»,— вырашыў нарэшце Цімошак. Напісаў заяву і пайшоў у кабінет дырэктара. Дырэктар, мяккі, рахманы чалавек, сустрэў яго прыязна, запрасіў сесці ў крэсла. Прачытаў заяву і смешна, як дзіця, залыпаў вейкамі. Потым сказаў:

— Не, не і не. Мы вас не адпусцім. Вы падумайце, як жа мы без вас абыдземся? Вы ў нас як... як Фігара. Фігара тут, Фігара там...

Андрэй не ведаў, хто такі Фігара.

— Мы без вас як без рук,— працягваў дырэктар.— Я даўно хацеў вам расказаць адзін незабыўны выпадак. Хочаце? Я шмат каму ўжо расказваў. А ў першую чаргу трэба было б яго вам расказаць. Дык слухайце. Дзесяць гадоў я працую дырэктарам Палаца культуры. Дзесяць гадоў, падымаючыся з-за гэтага стала, каб выйсці ў калідор, я спатыкаўся. Вось тут, на гэтым месцы, вывернулася падлога, і паркеціны прыўзняліся, тырчалі канцамі ўгару. Дзесяць гадоў! Але калі вы прыйшлі да нас на работу — о, у вас востры позірк і рукі майстра! — вы ўсё гэта адразу заўважылі і адрамантавалі паркет. Але, уяўляеце, я і цяпер, калі хачу выйсці з-за стала, падымаю ногі... баюся спатыкнуцца. Дзесяць гадоў! Цяпер у нас узорная чысціня ў памяшканні. Да гэтага, паміж іншым, вашую работу выконваў нейкі Храпач... Але бог з ім. Давайце без лішніх слоў. Скажыце, можа, вас не задавальняе зарплата? Можа, вас хто-небудзь крыўдзіць? Не, дарагі, мы вас не адпусцім. Ідзіце, добранька падумайце і прыходзьце да мяне ў любы час.

Так і выйшаў Цімошак з кабінета дырэктара ні з чым.

Наступіла навагодняе свята. Работы пабольшала. Работнікі Палаца ўпрыгожвалі ёлку. Андрэй у майстэрні выпільваў літары з пенапласту, рабіў цацкі. Да яго зайшла Насця. Яна была ў добрым настроі. Гэта адразу заўважыў Цімошак па яе чыстаму і ласкаваму позірку.

— Хутка ты сваіх зваркоў паробіш? — спытала яна і ўсміхнулася.

Загадчыца даўно не заходзіла ў майстэрню і даўно так прыязна не ўсміхалася Андрэю. Ад яе ўсмешкі ў Цімошака на душы стала лагадней. А тут яшчэ святочны настрой прыдаў яму смеласці.

— Эх, свята прыходзіць,— загаварыў Цімошак,— а сустракаць яго не ведаю дзе. Пайсці няма куды. Можа, да сябе запросіш, Надзя. Чарачку б разам выпілі, пагаманілі, навагодні канцэрт па тэлевізары паглядзелі б...

Насця ці то ад здзіўлення, ці то ад разгубленасці аж папярхнулася. І адказала не адразу:

— Ну што ж, прыходзь. Гасцям заўсёды рада.

Наступіў апошні дзень старога года. Увечары Цімошак пачаў збірацца ў госці. Адзеў новы касцюм, белую кашулю, завязаў модны гальштук. Падышоў да люстра — сам сябе не пазнаў. Даўно ён так старанна не прыбіраўся.

Па дарозе Андрэй зайшоў у магазін, купіў бутэльку шампанскага, шакалад. Грошы на пакупкі не шкадаваў. Калі падаваў касірцы дзесятку, здавалася, быццам чырвоную птушку выпусціў на волю. Ён ішоў па шырокім, шматлюдным праспекце, з асалодай пахкаў духмянай цыгарэтай. Навагоднія агні на вуліцы ярка і весела гарэлі. Калі ж ён звярнуў у вузкую вулку, тут ужо было меней агнёў, але снег быў бялейшы, чым на праспекце, і пад нагамі Андрэя — ці то снег, ці то новыя чаравікі — гучна паскрыпвала. Цімошак ішоў далей, але яго крокі рабіліся ўсё карацейшыя і карацейшыя. А калі падышоў да дома, у якім жыла Тапаркова, у душу падкралася нейкая дзіўная няўпэўненасць. Андрэй спыніўся, пастаяў і пайшоў далей. Потым вярнуўся назад, баязліва пачаў узірацца ў Насціна акно, у якім вельмі сліпуча, як яму здалося, гарэла святло. І ён спалохаўся гэтага святла.

Андрэй і сам не ведаў, чаму ідзе да Тапарковай.

Калі яшчэ дома збіраўся да яе, думаў, што ў Насці пасядзіць, пагаворыць і пойдзе дамоў. Але толькі цяпер зразумеў, як усё гэта складана — ісці ў госці да адзінокай, незамужняй жанчыны, якая табе не падабаецца. Цалаваць жа яе давядзецца...

«Не, не магу, не магу! — падумаў Цімошак.— Што я ў яе забыў? Цалаваць? Не. Яшчэ падумае, што я таксама такі, як Пятро. І нашто мне гэта трэба?.. Дурань, што ў госці напрасіўся... Але калі абяцаў, трэба...»

Ён увайшоў у пад'езд і спыніўся каля Насціных дзвярэй. «А-а, ведаю, чаму я іду да Настассі,— думаў ён.— Каб менш работы давала, не прыдзіралася... Не, Насцейка, я табе не Пятро Храпач. Я з малых гадоў прывучаны да работы. І ніхто мяне не папракаў, што я лежань. У мяне рукі па рабоце свярбяць...»

Цімошак павесялеў, калі ўспомніў, што нядаўна сустрэў прараба і той доўга ўгаворваў яго вярнуцца на будоўлю.

«Не, пасля свята ўсё роўна кіну вашу «залатую работу». А табе, Тапаркова, у вочы скажу: «Ну, Насця, жадаю табе шчасця...»

Андрэй выйшаў з пад'езда і пайшоў па вузкай заснежанай вуліцы. Вулка з кожным крокам шырэла, прастарнела. З адчыненай форткі ў нейкай кватэры вырвалася чыстая, меладычная музыка. Куранты апошні раз у гэтым годзе адлічвалі час. І раптам у Цімошака нехта ўляпіў снежкаю, і за яго спіною пачуўся ўрачысты смех. Ён абярнуўся і замёр. На вуліцы стаяла Насця.

Ён глыбока засунуў рукі ў кішэні, уздыхнуў і не азіраючыся таропка пайшоў далей.

Яе раскацісты смех, паступова слабеючы, патухаў за яго спіною.

# У БАЛЬНІЦЫ

У тую вясну я моцна прастудзіўся і трапіў у бальніцу. У палаце нас было двое. Трэці ложак пуставаў. У бальніцы людзі хутка знаёмяцца і зблізкаюцца. За дзень мы лёгка знайшлі пра што гаварыць, а вечарам, прыткнуўшыся лбамі да халоднага аконнага шкла, глядзелі на агні нашага раённага гарадка, думалі кожны сваё.

Раніцай да нас з хірургічнага аддзялення перавялі маўклівага, шырокага ў тулаве мужчыну. Ён паздароўкаўся, распрануўся, лёг на ложак тварам да сцяны і цяжка ўздыхнуў. У палату ўвайшла ўрач, падсела да Кузьміча (так зваўся новенькі), пачала слухаць хворага, мацаць жывот.

— Не ўжо, не дапаможа. Паміраць мяне сюды прывезлі,— абыякава ўздыхнуў Кузьміч, як на пустое месца, зірнуў на ўрача, хвіліну задумаўся і спакойна, з нейкім гаспадарскім разлікам, дадаў: — Яно... памерці сёння страшна, а калі-небудзь — будзе лёгка. Э-эх, хіба ўволю нажывешся ці наясіся?

Людміла Сяргееўна, урач, памаўчала, паслухала і нас. Перад тым як пайсці з палаты, яна параіла зачыніць фортку.

На двары было маркотна. З цяжкага, набрынялага дажджом неба коса ішоў мокры снег і раставаў у халодных лужах. Пры адным позірку на вуліцу прахопліваў холад. Бываюць жа вясною такія маркотныя дні!

Пасля вячэры варочаліся з боку на бок на ложках, стараючыся заснуць.

— Томіцеся, хлопцы? — асцярожна і ціха азваўся Кузьміч.— Трэба цярпець. Адразу душу не выплюнеш. Гэта я пра сябе... вам што! Жыццё наперадзе. А мне вось прыйшоў час адыходзіць на той свет.

— Куды там! Вы яшчэ нас перажывяце. З такой

кампл̆екцыяй і сто гадоў пражыць можна,— сказаў Валодзя, худы і высокі хлопец з шырокімі залысінамі на загарэлым ілбе.

— Пажыў бы калі-небудзь, а цяпер не,— квола матнуў ён калматай галавою.— Няма, хлопцы, апетыту. Харчы, яда для мяне цяпер быццам цяжкая работа. А не еўшы, хіба будзеш жыць? Бывала, скажу вам, ахвочы быў я да харчоў... Вала, здаецца, з'еў бы...

У маладосці, расказваў Кузьміч, быў ён вельмі здаровым. У вайну адзін цягнуў на агнявую пазіцыю саракапятку. І вось сагнула хвароба. Па праўдзе сказаць, віною ўсяму была не хвароба, а другое. Дапамагаў Кузьміч перасцілаць у канюшні падлогу, там жарабец і ўбрыкнуў яго пад пячонку. У раённую бальніцу яго прывезлі, бы нежывога. Хутка зрабілі аперацыю. Другі месяц у бальніцы, а колькі яшчэ яму тут ляжаць, ніхто не ведае. Не зацягваецца ў баку шво. Стомлены ляжаннем, уколамі, мікстурамі, ён вельмі сумаваў.

— Ну, які я работнік з такою прарэхаю? — жалобна гаварыў Кузьміч, абмацваючы дрыжачымі пальцамі рану, заклееную марляй.— І нашто тады жыць?

Кузьміч паглядзеў на нас і пра нешта падумаў, зноў азваўся:

— Прабачце, хлопцы. Вам трэба спаць, а мне... Яно так... Вы, вам... Маладым, як і здаровым, усё здорава. Эх, што там... Спаць будзем, браткі.

Прайшла яшчэ адна бальнічная ноч. Падсушанае за ноч марозам неба зноў размякла, зноў квола пасыпаўся дождж.

Да абходу да Кузьміча прыйшлі. Праз акно ён доўга і моцна размаўляў з вялікім круглатварым мужчынам у плашчы і памятай шапцы. Той яму нешта крычаў і, тулячыся ад дажджу, бязгучна смя-

яўся. Здавалася, што ён проста здзекаваўся з Кузьміча: нельга ж так шчэрыць зубы, размаўляць з хворым чалавекам. Кузьміч крычаў яму ў акно:

— Ты зайдзі да Насці, зразумеў? Вазьмі заклёпкі, у скрыні яны ў мяне. Скажы — я сказаў. Аддасць. На складзе іх цяпер — шыш. А разводны ключ у Грышы Бохана.

Наведвальнік па-ротфронтаўску патрос кулаком і знік. Кузьміч адышоў ад акна, сказаў:

— Вось бугай, бачылі? Рагоча, ржэ, як жарабец. Жартачкі яму. Куды ты, дурань, паміраць сабраўся, гаворыць. А для каго мы твой пасяўны агрэгат адрамантавалі? Вясна вунь прыйшла. Брыгада чакае.

— На перавязку,— у палату ўвайшла Людміла Сяргееўна, зірнула на Кузьміча.— Ідзіце да сястры ў працэдурную.

Кузьміч зірнуў на нас сумнымі вачыма і паслухмяна, быццам мядзведзь з цырка, патэпаў за ўрачом да дзвярэй. Хутка вярнуўся, цяжка падышоў да ложка, лёг. Дзвюма рукамі доўга трымаўся за жывот. У вачах — сум. Каля ложкаў туды-сюды хадзіў на доўгіх нагах Валодзя.

— Табе не сумна там аднаму? — буркнуў Кузьміч.

— Дзе? — не зразумеў Валодзя.

— Угары. Вунь які! Столь дастаеш галавою.

— Не ваша справа. Які ёсць,— агрызнуўся Валодзя.

Прыціхлі. І стала цяжка ад бальнічнай цішыні.

Перад вечарам з калідора крыкнулі:

— Кузьміч, на выхад! Жонка прыйшла.

Хвілін пяць ён ляжаў з задумлівым тварам. Потым падняўся, грозна на нас зірнуў:

— Ну, скажыце, чаго яна ходзіць? Кампоцікі, кефірчыкі носіць... разам са слязьмі. І охі-ахі!

Вярнуўся Кузьміч яшчэ больш раззлаваны.

— Вось вырабляе, га? Пуцёўку на мяне саўгас заказаў. У санаторый хочуць пасадзіць. Не патрэбны стаў, спісваюць... Прыйшла, узрадавала.

— Чаго ты крычыш, Кузьміч,— сказаў Валодзя, не адрываючы вачэй ад кнігі.— Цябе тут лечаць, ясі, п'еш дарам. І саўгас, бачыш, не забывае. Пуцёўка — справа добрая. Вось і ляжаў бы.

— Лежачы не працуюць.

— Не заўсёды рабіць, можна і паляжаць.

— Ляжаннем ураджаю не дапаможаш, сыты не будзеш.

— Накормяць, не хвалюйся.

— Гэта ты прывучаны не думаць пра ўраджай. Сеюць ці жнуць — для цябе гэта мёртвы інтарэс. А мы... Я, можа, і жыву для таго, каб гэтыя дзве справы добра рабіць.

— Пасеюць,— абыякава буркнуў Валодзя, быццам размова ішла пра фортку, якую трэба закрыць. Раптам ён узняўся на локці, паклаў на тумбачку кнігу, хутка загаварыў: — Не паношу стаханаўцаў. Трактар, камбайн яму падавай, брыгада чакае. Геррой! Толькі ў кіно ды кніжках так выпендрываюцца. То пра смерць думае, гаворыць, наганяе сум, то рвецца ў поле, быццам там без яго не абыдуцца.

— Абыдуцца, ніхто не спрачаецца,— ціха, зніякавелым голасам адказаў Кузьміч і неяк невідушча ўтаравіўся вачыма ў свае буйныя, белыя, нібы апараныя далоні, што ляжалі на каленях. Потым зняў піжаму і павярнуўся тварам да сцяны.

Прачнуліся мы ад яркага святла. У акне стаяла сонца, вочы жмурыліся ад нечага асляпляльна блакітнага і жоўтага. На сценах гойдаліся сонечныя, вясёлкавыя зайчыкі. Кузьміч, апрануты, гладка прычасаны, сядзеў на табурэце і глядзеў на неба. Ласкавае чаканне было ў яго запалых, чырвоных ад бяссонніцы вачах. Пасля снедання ён сказаў мне:

— Пайшлі глядзець зямлю.

Па лесвіцы мы падняліся на другі паверх, спыніліся каля акна, што выходзіла на захад. Перад вачыма стаяў малады бальнічны сад. Голыя галінкі дрэў былі абсыпаны маленькімі лісцікамі, падобнымі на зялёных матылькоў са складзенымі крыллямі. Кузьміч ціха таўхануў у плячо:

— Глядзі. Ды не туды. Падымі вочы.

За садам, ад асфальтавай дарогі і да далёкага небасхілу ляжала вялізнае поле. Сонца добра прыпякала зямлю, і, напоеная дажджом, яна дыхала парай. Нізам, зліваючыся з ворывам і паблісkваючы чорным глянцам крылляў, са святочным кагаканнем насіліся гракі.

— Вось яно як! — горда матнуў ён галавою. І зноў зажурыўся.

Я сказаў яму, што працую настаўнікам у райцэнтры, а раней, да вучобы, жыў у калгасе, араў, сеяў і таму разумею яго, хлебароба.

— Ладна,— махнуў рукою Кузьміч.— Тая прыходзіць са шкадаваннем, і ты... А мяне трэба біць. На фронце, памятаю, недарэкам лічылі таго, хто перад наступленнем трапляў у шпіталь.

У палаце выстаўлялі зімнія рамы. Цесна прыгнаныя да касякоў, яны ніяк не паддаваліся санітаркам. Кузьміч узяў сякерку ў адной, лёгка выняў рамы з абодвух акон. На парозе з'явілася Людміла Сяргееўна.

— Хіба не турма, га? У турме работу хоць даюць,— сярдзіта гаварыў Кузьміч, а сам быў вясёлы, вочы яго блішчэлі, нецярпліва вадзіў далонямі па каленях, быццам яны свярбелі. У сталовай ён бесперапынку гаманіў, потым, калі вылез з-за стала, пайшоў на другі паверх глядзець на зямлю. У наступны дзень ён зноў прыйшоў вясёлы, сонечны. Хадзячым хворым дазволілі пагуляць у садку. Мы хадзілі, сту-

палі па леташніх лісцях, праткнутых зялёнымі іголкамі маладой травы. Свежым, прэсным водарам тхала ад зямлі. Каля старой клумбы завіхаліся з лапатамі і граблямі жанчыны. Кузьміч падышоў да іх, паздароўкаўся, забраў у адной лапату і пачаў капаць сакавіты, тлусты чарназём. Потым прысеў, узяў кавалак зямлі, размяў на далоні, панюхаў, усміхнуўся:

— Самы раз. Заўтра, мабыць, нашыя паедуць у поле.

Недалёка бялілі дрэвы.

— Калі вам так хочацца памагчы, вазьміце граблі,— падышла да Кузьміча Людміла Сяргееўна.

Кузьміч прыплюшчыў вейкі, адступіў назад, пастаяў і, моўчкі ўзяўшы лапату, капнуў раз, другі...

— Справа ваша,— сказала ўрач.— Як жа вы вылечыцеся?

— А так! На жывых касцях мяса зажыве. Засохне, як на сабаку,— упэўнена і весела крыкнуў ёй Кузьміч і з нейкай прагай накінуўся на зямлю. Я ішоў побач, граблямі разраўноўваў клумбу. Добра было дыхаць свежым паветрам, адчуваць забытую пругкасць мускулаў, злізваць з губ салёную сухасць поту.

— Без гаспадара зямля круглая сірата,— як прымаўку, паўтараў ён і ўсё падроўніваў, гладзіў лапатаю клумбу, ласкава бурчэў: — Вось так, мілая, так, галубка.

Шырокі добры яго твар паружавеў, на лбе і ніжняй губе выступілі кропелькі поту.

Пасля абеду ён лёг на ложак, зняў з сябе мокрую сарочку, прыкрыў ёю твар, соладка і задаволена пачаў уздыхаць:

— Пахне! Трэба ж...

Глыбокае, шумнае, на поўныя лёгкія дыханне запоўніла палату. І ад гэтага дыхання і цёрпкага паху здаровага поту ажылі і заструменіліся ў памяці кар-

ціны: зялёны вясёлы сенакос, марыва над лугамі, срэбраныя пырскі конікаў з-пад ног, касцы ў цяньку бяроз, іх глыбокі сон, у якім і волатаўская шырыня, і дзіцячая святочнасць працаўніка. І часовым непаразуменнем здалося наша знаходжанне ў бальніцы. Верылася: заўтра ўсё зменіцца, усё будзе інакш.

## ВЯСНОЮ

Начамі падмарожвала, але калматыя коцікі вярбы не баяліся холаду. З кожным днём іх распускалася ўсё больш і больш, і тонкія галінкі, абагрэтыя цёплым сонцам, харашэлі ад пульхнай, густой жаўцізны. Апоўдні з дахаў дамоў звісалі тоненькія, звонкія матузкі струменьчыкаў вады, увечары з поўдня патыхаў мяккі, цёплы ветрык, настоены на пахах адталай зямлі.

Вясна.

У гэтую пару, у час цёплых вятроў, у месяц вясновай радасці і ласкавага суму, у мяне і ў маіх таварышаў па класе ў голасе была яснасць, а на сэрцы ціхі спакой. Па-ранейшаму я ўважліва слухаў настаўніка, рукі мае паслухмяна ляжалі на стале, на якім вострым нажом было выразана: «Хай збудуцца мары Білі Бонса!» За гэты надпіс мне некалі добра перапала. Мяне прымусілі пасля ўрокаў замазаць яго фарбай, але надпіс усё ж можна было прачытаць і цяпер. Па-ранейшаму мы на перапынках давучвалі ўрокі, ганяліся адзін за адным і, канечне, не прапускалі выпадку паскубці за косы дзяўчынак на калідоры. Усё было, як і раней. Нават спражэнне нямец-

кіх дзеясловаў не зрабілася нуднейшым у час першых прыкмет вясны.

...Над горадам ляжала ноч, калі я выйшаў з дому і пайшоў да сваіх сяброў. Трэба было занесці Валодзю кнігу, зайсці потым да Толіка і пагуляць у шахматы. Я ішоў, раструшчваючы на тратуары чаравікамі ледзяшы, пільна глядзеў сабе пад ногі — цьмянае святло вулічных ліхтароў ледзь прасочвалася праз бель густога туману. На паваротку я ледзь не наткнуўся на пару. Убачыўшы хлопца і дзяўчыну, хацеў незаўважна абысці іх, але мяне раптам зацікавілі словы, якія пачуў. А праз хвіліну, схаваўшыся за старую ліпу, я з прагнасцю лавіў кожнае іх слова. Я не меў звычкі падслухоўваць чужыя размовы. Я добра ведаў, што гэта дрэнна. Што ж тады мяне зацікавіла ў гэтай пары і прымусіла хавацца за дрэва? Ды тое, што гаварылі яны пра каханне. Пакуль, праўда, не гаварылі пра яго, але я ведаў, што вось-вось пачнуць гаварыць. Пра тое каханне, пра якое чытаў у кнігах і бачыў у кіно. Але тут быў зусім другі выпадак: пра каханне будуць гаварыць не героі раманаў ці фільмаў, а жывыя людзі, што стаяць блізка ля мяне. І нічога дзіўнага не было, што я застаўся падслухаць.

— Не спяшайся, пастой са мной, Ірка! — прасіў хлопец, трымаючы дзяўчыну за руку.— Яшчэ трохі пагуляем. Ты заўсёды рвешся дамоў. Дом ад цябе не збяжыць. Хіба табе са мной дрэнна?

— Што ты, Віця! Мне з табой цікава, але трэба ісці дамоў. І так вунь куды забрылі. Маці будзе сварыцца, калі позна вярнуся.

Хлопца я адразу пазнаў па голасе. Гэта быў Віцька Чарнецкі — механік з электрастанцыі. Смуглатвары здаравяк, ён добра гуляў у футбол і выдатна разбіраўся ў матацыклах. Дзяўчыну я не ведаў.

— Пайшлі. Позна.

— Не, не пойдзем,— настойліва сказаў Віцька.— Не пойдзем, пакуль не скажаш. Хопіць гуляць у хованкі.

— Потым, Віця, скажу, не цяпер.

— Чаму — потым? Лепш адразу скажы. Цяпер...

Яны перайшлі на другі бок вуліцы. Віця ўсё нешта горача даказваў ёй, пераконваў. То злаваў, то прасіў. А дзяўчына адказвала коратка, строга і ўсё цягнула яго за рукаво, каб не спыняцца, каб не было гэтай размовы, якую, як я зразумеў, яна не хацела весці.

За імі, як загіпнатызаваны, плёўся і я. Хаваўся, каб яны мяне не заўважылі, за дрэвамі, за вугламі дамоў. Ішоў воддаль, не чуў іх размовы, ішоў сам не ведаючы, чаму і нашто, але ўжо не мог спыніцца, быццам і для мяне ў іх размове было нешта важнае і патрэбнае мне самому.

Нарэшце яны спыніліся каля двухпавярховага дома. Ліхтар асвятляў толькі рог дома і частку двара, абнесенага высокім плотам. Іх постаці зноў раставалі ў цемені. Я схаваўся, затаіўся, як злодзей, за цёмным вуглом.

Віцька стаяў спіной да варот, загароджваючы дзяўчыне дарогу дамоў.

— Хопіць выкручвацца, Іра. Кахаеш мяне ці не? Скажы!

Яна маўчала. А я ўвесь аж напяўся, прагна прыслухоўваючыся, чакаючы яе слоў.

— Не здзекуйся з мяне.

Яна маўчала.

— Кахаеш? — з надзеяй у голасе зноў спытаў ён.— Я цябе вельмі...

Іра не дала яму дагаварыць:

— Скажу, калі так просіш...

Яна адступіла назад і трапіла на святло ліхтара. І я добра яе разгледзеў. Дзяўчына як дзяўчына. Ні-

чога незвычайнага я не знайшоў. Твар самы звычайны. Дзесяць такіх дзяўчат, падумаў я, не варты папы былі мезенца класнага футбаліста Віцькі Чарнецкага. Яна зноў змоўкла, думала, што сказаць... Баялася, відаць, пакрыўдзіць неасцярожным словам Віцьку. Напружана маўчаў і ён. Затаіў дыханне і я.

— Ну вось,— пачала яна ціха.— Ты вельмі добры... І самы сапраўдны мой сябра... Мне з табою цікава... Але...

— Можаш больш не гаварыць,— здушаным голасам прамармытаў Віцька.— Я ўсё зразумеў... Дзякуй за добрыя словы. А хто... ён?

— Скажу аднаму толькі табе,— хутка загаварыла яна.— Няўжо сам не здагадваешся? Я яго даўно... а ён мяне — не ведаю.

— Гэты... з Дома культуры?

— Алег,— з сумнай пяшчотнасцю выдыхнула яна.

Я адразу ўявіў Алега Вашкевіча — вясёлага хлопца, нястомнага ў жартах, выдумках і танцах. Але я не мог супаставіць Віцьку з Алегам, каб іх параўнаць. Не паспеў, бо пачуў узбуджаны голас Віцькі.

— Чым жа я?.. Чаму ён?..— заблытаўся яго голас.— Чым жа?..

Віця адышоў ад варот, прыціснуў да грудзей руку. Дзяўчына скарыстала гэты момант і ўскочыла ў вароты. Ён рэзка абярнуўся, працягнуў быў руку, каб затрымаць дзяўчыну, але яна ўжо стаяла на другі бок і гаварыла:

— Не крыўдуй, Віця... Прашу цябе... І нічога не пытай... Так ужо здарылася... Хіба я вінавата ў гэтым? Прабач, Віця.

І яе туфлі таропка затупацелі спачатку ў двары, потым на ганку. Віцька нерухома стаяў каля варот і глядзеў у двор. Ён быццам не верыў, што Іра не вернецца назад да яго. І раптам — я не паверыў

сваім вушам — Віктар глуха заплакаў. Да гэтага я ўжо бачыў чалавечы адчай. Бачыў, як плачуць людзі, хаваючы блізкіх. Я ўяўляў, што такое гора, але ніяк не мог зразумець, усвядоміць той адчай, які ахапіў Віцю. Не мог паверыць, што Віктар Чарнецкі, той Віктар, які забаўляўся, як цацкамі, двухпудовымі гірамі на стадыёне, які нават не моршчыўся ад болю, калі яго моцна білі па нагах на футбольным полі, плакаў з-за маленькай нягеглай дзяўчынкі, якую без цяжкасці ён мог падняць адной рукой.

І мы пайшлі. Наперадзе ён, апусціўшы галаву, ззаду я, здзіўлены і разгублены. Я ішоў і не ведаў, што і думаць, ламаў галаву над тым, што нядаўна пачуў і ўбачыў, перажываў разам з ім. І быў у той час вельмі далёкі ад таго, каб зразумець глыбіню гэтага перажывання.

На другі дзень я ціха сядзеў у класе на сваім месцы і ўсё думаў і думаў пра ўчарашняе. Жарты на перапынках, дзіцячы надпіс на стале, выдумкі таварышаў здаваліся мне дзіўнымі і далёкімі. Я ўпарта думаў пра тое, што ўчора ўбачыў, і абыякава глядзеў праз акно на школьны двор, на якім бегалі дзеці. Мой позірк спыніўся на дзяўчынцы ў блакітнай шапачцы — у яе былі доўгія косы і вялікія шэрыя вочы. І я падумаў: няўжо некалькі слоў гэтага маленькага шэравокага стварэння некалі прывядуць у адчай якога-небудзь чалавека? Думаў і не пачуў нават, што настаўніца нямецкай мовы выклікала мяне да дошкі. І там я не пераставаў думаць пра тое ж. Урок я вяла адказаў, і нічога дзіўнага не было, калі настаўніца сказала:

— Сядай. Двойка!

— М-гу,— адказаў я.

— Што з табою? — здзівілася, паглядзеўшы на мяне, настаўніца.— Ты нейкі сам не свой.

— Нічога, пройдзе,— адказаў я.

Але я, мабыць, схлусіў. На сэрцы было тужліва і неспакойна. Гэта, відаць, праходзіла дзяцінства і пачыналася юнацтва.

## АНЮТА

Вясна была з прымаразкамі, з халодным, празрыстым і звонкім, бы шкляным, паветрам па начах. Палеткі і лес станіліся ад чакання цяпла. Раніцай лес абыякава сінеў удалечы, удзень трохі ачомваўся ад сну, і тады было відаць, як ходзяць у бакі, марудна расхістваюцца верхавіны дрэў, чуваць быў нават іх глухі пошум. І на палях, і на паплавах не пратыкалася з зямлі трава, вакол было сумна і гнятліва.

Медсястра Анюта Пяткевіч, дзяўчына з цёмнымі загадкавымі вачыма, таксама прытаілася і зацiхла, быццам чакала нечага незвычайнага і патаемнага, што ўладарна ўварвецца ў яе жыццё і зменіць яго. Медпункт, дзе працавала Анюта пасля вучылішча, быў у маленькім дашчаным доміку на ўскраіне вёскі. Расчыненыя насцеж аканіцы здалёку сінелі, як блакітныя канверты. Ганак з трыма прыступкамі быў маленькі, цесны. Анюта часта выходзіла на яго ў белым халаце і доўга глядзела з-пад далоні на лес з сумам і надзеяй — так глядзяць у неабдымнае туманнае мора, калі чакаюць белы параход і з ім вяртання некага на бераг.

Да Анюты рэдка прыходзілі прасіць дапамогі: у Зялёным Моху прывыклі не прыслухоўвацца да хваробы. А калі хто занядужае сур'ёзна, Анюта па тэлефоне выклікала «хуткую дапамогу» і адвозіла чалавека ў бальніцу. Але часцей за ўсё яна была адна,

сумавала без работы, ад штодзённага адчування адзіноты. У такія дні або марнавала час на ганку, або чытала кнігі пра каханне. Да медыцыны яе зусім не цягнула. За год ёй гэтая работа так абрыдла, што, калі б не Віктар Лабун, таемны яе каханы, Анюта даўно б кінула медыцыну. Кнігі ў яе былі самым моцным захапленнем... Калі чытала, дзіўна мянялася ў твары: блішчэлі яе цёмныя вочы, у іх разрасталася парывістае святло... І ў доўгія дні марыла паступіць на філфак, каб студэнткай прачытаць усе кнігі на свеце, якія напісалі пісьменнікі... Бо тут, у вясковай бібліятэцы, цікавых кніг было мала, і ўсе яна прачытала. З таго часу, як з палёў сагнала снег і паветра стала празрыстым, Анюта не знаходзіла сабе месца і кінула чытаць: вось-вось з горада павінен быў прыехаць Віктар, яе сусед. Пяць гадоў ён вучыўся ў інстытуце на агранома і вось, кажуць, узяў накіраванне ў свой калгас. Анюта ўсё паглядвала на шашу, што выходзіла з лесу. Па ёй час ад часу праскоквалі машыны, і сэрца яе балюча сціскалася, калі бачыла аўтобус, які спыняўся на павароце.

Прыехаў! Страх і радасць пранізвалі, здавалася, усё цела Анюты. Яна заплюшчвала вочы і ледзь не плакала ад роспачы, ад крыўды, што памылілася. Зноў чакае яе невядомасць...

Затое Анюта першай у вёсцы заўважыла пачатак сапраўднай вясны. Дыхала мяккім ветрам. Лес загаманіў пад праменнямі сонца, а ўвечары сабраліся хмары і хлынуў цёплы і шумлівы дождж.

Дождж... Вясенні дождж! Пабеглі, успульхірыліся ручаі. І ўсё раптам у адзін момант памаладзела, змянілася, ажыло... Раніцай не пазнаць зямлю, якая парылася ад цяпла, і ўжо дзе-нідзе яе прашылі зялёныя ніткі травы. А потым, не вытрымаўшы поступу вясны, бярозы распусціліся. Паветра напоўнілася хмельным, духмяным водарам, і Анюта хадзіла ад яго

як п'яная. І вось раніцай, калі ёй не спалася, яна пачула за акном першае кукаванне зязюлі.

— Ку-ку, ку-ку! — таямніча прабіваўся праз цішыню раніцы голас птушкі. У ім быў настойлівы заклік, жаданне жыць і радавацца вясне.

Анюта слухала птушку з нявытлумачаным хваляваннем у грудзях. Ёй захацелася апрануцца і пайсці на заклічны голас зязюлі. І яна апранулася і пайшла да зялёнай палоскі лесу, адкуль даносілася кукаванне, то глухое, то сумнае, як далёкі плач, то шчаслівае і радаснае, як само жыццё. Пра што кукавала птушка, што яна гаварыла сваім голасам свету? Пра гэта не ведала, не думала Анюта, але нешта няўрымслівa цягнула яе на гэты голас, як быццам ён клікаў толькі яе.

— Ку-ку, ку-ку, ку-ку! — плыла ёй насустрач песня вясны.

То спявала птушка на верхавіне бярозы. Праз густое лісце ледзь была відаць яе цёмна-шэрая спіна. Знізу пер'е ў птушкі было белае, з цёмнымі крапінкамі. Зязюля кукавала, растапырыўшы хвост, і ўздрыгвала ад напружання на тонкай галінцы. Яна прыляцела сюды, дамоў, з далёкага краю з цёплым ветрам.

Каб не спужаць птушку, Анюта спынілася ў полі, каля бярозавага гаю. У ціхай забыўлівасці, у трапяткім імкненні ўведаць патаемнасць песні яна доўга стаяла, слухала зязюлю. І раптам, калі птушка на момант замоўкла, зусім блізка ў світальнай цішы пачуўся глухі, узбуджаны воклiч — быццам нехта рагатнуў. І над галавою Анюты пранёсся лёгкі пошапт крылляў — то прыляцела на песню другая зязюля. Птушкі... Птушкі жывуць інакш, чым людзі, яны шчаслівейшыя за людзей...

Вось Віктар, калі прыязджаў на зімнія канікулы ў тым годзе, спачатку ў клуб на танцы вадзіў Аню-

ту, а потым перастаў запрашаць яе — пасябраваў з даяркай Ленай. І цяпер, гавораць, піша ёй пісьмы. Каб спадабацца яму, Анюта яшчэ тры гады назад пачала прыгожа апранацца, нават паступіла ў медыцынскае вучылішча: хацелася ёй не адставаць ад Віктара. Віктар, мабыць, і не ведае, што яна скончыла вучылішча. Як цяпер паглядзіць ён на яе, медсястру?

Зязюля змоўкла і больш не спявала. У гаі настоялася ціш, над зямлёй узнімалася вялікае сонца. Сумна было Анюце стаяць тут адной, прыслухоўвацца да цішыні, глядзець на сонца. Сэрца сціснуў боль, памакрэлі вочы. Яна адчула на шчоках слёзы, здзівілася ім і сказала чамусьці:

— Чаго я сюды прыйшла? Як дзіўна!

Яна і не заўважыла, як на скрыжаванні дарог спыніўся аўтобус і з яго выйшаў Віктар, высокі, у шэрым пінжаку, з белым, пад колер бярозавай кары, чамаданам у руцэ. Пра яго прыезд Анюта даведалася ад бацькі.

— Чуеш, дочка,— сказаў ён.— Віктар прыехаў. Аграномам будзе тут.

Анюта разгубілася. Нічога не гаворачы, яна падышла да акна. З іх хаты добра быў відзён двор Лабуноў, агароджаны нізкім штакетнікам. Нікога на двары цяпер не было. Яна гатова была зваліцца ад слабасці, якая ахапіла яе. Кружылася галава, моцна білася сэрца. Так моцна, што ёй здавалася: учуе бацька.

— Пойдзем сёння ў госці да Лабуноў. Звалі. Адзенься хораша,— сказаў бацька.

Анюта кіўнула галавою, але ўсё стаяла ля акна, цярэбячы ў руках кончык фіранкі. Твар яе быў спалоханы. Бацька даўно ведаў пра каханне дачкі, але ніколі не гаварыў ёй пра гэта, рабіў выгляд, што нічога не ведае. Перажыванні Анюты мучылі яго, і

сёння ён вырашыў, што настаў час памагчы ёй, бо сама яна ніколі не асмеліцца пагаварыць з Віктарам. «Нядобра так,— думаў сам сабе Іван.— Грэх мучыцца з-за кахання. Любяць цябе, і ты любі, а не... Нашто дарма пакутаваць? Сэрца павінна быць разумным».

Ён пяць гадоў жыве адзін з дачкою пасля смерці жонкі. Жыве ціха, спакойна. У калгасе ён цесля. Часам ён падрабляе збоку: робіць людзям рамы, насцілае падлогі ў новых дамах. І ўсё робіць грунтоўна, талкова. За гэта і паважаюць яго ў вёсцы. «Чалавек сур'ёзны,— кажуць пра яго.— Не халтуршчык, не бракароб. Душа радуецца, калі глядзіш на яго работу. Майстар!»

Так, Іван быў сур'ёзным чалавекам. Ён рэдка ўсміхаўся, мала гаварыў, больш маўчаў, пакручваў сівыя свае вусы. А калі што скажа, то заўсёды да ладу. Слова да слова ў яго кладзецца цесна. Пры ім і другія чамусьці стараліся гаварыць тое, што трэба. Адчувалася ў ім нейкая ўлада, яна міжволі падпарадкоўвала субяседнікаў. У свае пяцьдзесят гадоў Іван быў моцны мужчына: плечы шырокія, на далонях жоўтыя, цвёрдыя мазалі.

Збіраліся ў госці моўчкі, дачка — з сарамлівасцю і хваляваннем, з чаканнем нечага асаблівага для яе, бацька — з заклапочанасцю. Анюта апранула белую сукенку, пафарбавала губы, абула чорныя туфлі, бліскучыя, як антрацыт, і для смеласці пакруцілася перад люстрам. Дыхаць ёй было цяжка, шчымела ў грудзях, пякло ў твар.

Яны прыйшлі да Лабуноў, калі сіні паўзмрок разліўся па зямлі.

У чорным касцюме, пры гальштуку, Іван выглядаў салідна і быў падобны на нейкага начальніка. Паважна паздароўкаўся з гаспадыняй, суседкай Маланняй, пацісну́ў руку Віктару і, паляпаўшы яго па

плячы, сеў на табурэт, які паставіла яму гаспадыня. Малання заўсёды радавалася, калі ў яе хату заходзіў Іван, паважала яго. Маланнін чалавек памёр адразу пасля вайны, і яна жыве з таго часу адна. Анюта, калі ўбачыла Віктара, ледзь не самлела ад хвалявання. Бялявы чуб віўся хвалямі, блакітныя вочы яго з-пад броваў глядзелі пільна і ўважліва. Яна зусім разгубілася ад яго позірку і села на табурэт побач з бацькам.

— Анюта! — здзівіўся Віктар.— Добры дзень! Ты сёння як каралева!

Яна апусціла долу вочы, нічога не сказала, толькі яшчэ больш зачырванелася.

Бацька сказаў:

— Яна модніца! У яе адных сукенак штук васемнаццаць. І туфель выхадных аж сем. А кофтачак і не злічыць...

— Багатая некаму будзе нявестка! — загаварыла Малання, з павагай паглядаючы на яго твар. Ёй быў даспадобы Іван. Малання бегала перад ім сюды-туды, заглядала ў вочы.

— Выдаваць замуж не спяшаюся,— адказаў ён.— Жаніхі цяпер пайшлі ненадзейныя. За абы-каго Анюта і не пойдзе. Яна ў мяне вучоная і сур'ёзная.

Анюта засаромелася, але патроху супакойвалася, смялела, падняла на Віктара свае цёмныя вочы, якія свяціліся ад шчасця і трывогі, і амаль шэптам спытала:

— Ты ў нас будзеш працаваць?

— Ага. Я, Анюта, па зямлі засумаваў у горадзе. Там яе ў сне бачыў. У інтэрнаце лягу на ложак, заплюшчу вочы і бачу: поплаў, за ім лес, палеткі. Такі на сэрца сум нахлынае, хоць плач.— Віктар глянуў на яе і ўсміхнуўся.— Аднойчы ты прыснілася. Бяжыш па поплаве, мне махаеш рукою і нешта крычыш. А што — не пачуў у сне.

— Цікава,— прамовіла Анюта, адчуваючы ў грудзях прыліў вострага і радаснага пачуцця.

Маланя села каля Івана, задумліва падперла рукою падбародак, уздыхнула:

— Дзеці ў нас ужо дарослыя. Не заўважылі, як і выраслі. Хутка пажэнім і застанемся адны. Не баішся, Іван, што застанешся зноў адзін? Можа, жаніцца збіраешся?

— Куды мне жаніцца? Стары ўжо. Возьмеш чужога чалавека ў хату — гора не абярэшся... Стане яшчэ церабіць душу... Не, дажыву я свой век адзін...

— Канечне,— з сумам у голасе сказала Маланя.— Табе відней...

Іх словы не пранікалі ў свядомасць Анюты. Яна не зводзіла вачэй з Віктара. Віктар гаварыў мала, сядзеў за сталом, разамлелы ад чаркі, дамашняга цяпла, і пазіраў на гасцей. Ён думаў пра нешта сваё.

Іван вырашыў выведаць у Віктара пра яго жыццёвыя намеры.

— Ты чалавек цяпер відны. Аграном! Зямлю прымусіш даваць вялікія ўраджаі, на сходах будзеш выступаць. Ну, а з асабістым жыццём як? З навукай, браце, у абдымках па вуліцы не пройдзеш. Нагледзеў, можа, дзе сабе нявесту?

— Ёсць у мяне адна на прыкмеце,— прызнаўся Віктар і зірнуў на Анюту.— Мне яна падабаецца.

— З нашай вёскі?

— З нашай.

І зноў зірнуў на Анюту. Тая сядзела ні жывая ні мёртвая.

— Гэта добра. Нашто ў лес везці дровы?.. Так я кажу? У нас сваіх дзяўчат хапае, толькі выбірай. І граматныя ёсць: медыкі, настаўнікі...— Трывога за дачку не давала яму спакою, і ён ціхім голасам гаварыў Віктару: — Граматныя людзі любяць акуратнасць, чысціню. А вазьмі ты, скажам, даярку...

Анюта ад сораму аж гарэла. Віктар слухаў старога і загадкава ўсміхаўся. Гэтая ўсмешка нервавала Івана.

Гаспадыня адчула, што размова ідзе не ў той бок, куды трэба, і ласкава абазвалася:

— Ану іх, Іван. Яны цяпер жывуць сваім розумам... Нас не вельмі слухаюць... Нам трэба, суседзе, пра сябе думаць. Як будзем, старыя, жыць далей?

Іван не паспеў адказаць — у хату ўвайшла даярка Лена, тая самая, з якой на канікулах хадзіў Віктар.

Віктар адразу перамяніўся, выскачыў насустрач ёй з-за стала, узяў за руку і сказаў, звяртаючыся да маці:

— Прабач, мы трохі пагуляем.

Віктар з Ленай выбеглі за парог. У хаце стала ціха. У вачах у Анюты пачалі нагортвацца слёзы. Іван падняўся з табурэта і пачаў развітвацца.

— Пачакалі б,— прасіла іх Малання.

— Нельга,— сказаў Іван.

— Заходзьце яшчэ, не забывайце.

— Зойдзем. Суседзі ж.

Балюча на душы стала Івану, быццам яго абсарамацілі перад людзьмі. Як не сваімі нагамі ішоў ён па цёмнай вуліцы. Перад сваім дваром пачуў, што ззаду плача Аня.

— Татка, родненькі!.. Чаго мы да іх хадзілі?

— Не плач... Усё пройдзе, забудзецца...

— Паеду я адсюль. Паеду!

— Куды?

— Не ведаю. Кіну ўсё і паеду.

— Ты, Анюта, дарэмна так гаворыш...

Іван паціснуў плячыма і павярнуўся тварам да лесу, што цямнеў на ўзгорку. Над ім нізка вісела зеленаватая зорка, пасылаючы на зямлю мігуткае святло. І раптам адтуль, ад самай, здавалася, зоркі,

данёсся да іх голас зязюлі. Анюта ўздрыгнула і сталася. Па голасе яна пазнала, што гэта была не тая зязюля, што спявала раніцай, а другая, якая не знайшла сабе пару. Але птушка верыла ў сваю ўдачу. У яе кукаванні было столькі настойлівасці і прагі да шчасця, што Анюта ў песні зязюлі адчула водгалас свайго болю і яшчэ не патухлай надзеі. Нешта блізіла яе з гэтай птушкай. Яна прыслухалася і нечакана для самой сябе ўсміхнулася ў цемень.

## СТАРЫ

Яго хата стаіць у самым канцы вуліцы, каля выгану. Улетку стары прачынаецца рана і цэлы дзень тупае на сваім селішчы: збівае касою вакол хлява лебяду, ладзіць патрушчаны жывёлаю плот або нешта майструе пад паветкаю.

Лета. Ранкамі на зямлі ляжыць тоўстымі пластамі туман. Ён растае, калі ўзыдзе сонца. Стаяць доўгія сухія дні. Састагавалі сена, пачалі жаць жыта.

Стары ўжо чацвёртае лета не трымае карову, сена яму не трэба. Цяпер збірае грыбы, ягады. Нарваў шыпшынніку, наламаў каліны, звязаў у пучкі, павесіў сушыць у сенцах на сцяне. Зімою гэтае зелле выпарвае ў чыгуне, п'е адвар, калі заколе ў баку. Памагае. Цяпер назапасіў ягад. Засталося назбіраць і насушыць грыбоў.

Вось ідзе ён, накульгваючы, па выгане, кіруецца па сцежцы ў лес. На плячы ў яго вісіць новы, нядаўна сплецены з хваёвай дранкі кашэль. Ідзе, часта спыняецца, глядзіць па баках, нешта думае, зноў кранаецца з месца, памагае сабе ў хадзе кавенькаю.

Дзялянка ад вёскі не вельмі далёка, але ён доўга

туды ідзе. Калісьці на гэтым месцы хісталіся ад ветру высокія дубы, а цяпер засталіся ад іх толькі шырокія, плоскія пні. Вакол гэтых пнёў кожны год растуць апенькі, густа абсыпаюць іх з усіх бакоў. Сюды і ходзіць ён кожны раз па грыбы. Ды і не толькі ён. Назбірае грыбоў, сядзе на пень перадыхнуць. Кашэль каля пня, кавенька між каленяў заціснута, сядзіць, слухае лес. Ад вёскі да дзялянкі падступаюць сенажаці, а далей, за спіною, пачынаецца рэдкі бярэзнік. Ціха, не чуваць птушак, толькі высока ў небе выпісвае кругі каршун. Ціха, а дыхне ветрык, шкуматне куст, і зашапоча ён галінкамі, страсаючы ў кашэль рудое вузкае лісце. Потым затрапечацца, як жывая, заварушыцца лісцем асінка, паляцяць з яе роем чырвоныя, як агеньчыкі, лісці.

— Божа мой,— шэпча стары,— усё жыццё пражыў у лесе, а такога не бачыў хараства.

І так яму ўсё робіцца тут дарагім — да самай тонкай травінкі, да кожнага лісціка,— што аж зойдзецца ад радасці сэрца, соладка зробіцца ў грудзях.

Адпачне і зноў ідзе дамоў з поўным кашалём апенек. І доўга, зачапіўшыся за плячо, будзе цягнуцца за ім бялюткая павуцінка. Дома ён перабярэ апенькі, рассцеле іх пад сцяною на дажджавіку — хай сохнуць.

Чацвёртая пайшла ўжо восень, як, пахаваўшы старую, ён жыве адзін. Усё цяпер у хаце робіць сам. І падлогу мые, і есці варыць. Кухарыць раз у дзень. Раніцай варыць суп, увечары п'е чай ці малако, калі хто яго прынясе. Карову прадаў, збыў з селішча. Цяпер на двары бегаюць толькі куры — з імі няма вялікага клопату.

Сёрбаючы падагрэты суп, амаль не адчуваў яго смаку і не радаваўся, як раней, ежы. Часам стары прыгадваў той час, калі ён маладым рабіў у леспрамгасе, насіў бярвенні. Вось тады апетыт быў. У тыя

гады ён штодня насіў пад грудзьмі лёгкае пачуццё голаду. І не толькі яго. Доўгі час быў прагны і да работы, і да гульбы.

— Эх, дзе мае маладыя гады! — часта не вытрымліваў на людзях, падхопліваўся з месца, кідаўся ў скокі, біў далонямі па ботах.— Паказаў бы, як трэба «Лявоніху» выбіваць!

Ён і цяпер яшчэ з выгляду моцны, прысадзісты, толькі сухі, як струк. І ўсё ж адчуваў — знасіўся ўнутры, быццам тое, што ўсе гэтыя гады трымала сілу, парвалася ў ім. Пры цяпле ён цэлымі днямі на двары, на свежым паветры, увесь час тупае, варушыцца, бо наперад ведае, што ў непагадзь, у мароз давядзецца доўгімі днямі сядзець у хаце.

— Семдзесят дзевяты гадок ідзе,— кажа ён людзям.— Гады сваё бяруць.

— Да ста дажывеце, Данілавіч,— кіне хто-небудзь жарт.— Вунь Пятро старэйшы за вас, а яшчэ, бач, шустры.

— Параўнаў з кім,— пахітае сівою галавою стары.— Калі б ён так цяжка парабіў, як я, дык даўно б ужо на тым свеце быў. Пятро ўсё жыццё начальнікам хадзіў. То землямерам, то кладаўшчыком, то падаткі пасля вайны збіраў.

Быў у старога ў вёсцы равеснік, і яны хадзілі часцяком адзін да аднаго ў адведы. Атрымае стары пенсію, возьме ў магазіне бутэльку слабенькага, жаночага віна ды і пойдзе ў другі канец вёскі. Доўга сядзяць аднагодкі за сталом, гамоняць, успамінаюць колішняе і ніяк не могуць нагаманіцца. Потым выйдуць на ганак, доўга развітваюцца.

— Эх, прайшлі нашы гады!

— Назад іх ужо не вернеш!

— Хоць і цяжка, але ж добра пажылі!

— Праўду кажаш. Пажылі, парабілі. Хай маладыя так пажывуць.

— Куды ім да нас! Яны вунь машынамі не могуць парадку на зямлі навесці, а мы — усё голымі рукамі.

— Хоць і рукамі, а як, скажы, рабілі!

Змоладу стары любіць дзве работы: калоць дровы і касіць сена. Асабліва — касіць. Цяпер косы ў людзей пад стрэхамі ржавеюць, ужо і конных касілак не ўбачыш, машынамі рэжуць траву, а раней, бывала...

Часам ён бачыць сябе ў сне... Ідзе паперадзе касцоў, водзіць перад сабою касою, кладзе густую, як шчотка, траву; ранішняя прахалода студзіць расхрыстаныя грудзі; хораша пахне патрывожаная мята і вязель, дыхаць лёгка і вольна; прутка ступае па пакошы, вядзе і вядзе далей касу і ўсё пазірквае назад і радуецца, што далёка ззаду засталіся мужчыны — не могуць за ім управіцца, дагнаць.

Якую толькі работу не рабіў стары за сваё жыццё. Араў і сеяў, касіў, стагаваў сена, малаціў... Так — год у год. У апошнія перад пенсіяй гады не выпускаў з рук сякеру, ставіў у калгасе кароўнікі, гнуў палазы для саней, рабіў дзверы і рамы. Цяпер адышоў ад работы. Часам, пачуўшы стук сякер, ён ідзе паглядзець на зруб. Сядзе на гладка абчэсанае бервяно, пагладзіць яго, возьме ў пальцы трэскі, паднясе іх да твару і, заплюшчыўшы вочы, доўга дыхае смаляным пахам. Потым падымецца, папросіць сякеру, памацае пальцам лязо і асядлае бервяно, абчэша яму бакі.

У вёсцы кожны чалавек на прыкмеце. Жыве мужчына — ведаюць, што ўмее ён рабіць, а што не. Адзін добра цяслярыць, другі хвацка майструе дзежкі і бочкі, трэці ўмее ладна скласці печ. Два-тры чалавекі славяцца ў вёсцы тым, што яны вельмі лоўка могуць стагаваць сена. Іншы возьме ды так добра пакладзе на стог пласт сена, што стогаправу і рабіць няма чаго, нагамі прытопча — і толькі. Стары і сам

некалі быў першы ў вёсцы стагаўшчык, ставіў роўныя, высокія стагі — на заглядзенне людзям. Завершыць, бывала, стог, абскубе яго з усіх бакоў, абгладзіць граблямі, абкладзе роўным апоўзнікам, абаб'е насілкаю, адыдзе ўбок і доўга стаіць, цешыцца сваёй работаю і сам сабе ўсміхаецца. Не стог, а лялька! Людзі адразу пазнавалі стагі, якія ён клаў і вяршыў.

У гэтае лета яму вельмі закарцела пабыць на сенажаці, і стары пайшоў да суседа напрошвацца, каб узяў з сабою вяршыць стог.

— Дай хоць душу адвесці ля сена.

Запрасілі.

Насеклі лазы, склалі шырокі і высокі адзёнак, каб сена спадыспаду не мокла, не прэла, зняслі на насілках і паставілі на яго чатыры капы, распачалі стог.

— Ці не малы выйдзе? — пачухаў патыліцу сусед.— Сорак коп трэба ўкласці.

— Пяцьдзесят увернем,— супакоіў яго стары, узяў граблі, палез на сена і пачаў хадзіць туды-сюды па стозе, кружыць, утоптваць яго.— Паставім такі стог, што ніякі дождж, ніякі лівень яго не праб'е, не пройме.

І раптам зірнуў са стога на вёску, спыніўся і заціх, замёр.

— Не зявай, Данілавіч! — крыкнуў яму знізу сусед, кідаючы на вілах сена.— Прымай порцыю!

— Заглядзеўся я,— падхапіў граблямі, падгроб пад сябе сена і вінавата азваўся стары. — Вельмі ж наша вёска прыгожая, калі з вышыні на яе глядзець.

Вячэралі ў суседа. Гаспадар гучна сёрбаў боршч і яшчэ гучней гаварыў, што ў калгасе дрэнна плацяць. Учора ён скірдаваў салому і зарабіў толькі пяцёрку за дзень.

Стары не вытрымаў:

— Пяцёрка, кажаш, за дзень выйшла. Гэта ж вя-

лікія грошы — пяцьдзесят рублёў старымі. Возьмеш, бывала, іх у рукі, а яны ў пальцах не месцяцца. Вось гэта былі грошы, не раўня цяперашнім. Цяпер дробныя нейкія, няма што ў рукі ўзяць... І згубіць іх з кішэні лёгка. Скірдаваў учора, кажаш... Стогакідальнікам узяў адразу капу саломы і на скірду паклаў. Сядзіш у кабіне і толькі рулямі варушыш. А я, бывала, да такой капы пяцьдзесят разоў падбягу ды столькі ж навільнікаў на скірду закіну. Вось як... Далоні смыляць, мулякі лопаюцца, жывот трашчыць — вось-вось, здаецца, пуп ад натугі развяжацца... І грошай тады не давалі, працадні адны запісвалі... І нічога амаль на іх не давалі... Вось як... А ты — пяцёркі мала...

— Ты мне, дзед, пра колішняе не гавары,— абарваў яго гаспадар.— Я цяпер жыву. Я сеў на трактар — дай мне зарабіць. Так я кажу, га? А то — калісь. Калісь вы на валах у Маскву ездзілі.

— Ну, у Маскву дык не, а ў Гомель — часта. Ды не толькі на валах, але і на каровах ездзілі. Трэба, напрыклад, калгасніку бульбу прадаць, вопратку дзецям купіць, запрог карову і паехаў на кірмаш. Вала для такой справы ў калгасе не выпрасіш. Усё бывала. Вось як...

Стары падымаецца з-за стала, дзякуе ўсім за вячэру.

— Пабудзьце, Данілавіч, з намі. Аднаму абрыдне дома сядзець,— просяць гаспадары.

— Не, пайду. Даўно дома не быў... З самай раніцы.

І пойдзе дамоў. І знойдзе яшчэ работу ў сваім двары: дровы складзе пад паветкаю, у хлеў загоніць курэй, трэсак назбірае ў стары, дзіравы кашэль, каб запаліць у печы.

«Хутка бульбу трэба будзе капаць»,— з сумам і трывогай пачне ён думаць, пазіраючы на свае соткі,

і ўспомніць, як капаў са старою бульбяныя загоны.

Увечары выходзіць на двор, кладзе сабе на рукі бярэмак дроў, нясе іх у печ, потым засоўвае пад паленцы сухія трэскі і запальвае іх. Хутка пачынае гусці полымя, адганяючы на хату дым. Ён глядзіць, як абкручвае, абдымае дровы агонь, весела трапечацца, выгінаецца, ліжа ў печы цэглу, не знаходзіць там, у цеснаце, сабе ўжо месца, чырвонымі струменямі льецца ў комін, і лагадней робіцца на сэрцы ў старога — нібы бачыць перад сабою нешта жывое, свойскае, даўно знаёмае і блізкае.

І доўга сядзіць каля печы, глядзіць на агонь і думае пра блізкую смерць. З таго дня, як пахаваў жонку, смерць не выходзіла з яго галавы, але не палохала, ніяк не страшыла старога — усё на свеце мае пачатак і канец. Толькі хацеў ён аднаго — памерці на нагах, пры сваёй памяці. Баяўся, каб не скруціла перад смерцю хвароба і не паклала ў ложак — не хацеў рабіць людзям лішні клопат. Дрэнна вось толькі, што пахаваюць чужыя людзі. На вайне некалі яго магла знайсці смерць, але там можна было яе абхітрыць, абысці смеласцю, спрытам і знаходлівасцю, а цяпер ніяк яе не мінеш, не абыдзеш. Прыйшоў час — памірай. Што ўсім, тое і табе... І няма ніякага выбару. Калі б ён быў, між людзей пачаліся б сваркі і крыўды. І зайздрасць: я, маўляў, памру, а ты не. Паганых людзей тады багата засталося б жыць, а ім, разумеў стары, у першую чаргу трэба памерці. А ён пражыў сваё жыццё сумленна. Рабіў з малых гадоў, не хітрыў, не шукаў лёгкага хлеба, нікога не пакрыўдзіў, не падмануў. З жонкаю ладзіў. Адно дрэнна — дзяцей у іх не было. Гаварылі яму людзі: «Кідай, бяры другую!» — «Сваю лепш кідай, а маю языком не чапай! — крыўдзіўся тады стары.— Мы не сышліся, каб разыходзіцца. Ды і хіба яна вінаватая!»

Сам ён заўсёды хацеў дзяцей, але пры жонцы не гаварыў пра гэта, баяўся яе пакрыўдзіць. І цяпер з галавы не выходзіла адно: «Якія б выраслі ў іх дзеці, калі б яны былі?» Перабіраючы ў памяці пражытыя гады, стары радаваўся, суцяшаў сябе тым, што вельмі добра было яму жыць на зямлі, што побач з ім і ў дзяцінстве, і ў маладыя гады, у калгасе і на вайне былі добрыя, спагадлівыя людзі.

На двары ўжо цёмна. Ён уключае святло, тупае па хаце і не ведае, чым сябе заняць, забавіць. Пісьмо б цяпер напісаць, але няма каму. Былі тры сыны ў яго бацькі і маці, два не вярнуліся з вайны.

Падыходзіць да акна, доўга ўглядаецца ў цемень.

— Так,— скажа сам сабе, хітаючы сіваю галавою.— Так...

І ўсё яго жыццё з бядою і шчасцем убярэ ў сябе гэтае кароткае слова.

Стары тушыць святло, распранаецца, кладзецца ў ложак, доўга ляжыць, пагладжвае далонню, супакойвае, каб не балела, некалі параненую на вайне нагу і пад раніцу засынае.

## ПА КНІЖКУ

У Залессі пачатковая школа, бібліятэка ў ёй малая. Сеўка ўжо яе перабраў, перагледзеў. Кніжкі тут больш для першакласнікаў — тонкія, з малюнкамі. А тоўстых, каб можна было доўга чытаць, зусім няма. А чытаць ён вялікі ахвотнік. Прыйдзе са школы, паможа мацеры што-небудзь па гаспадарцы, падрыхтуе ўрокі — і вольны! Што далей рабіць? Зіма халодная,

на санках ці лыжах доўга не пакатаешся, з'ехаў дватры разы з горкі і змёрз. Ды і цямнее хутка зімою. А зімовыя вечары доўгія-доўгія, адна радасць, калі ёсць цікавая кніжка.

Вучоба Сеўку лёгка даецца. Настаўніца на бацькоўскім сходзе так і сказала яго маці: «Сын у цябе здольны, разумны чалавек з яго вырасце».

Сеўка ў маці адзін. Яна заўсёды называе яго падаросламу — Усевалад. Такое імя падабраў бацька. Ён, калі ішоў на вайну, прасіў у маці: калі народзіцца сын, каб назвала Усеваладам. Маці расказвала, што гэтае імя вельмі старадаўняе і бацька вычытаў яго ў кнігах, якія вельмі любіў. Бацькавы кніжкі Сеўка таксама спрабаваў чытаць, але нічога не зразумеў. Адклаў іх на потым, калі вырасце,— хацеў знайсці што-небудзь там пра сваё імя.

— Вось пойдзеш у сямігодку,— сказала маці,— пачнеш вывучаць гісторыю, там і прачытаеш пра ўсё.

У сямігодку Сеўка пойдзе ў наступную восень. Сямігадовая школа ў Грабным. Гэта ў шасці кіламетрах ад Залесся. Усе, хто вучыцца там, тыдзень жывуць у школьным інтэрнаце, прыходзяць толькі дамоў, у Залессе, у нядзелю.

Сцёпка, сусед Сеўкі, вучыцца ў пятым класе. Сеўка кожны раз у яго просіць, каб прынёс цікавую кніжку. А той усё аднекваецца:

— Збегай ды сам вазьмі.

— Як жа я вазьму? — здзівіўся Сеўка.— Мне ж не дадуць у вашай школе.

— А ты не ў школе вазьмі,— параіў яму Сцёпка,— а ў сельскай бібліятэцы. Там кніг багата — возам не забярэш.

І надумаўся Сеўка сам схадзіць па кніжку ў Грабнае. Збіраўся ён у бібліятэку ўсю зіму, але ў снежні — студзені стаялі вялікія маразы, з хаты нос

на вуліцу не выткнеш, у лютым гуляла завіруха, а ў сакавіку, у першыя дні, адпусціла ледзь не да адлігі, і Сеўка падумаў, што цяпер самы час збегаць у Грабнае.

У адзін дзень ён прыйшоў са школы, паабедаў, паклаў у кішэню акраец хлеба і пачаў думаць, як можна абхітрыць маці, каб пусціла ў дарогу. Самае лепшае было б сказаць, прызнацца ёй, што хоча збегаць у Грабнае, але яна не пусціць. Куды гэта, скажа, панясешся ў такую далеч.

Апрануўся, узяў торбу і — да маці:

— Я да Пецькі збегаю. Мы сёння дамовіліся разам урокі вучыць.

— Ідзі,— дазволіла яна.— Толькі дроў насячы.

Сеўка выкаціў з-пад плота доўгую, сухую жэрдку, хутка пасек яе на паленцы, схаваў пад паветкаю торбачку з падручнікамі, адвязаў з прывязі Шарыка і агародамі, каб не бачыла маці, выбег на дарогу, якая вяла ў Грабнае.

Ён перайшоў па мастку цераз зашэрхлы ад марозу ручай, пастаяў, паглядзеў на вёску і што было сілы прыпусціўся ў Грабнае. Шарык бег паперадзе. Хутка прытаміўся, задыхаўся, перастаў бегчы. Дарога вільнула ўбок, абагнула палетак і схавалася ў лесе. Яе Сеўка дрэнна ведаў. Ён толькі адзін раз быў у Грабным, калі хадзіў з маці ў бальніцу. Да гэтай дарогі Сеўка тады асабліва не прыглядаўся, толькі памятаў, што вакол яе стаялі роўныя бярозы. Цяпер усё было не так. Па абодва бакі дарогі раслі рэдкія кусты, на палетках было гола. Птушак нідзе не відаць. Ні аўсянак, ні снегіроў — яны падаліся да вёсак. Там, у агародах, ім лягчэй пракарміцца, перабыць халодную і галодную пару.

У мінулую зіму яму ўдалося злавіць пад рэшата снегіра. Спачатку ён усё лётаў па хаце, біўся аб шыбы і падаў на падаконнік. Потым ачомваўся, сядзеў,

несамавіта схіліўшы галаву, не спяваў, не хацеў кляваць проса, якое Сеўка сыпаў на сподак. Давялося выпусціць.

Вецер дзьмуў у спіну, падганяў. Часам Сеўка спрабаваў бегчы, але ў вопратцы, па снезе, доўга не прабяжыш, і ён зноў пераходзіў на крок, стараўся ісці па вузкай каляіне. А чорны калматы Шарык без стомы бег, часта прыпыняўся і пазіркваў на гаспадара. Вось ён скокнуў убок, загруз, панюхаў нешта ў снезе, пырхнуў і вярнуўся на дарогу.

— Шарык, ты што? — крыкнуў Сеўка, падышоў бліжэй і ўбачыў заечыя сляды.

Сеўка ўмее адрозніваць заечыя сляды ад слядоў іншых звяроў і вызначыць, куды бег заяц. На гэты раз даўгавухі скакаў з бярэзніку ў бок рэчкі. Там, каля поля, рос малады асіннік, і зайцы бегаюць туды карміцца. Хлопчыку хацелася ўбачыць зайцаў, колькі разоў ён незаўважна падкрадваўся да асінак, але ніяк не мог іх там застаць, знаходзіў толькі на снезе сляды.

Лыжы яму зрабіў дзед Хведар. Ён быў ужо стары, не мог хадзіць са стрэльбай на паляванне, ставіў толькі ў маладых асінніках петлі на зайцаў. Сеўка прасіў дзеда, каб ён хоць раз прынёс яму жывога зайца, але той толькі ўсміхаўся ў жоўтыя вусы ды кашляў, выціраючы слёзы.

У тым жа асінніку, дзе ён падвартоўваў зайцаў, Сеўка аднойчы ўбачыў сляды, падобныя на гусіныя. Дзед растлумачыў, што гэта сляды курапатак. Ёсць птушка такая — курапатка, зімою яна белая. Таксама трымаецца бліжэй да вёскі, корміцца пупышкамі. А хутка Сеўка і сам убачыў курапатак — некалькі белых птушак кармілася за агародамі на рабінніку. Ён хацеў быў падысці да іх, але птушкі сарваліся з рабін і, часта трапечучы крыллямі, паляцелі ў лес. Потым Сеўка ўспомніў, што чытаў пра

гэтых птушак у кніжках Біянкі. Там было цудоўнае апавяданне пра тое, як хлопчык, сын лесніка, паляваў на курапатак у зімовым лесе.

Сеўка пачаў марыць, што некалі ён таксама купіць сабе стрэльбу, лыжы, стане, як дзед Хведар, паляўнічым.

Думаў, незаўважна падыходзіў да Грабнага, але не ведаў, як знайсці там бібліятэку. І спалохаўся, калі ў галаву ўскочыла, што бібліятэка будзе зачынена і яму давядзецца вяртацца дамоў з пустымі рукамі. Пахаладзеў увесь ад гэтай думкі. І хутка сам сябе супакоіў, калі зразумеў, што сёння субота — у такі дзень бібліятэкі не зачыняюць.

Ён спяшаўся і зусім не заўважаў, што вецер ужо моцна дзьме яму ў спіну і па шырокім, заваленым снегам полі паўзе, звіваючыся, пазёмка.

Бібліятэка была адчынена. Яна выходзіла дзвярыма на дарогу, і яе шыльду Сеўка заўважыў здалёк. Падышоў: ababiў нага аб нагу валёнкі, ніякавата патаптаўся каля дзвярэй і ўзяўся за клямку. Пераступіў парог, зняў шапку і баязліва паздароўкаўся. Чытачоў у бібліятэцы не было. За перагародкаю, каля акна, сядзеў у вайсковай форме сівы чалавек і, схіліўшыся над сталом, нешта пісаў. Ён не падняў галавы на стук дзвярэй, не паздароўкаўся ў адказ — быццам нічога не чуў. Сеўка ступіў да грубкі, паклаў на яе рукавіцы, каб пагрэліся, расшпіліў ватоўку і замёр на месцы, пазіркваючы на паліцы з кніжкамі.

Бібліятэкар перастаў пісаць, падняўся з-за стала, падышоў да перагародкі. Сеўка заўважыў, што ён зусім не сярдзіты. Правае рукаво ў дзядзькі было заткнута за шырокую папругу з зоркай.

— Ну, што скажаш? — спытаў аднарукі і, зняўшы акуляры, прыжмурыўся, уважліва паглядзеў на Сеўку.

— Я па кніжку прыйшоў,— сказаў Сеўка і засаромеўся.

— Па кні-жку,— працягнуў бібліятэкар.— А хіба ты не ведаеш, што тут бібліятэка для дарослых і дзецям мы кніжкі не выдаём? Акрамя таго, у школе ёсць свая бібліятэка. Чаму ты там не бярэш кніжкі?

— Я вучуся ў другой школе,— зусім збянтэжыўся Сеўка.— Я з Залесся прыйшоў.

— З Залесся! — здзівіўся бібліятэкар.— Пешшу прыйшоў па кніжку?

— Ага,— кіўнуў ён галавою.

— Хіба ў вашай школе кніжак няма?

— Ёсць, але я ўсе іх перачытаў.

— Вось малайчына! А колькі табе гадоў?

— Увосень адзінаццаць будзе. У чацвёртым класе вучуся...

— Так, так,— нахіліўся бібліятэкар да Сеўкі.— Ну, а прозвішча сваё не забыў?

— Не,— пасмялеў хлопчык.— Лукашэвіч я.

— Так, так,— зноў кіўнуў галавою дзядзька. Памаўчаў, потым асцярожна, ціха сказаў: — Бацьку твайго я ведаў. Разам на вайну ішлі.— Варухнуў пакалечаным плячом.— Дык ты адзін прыйшоў? І не пабаяўся ісці ў такое надвор'е?

— Я не адзін,— паглядзеў Сеўка на дзверы.— Нас двое.

— Чаму ж тады свайго таварыша пакінуў на вуліцы? Нядобра так. Замерзне ён там.

— Я з Шарыкам прыйшоў. З сабакам.

— З Шарыкам? — зарагатаў бібліятэкар.— Вось гэта таварыш!

Не вытрымаў, засмяяўся і Сеўка.

— Дык якую ж кніжку ты хочаш пачытаць? — павярнуўся бібліятэкар тварам да паліц.— Якую ж табе запісаць, га?

— Цікавую,— ступіў Сеўка да перагародкі.— І тоўстую, каб даўжэй яе чытаць.

— Цікавую, кажаш,— бібліятэкар працягнуў руку да кніжак.— Вось гэтая спадабаецца табе. Трымай!

І працягнуў яму вялікую тоўстую кнігу.

— «Два капітаны»,— зірнуў на вокладку і прачытаў уголас Сеўка і падняў на бібліятэкара вочы.— Пра вайну?

— Ага,— усміхнуўся бібліятэкар.— Не згубі толькі ў дарозе. Чытай уважліва, не спяшайся. Ды і не хадзі так далёка ў бібліятэку, вучнямі кніжку перадай.

— Я сам прынясу,— паабяцаў Сеўка і схаваў за пазуху кнігу.— Цяпер я дарогу добра ведаю.

Бібліятэкар паглядзеў у акно:

— Вось што, хлопец, заставайся тут. Дамоў сёння не ідзі. Хіба не бачыш, што завіруха пачалася — свету белага не відаць. Заставайся, заўтра раніцай пойдзеш. А маці скажаш, што начаваў у мяне. Заблудзішся яшчэ і прападзеш.

— Не заблуджуся,— ступіў ужо да дзвярэй Сеўка.— Мне нельга тут начаваць. Маці перапалохаецца, калі мяне дома не будзе. Ды і ў школу заўтра раніцай трэба ісці. Не заблуджуся. Мы з Шарыкам хутка дабяжым.

І, таўхануўшы плячом у дзверы, выскачыў за парог.

Шарык даўно чакаў на вуліцы свайго гаспадара і, калі Сеўка выйшаў з бібліятэкі, заскакаў, пачаў круціцца вакол яго. Сабака зразумеў, што прыйшла пара вяртацца дамоў, завізгацеў ад радасці, ахвотна пабег наперадзе Сеўкі.

Хутка вёска засталася ззаду.

Назад Сеўка ішоў не так хутка, як у бібліятэку,— стаміўся. Ды і вецер цяпер дзьмуў яму ў

твар, напіраў у грудзі. І дарогу перамяло пазёмкай — ногі цяпер танулі ў глыбокім, сыпкім снезе.

Сеўка глыбей насунуў на галаву шапку, уцягнуў у плечы галаву і пайшоў, штурхаючы плячом пругкі вецер. Часам ён спыняўся, адварочваўся ад завеі тварам, каб аддыхацца, пачакаць, калі яна трохі аціхне, потым зноў пачынаў грабціся па глыбокіх гурбах. Ішоў доўга, азірнуўся і спалохаўся — ад вёскі зусім мала адышоў, вунь нават хаты відаць праз завіруху. Ён зразумеў, што дамоў трапіць не хутка, дабярэцца, калі будзе цёмна, і пачаў быў думаць, каб вярнуцца назад. Можна папрасіцца на начлег у першую хату ці зайсці ў інтэрнат, у якім жыве Сцёпка, яго сусед, і пераначаваць там, але раптам успомніў пра маці, пра тое, што заўтра трэба ісці ў школу, і вырашыў ісці дамоў — што будзе, тое будзе.

Каб было не так сумна і страшна брысці па снезе, пачаў лічыць крокі. У кожным кіламетры, ведаў, тысяча метраў. Калі рабіць шырэйшы крок — метр, мабыць, будзе. Тысячу крокаў налічыў — кіламетр далоў. Пачаў ступаць шырэй, лічыць і раптам збіўся з ліку. Зноў пачаў. Доўга лічыў, ніколі не думаў, што так далёка да тысячы. Далічыў нарэшце і, не пераводзячы дыханне, пачаў зноў бубніць сабе пад нос лічбы, зноў ступаць па замеценай завеяй дарозе. У канцы кіламетра, падманваючы сябе, пачаў рабіць драбнейшыя крокі, каб толькі давесці да канца лік. Прайшоў другі кіламетр і зусім выбіўся з сіл. Убачыў каля дарогі вялікі, шырокі дуб, ступіў да яго, прысланіўся да камля, каб перадыхнуць. І тут раптам так разамлеў, што не было сілы нават паварушыцца. Здаецца, апусціўся б зараз, ссунуўся ў снег, заплюшчыў бы вочы і заснуў. Але зноў падумаў пра маці, пра тое, што яна недзе бегае па хатах,

шукае яго, не знаходзіць сабе ад роспачы месца, перасіліў сябе і выйшаў на дарогу.

Хутка зусім сцямнела. Завіруха трохі аціхла, і паваліў з неба густы снег. Дарогі зусім не было відаць. Сеўка стараўся ісці за сабакам. Цяпер крокі ён не лічыў, марудна ступаў па снезе, мацаў нагамі дарогу, каб не збіцца, напружліва глядзеў наперад, туды, дзе павінна быць вёска, але нічога не бачыў — перад ім стаяла глухая сцюдзёная цемень.

— Шары-ы-ык! — закрычаў ён што было сілы.— Шары-ык!

— У-у-у! — гудзеў, выў вецер.

А снег сек і сек у твар, вецер запіраў дых, не даваў ісці. Сеўка ступіў наўздагад і адразу загруз па пахі ў снег — трапіў у канаву. Доўга гробся, валтузіўся, пакуль зноў не выпаўз на дарогу. Падняўся на ногі, ступіў некалькі крокаў і зусім збіўся з кірунку.

— Шары-ык!

Сабака не падбег, не абазваўся, і Сеўка ў адчаі падумаў, што Шарык кінуў яго, уцёк.

— Шары-ык! — дрыжэў ад холаду і страху і крычаў ён у цемень.— А-а-а!

— Гаў, гаў! — кінуўся раптам яму пад ногі сабака.— Гаў!

— Шарык! — узрадаваўся Сеўка.— Дзе ты быў?

Сабака павярнуўся і, азіраючыся на гаспадара, пайшоў наперадзе.

«Ён ведае, чуе дарогу носам,— здагадаўся Сеўка.— Прывядзе дамоў, трэба толькі не адставаць ад яго».

І пайшоў за сабакам. Ішоў і размаўляў з Шарыкам, каб неяк адагнаць ад сябе страх і адчай.

Снег пачаў падаць радзей, трохі адступіла цемень, але вецер зноў перагонамі пачаў гнаць пад но-

гі пазёмку, і чуваць было, як па абодва бакі дарогі глуха шумеў бярэзнік. Шарык ужо не бег, а стомлена ішоў наперадзе Сеўкі, працярэбваў лапамі сцежку — нібы плыў па снезе. Сеўка ледзь паспяваў. «Толькі б не ўцёк,— думаў ён.— Калі збяжыць, прапаў я». Сеўка паманіў да сябе Шарыка, зняў са штаноў папружку і накінуў яе на шыю сабакі. Цяпер яны ішлі разам. Калі Сеўка пачынаў памалей ступаць, Шарык нацягваў у яго руцэ павадок.

Снег неўзабаве перастаў ісці, сціхнуў вецер. З-за хмар вызірнуў месяц, падсвяціў лес. Ішлі яны доўга. Сеўка некалькі разоў спыняўся і знямогла ссоўваўся ў снег, але Шарык пачынаў брахаць, падбягаць, аблізваць цёплым языком твар свайго гаспадара і зноў, павізгваючы, тузаць павадок. Сеўка падымаўся са снегу і зноў брыў, часта спатыкаўся, падаў, баяўся, каб не вырваўся з рукі сабака. Калошыны яго штаноў даўно вылезлі з валёнак, намоклі і задубянелі, закарэлі на марозе; расшпілілася на грудзях ватоўка, але Сеўка ніяк не змёрз, яму было нават горача ад цяжкай хады.

Шарык сваім сэрцам, мабыць, адчуваў бяду, у якую трапіў разам са сваім гаспадаром, ірваўся наперад, цягнуў на папружцы Сеўку, часта спыняўся, тыкаўся носам у снег і пырхаў — баяўся збіцца са следу.

Месяц то забягаў у хмары, то зноў выскокваў з іх, у лесе было ні светла, ні цёмна, трохі супакоіўся вецер, і цяпер Сеўку ўжо нічога не палохала, непакоіўся ён толькі пра адно: ці правільна вядзе Шарык? Можа, яны заблудзіліся ў завіруху і цяпер ідуць назад, у Грабнае? Яшчэ трохі прайшлі і выбраліся з лесу. Сеўка ўбачыў на палетку знаёмыя дубы, пад якімі ўвосень пасвіў кароў, і цяпер канчаткова пераканаўся, што хутка яны будуць дома.

Ён ужо не нацягваў у руцэ папружку, ішоў побач з сабакам, ласкава размаўляў з ім, абяцаў добра і смачна накарміць Шарыка, калі яны прыйдуць дамоў.

Мінуўся палетак, і яны ўбачылі агні ў вокнах хат. Сеўка зняў папружку з шыі сабакі, але той не пабег наперад — таксама стаміўся. Падышлі да сваёй хаты. На ганку Сеўка абабіў венікам з валёнак снег і хацеў быў узяцца за клямку, каб ісці ў хату, але ўспомніў пра торбачку з падручнікамі, якую схаваў ад маці, пабег пад паветку.

Калі ён пераступіў парог, маці сядзела за сталом, шыла яму сарочку.

— Бацюхна мой! — паднялася яна з лавы.— Дзе гэта ты так выкачаўся?

Сеўка хацеў быў схлусіць, што ён гуляў у хованкі, але паглядзеў на маці і прызнаўся:

— Я ў Грабнае хадзіў. У бібліятэку па кніжку.

І не вытрымаў, сеў на падлогу і заплакаў. Потым павячэраў, залез на печ, схаваўся за комін і доўга там адаграваўся. Маці вынесла Шарыку паесці, патушыла лямпу і пайшла спаць. Калі яна заснула, Сеўка крадком запаліў капцілку, паставіў яе каля коміна. Кнот ціха патрэскваў, з яго вілася пад самую столь, сучылася чорная, як дратва, нітка дыму; на двары зноў пачала шалець завіруха, вецер натужліва і глуха стагнаў у коміне, але Сеўка нічога не бачыў і не чуў — ён ужо жыў з героямі цікавай кніжкі.

А на двары, у цёплай кануры, згарнуўшыся на сене, спаў, уздрыгваў у сне Шарык. Яму сніўся гаспадар, цёмная завіруха і далёкая зімовая дарога.

# СОНЕЧНЫ ЛІВЕНЬ

## 1

Ён быў закаханы і паводзіў сябе пакорліва, як малое дзіця. Калі Тамара сказала, што хоча ўбачыць яго сяброў, Віктар адышоў ад акна, за якім ліў дождж, і зняў тэлефонную трубку.

— Прывітанне, качэўнік,— сказаў ён.— Пазнаў? Ты абяцаў учора прыйсці... Спраў заўсёды хапае. Прыходзь, я хачу цябе бачыць... Пазнаёмлю з Тамарай... Ага, з Томай.

Віктар паклаў трубку.

— Ён прыедзе пасля. Калі зможа...

Тамара паціснула плячыма.

— Ён на самай справе вельмі заняты?

— Ага. Мы працавалі некалі разам. Толькі я раней паехаў, а ён так і застаўся там, у тайзе... Сібірскі мядзведзь. Здаравенны... Паслязаўтра назад едзе... Прыязджаў у камандзіроўку... Быў на Палессі. У геолагаў.

Віктар абышоў стол. Тамара сядзела ў крэсле, і ён абняў яе за плечы. За вокнамі ішоў дождж, і ў пакой краўся змрок. Віктар пацалаваў яе. Ён улоўліваў пах тых жа духоў, што і паўгода назад, калі яны ўпершыню сустрэліся.

— Ты ведаеш, які я шчаслівы з табой,— сказаў Віктар. Ён зірнуў Тамары ў вочы, жартаўліва прыклаў руку да грудзей.— Я аддаю табе сэрца!

І схаваў свой твар у Тамарыных валасах.

— Ты ўжо раз аддаваў,— сказала яна.

— Дык і што?

Тамара памаўчала.

— Сядзь там! — Яна паказала рукою на табурэт.— Толькі перш адчыні акно.

Віктар падышоў да рамы, расчыніў яе насцеж, і ў пакой уварвалася густое шапаценне дажджу. Унізе блішчэў асфальт, слізгалі мокрыя парасоны і машыны. З вышыні яны здаваліся плоскімі. Было чуваць, як шапацяць шыны, стукаюць абцасы і глуха звініць у вадасцёкавых трубах вада.

Ён адшмаргнуў штору і павярнуўся. Віктару было за трыццаць. Ён насіў белыя кашулі, модныя гальштукі, быў хударлявы, статны і молада выглядаў.

— Дзякую. Цяпер сядзь там.

Яна сачыла, як ён абыходзіць стол. У яго быў шчаслівы твар.

Віктарава пакорлівасць раздражняла Тамару. У рэшце рэшт, хіба трэба выконваць усе яе жаданні?

Віктар сядзеў насупраць. На ім добра ляжаў цёмны касцюм, з верхняй кішэні якога тырчэла белая адпрасаваная хусцінка. Ён падторкнуў пальцам угору, бліжэй да вачэй, акуляры, што спаўзлі на кончык носа, і зноў сядзеў нерухома, паслухмяна, як вучань, глядзеў на Тамару.

«У яго прыгожы твар...— падумала яна.— Тонкі і сімпатычны... Некалі гэта ўсё роўна павінна здарыцца... Так можна адной і звекавацъ. Жыццё вельмі кароткае, каб яго пражыць так. А ён усё ж добры».

І спытала:

— Ты заўсёды будзеш такі ўважлівы і паслухмяны?

— Заўсёды! — крыкнуў ён і ўскочыў з табурэта, кінуўся да Тамары. Яна падняла руку.

— Пачакай, калі ласка, і сядзь там.

